## XII ГАДАВІНУ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БССР АД БЕЛАПАЛЯКАЎ АДЗНАЧЫМ ПОЎНАЙ РЭАЛІЗАЦЫЯЙ ПАЗЫКІ „4-га ЗАВЯРШАЮЧАГА ГОДУ ПЯЦІГОДКІ“

# ПАСТАНОВА

## Праўленьня Калгасцэнтра БССР і Наркамфіна БССР

## аб прэміяваньні калгасу „Гігант“, Крупскага раёну, за ўзорную работу па рэалізацыі пазыкі „4-га завяршаючага году 5-годкі“

Калгас „Гігант“, Халопеніцкага сельсавету, Крупскага раёну, пасьпяхова правёў пасеўкампанію, выканаўшы плян сяўбы на 108 проц., пасьпяхова праводзіць праполачную і сенаўборачную кампаніі. Зьяўляецца перадавым калгасам у раёне па выкананьні фінансавых абавязкаў перад дзяржавай. Калгас датэрмінова ўнёс 500 руб. сельска-гаспадарчага падатку 1932-33 году. Калгасьнікі датэрмінова і поўнасьцю разьлічыліся па падпісцы на пазыку „3-га рашаючага“.

Калгас „Гігант“ у рэалізацыі пазыкі „4-га завяршаючага году пяцігодкі“ дасягнуў вялікіх посьпехаў. Трохтыднёвы даход калгасьнікаў складае арыентыровачна 2 тыс. руб., падпіска-ж на новую пазыку дасягнула 2 тыс. 800 руб. альбо 140 проц. да трохтыднёвага даходу калгасьнікаў. Падпіскай ахоплены ўсе калгасьнікі ў разьмеры ад 20 да 150 рублёў. Старшыня камсоду тав. Мацкевіч падпісаўся на 150 руб., калгасьнік Буйвідовіч падпісаўся на 100 руб. і г. д. Падпіска працягваецца. Камсод і рэдкалегія насьценгазэты „Голас калгасьніка“ паставілі сваёю мэтаю дабіцца падпіскі калгасьнікаў ня менш як на 3 тыс. 500 руб.

Гэтых посьпехаў калгас „Гігант“ дасягнуў у выніку разгортваньня шырокай масавай работы і прымяненьне яе навейшых форм і мэтадаў. Насьценгазэтай разам з камсодам калгасу арганізаван спэцыяльны выпуск штодзённых нумароў насьценгазэты, прысьвечаны рэалізацыі пазыкі. Арганізавана дошка тэмпаў з паказаньнем перадавых і адстаючых брыгад і перадавых калгасьнікаў. З газэтных выразак цэнтральных газэт арганізавана дошка паказу хода рэалізацыі пазыкі па другіх калгасах і прадпрыемствах. Ва ўсёй рабоце шырока разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, грамадзкі буксір перадавікоў адстаючых. Уся масавая растлумачальная работа перанесена ў поле, у брыгаду. У час абедзеных перапынкаў і па сканчэньні работы практыкуецца калектыўная чытка газэт і правядзеньне лятучых мітынгаў. Асаблівай увагі заслугоўвае актыўная работа старшыні камсоду тав. Мацкевіча і насьценгазэта „Голас калгасьніка“.

На лятучым мітынгу, падагульваючы папярэднія вынікі рэалізацыі пазыкі, калгасьнікі калгасу „Гігант“ пастанавілі праз газэту „Калгасьнік Беларусі“ зьвярнуцца з адкрытым лістом да ўсіх калгасьнікаў і аднаасобнікаў БССР аб заканчэньні рэалізацыі пазыкі „4 га завяршаючага“ да дню вызваленьня Беларусі ад белапалякаў (11-е ліпеня).

Працягваючы падпіску ў сваім калгасе, калгас „Гігант“ узяў на грамадзкі буксір адстаючыя ў рэалізацыі пазыкі калгасы „Будаўнік культуры“ свайго сельсавету і „Пралетарскую перамогу“ Грыцкаўскага сельсавету. Адначасова калгасьнікі ўзялі на грамадзкі буксір аднаасобнікаў. Для чаго калгас „Гігант“ накіраваў буксірную брыгаду з лепшых калгасьнікаў фінфронту, на чале з старшынёй камсоду тав. Мацкевічам. Буксірная брыгада формы і мэтады работы свайго калгасу пераносіць у адстаючыя калгасы.

Выходзячы з гэтага праўленьне Белкалгасцэнтру і Наркамфіну пастанаўляе:

1. Старшыню камсоду калгасу „Гігант“ **тав. Мацкевіча** прэміяваць грашовай прэміяй у суме 150 р. і адначасова ўзнагародзіць яго граматай Наркамфіну БССР як лепшага ўдарніка фінфронту. Выдаць у распараджэньне праўленьня калгасу, камсоду і рэдкалегіі насьценгазэты „Голас калгасьніка“— 700 руб. для прэміяваньня лепшых калгасьнікаў-ударнікаў фінфронту і спэцкораў—300 руб., на набыцьцё неабходных прылад і кіруючай літаратуры для выданьня газэты 100 руб. і для патрэб культурна-бытавых устаноў (дзіцячыя ясьлі) 300 руб.

2. Для ўручэньня прэмій камандыраваць у калгас „Гігант“ сябра ЦКамсоду Калгасцэнтру тав. Фесько В. І.

3. Падтрымоўваючы пачын калгасьнікаў калгасу „Гігант“ аб заканчэньні рэалізацыі пазыкі да 12 гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў, прапанаваць усім калгассаюзам і райфа, шырока скарыстаўшы вопыт масавай работы калгасу „Гігант“ у рэалізацыі пазыкі „4-га завяршаючага“ і ў выкананьні другіх фінансавых мерапрыемстваў, перанёсшы яго ў практыку работы ўсіх калгасаў дабіцца заканчэньня рэалізацыі пазыкі да дню вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

Для правядзеньня гэтай работы мабілізаваць раённы фінансавы актыў і работнікаў калгассаюзаў, паставіўшы пытаньне перад кіруючымі раённымі арганізацыямі аб мабілізацыі раённага актыву з тым, каб ахапіць выездам усе калгасы і вёскі раёну.

12 гадавіну вызваленьня Беларусі ад белапалякаў адзначыць рапартамі перамог на фінансавым фронце, поўнай рэалізацыяй пазыкі завяршаючага году пяцігодкі па калгасьніках і аднаасобніках-сялянах БССР.

Старшыня Праўленьня Белкалгасцэнтру
**Міцькоў.**

Народны камісар фінансаў БССР
**Хацкевіч.**

XVIII
7925 (XII)
Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся
# Шляхі Калектывізацыі
13-14
1932
Ліпень
Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР



ЗЬМЕСТ



# Дванаццаць год сацыялістычнага будаўніцтва

11 ліпеня 1932 г. збываецца дванаццатая гадавіна вызваленьня Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ад белапольскай акупацыі.

**Дванаццацігодзьдзе вызваленьня БССР ад белапалякаў—слаўная гадавіна бліскучых перамог гераічнай Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі,—супадае з пераможным завяршэньнем у нашай краіне пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры за чатыры гады і ўступленьнем у другую пяцігодку пабудовы бяскласавага грамадзтва.** Гэтым кароткім тэзісам характарызуюцца тыя грандыёзьнейшыя сусьветна-гістарычнага значэньня перамогі па ўсіх франтох гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, якіх дабілася рабочая кляса, калгасьнікі і працоўнае сялянства БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і пры дапамозе брацкіх саюзных рэспублік.

Пад выпрабаваным кіраўніцтвам ленінскай партыі ў дванаццаты год са дня вызваленьня ад белапалякаў, на аснове вялізарнейшых посьпехаў у індустрыялізацыі краіны мы дабіліся поўнай перавагі сацыялістычнага сэктара ў сельскай гаспадарцы. Звыш паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'ядналіся ў калгасы. У раёнах дзейнасьці МТС па БССР на кожныя 100 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак больш 60 знаходзяцца ў калгасах. Дзевяць раёнаў БССР у асноўным завяршылі калектывізацыю і на яе аснове ліквідацыю кулацтва як клясы.

Ленінскае пытаньне „хто каго" вырашана ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы на карысьць сацыялізму супроць капіталізму.

Вялізарнейшыя посьпехі ў справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі забясьпечылі нябачныя тэмпы пашырэньня пасеўных плошчаў. Так, напрыклад, пасеўная плошча пад лёнам у другую калгасную весну павялічылася з 140 тыс. **га**, да 430 т. **га**. Яравых пасеваў на кожную калгасную сям'ю ў сярэднім прыпадае **4,04 га**, а на сям'ю аднаасобнай гаспадаркі толькі **2,43 га**.

Калгаснае сялянства стала цэнтральнай фігурай земляробства, асноўным і галоўным вытворцам ня толькі збожжа, але і важнейшай сельскагаспадарчай сыравіны.

Стара даўнія смык і саха — яскравыя паказчыкі эканамічнай і культурнай адсталасьці сельскай гаспадаркі Беларусі зараз заменены ў БССР на жалезны плуг і трактар. Насычанасьць сельскагаспадарчымі машынамі сучаснай вёскі БССР у некалькі разоў большая ў параўнаньні з даваенным пэрыядам. Сетка МТС БССР расьце з году ў год. Так, замест 27 МТС у мінулым годзе у бягучую веснавую сяўбу на сацыялістычных палёх БССР працуе 56 МТС з трактарным паркам—1.571 адзінка ці 18.205 конскіх сіл. Калі ў мінулым годзе МТС апрацоўвалі толькі 241.690 **га**, дык у бягучую пасеўкампанію МТС сваімі вытворчымі плянамі прынялі для апрацоўкі 524 315 **га**, або на 112 проц. больш, чымся летась. Калгасы, якія абслугоўваюцца МТС, маюць значныя гаспадарчыя перавагі ў параўнаньні з іншымі калгасамі.

На аснове разгортваньня сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва і пашырэньня тэхнікі МТС **„рабочая кляса Савецкага саюзу цьвёрда і ўпэўнена вядзе наперад справу тэхнічнага пераўзбраеньня свайго саюзьніка—працоўнага сялянства“ (Сталін).**

Працэс мэханізацыі і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў зьяўляецца працэсам перавыхаваньня калгасьніка — учарашняга аднаасобніка, ператварэньнем яго ў сьвядомага і актыўнага будаўніка бясклясавай сацыялістычнай грамады. Бо толькі **„матар'яльная база, тэхніка прымяненьня трактароў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыя ў масавым маштабе** можа перавыхаваць дробнага зямляўласьніка“ (Ленін).

Кіруючыся гэтым указаньнем Леніна, на аснове вырашэньня цэнтральнай задачы калгаснага будаўніцува—задачы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў—БССР шпаркімі тэмпамі ідзе да поўнага завяршэньня сацыялістычнай перабудовы нашай вёскі—да поўнага зьнішчэньня супярэчнасьцяй між горадам і вёскай.

17 партканфэрэнцыя ў дырэктывах да складаньня другога пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі ставіць зусім рэальную грандыёзьнейшую задачу: **„па сельскай гаспадарцы ажыцьцявіць завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі з тым, каб машына-трактарныя станцыі ахапілі ўсе калгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю сельскагаспадарчай вытворчасьці. Задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і сацыялістычнае перавыхаваньне калгасных мас павінна стаяць у цэнтры ўвагі другой пяцігодкі“.**

Суцэльная калектывізацыя вёскі ў другой пяцігодцы і ўзбраеньне сельскай гаспадаркі передавой машыннай тэхнікай—ператворыць сельскагаспадарчую працу ў разнавіднасьць індустрыяльнай працы.

Перад намі ў дванаццатую гадавіну вызваленьня Беларусі ад белапалякаў—на подступах да другой пяцігодкі адкрываюцца новыя грандыёзьнейшыя задачы. Гэтыя задачы выцякаюць з тых агульных пэрспэктыў нашага гаспадарчага і культурнага разьвіцьця, якія ўказала нам 17 партканфэрэнцыя, даючы дырэктыву аб складаньні другой пяцігодкі.

**„Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавай сацыялістычнай грамады“ (З рэзалюцыі 17 партканфэрэнцыі).**

У другой пяцігодцы ў нас будуць канчаткова ліквідаваны капіталістычныя элемэнты і клясы наогул. **Да канца другой пяцігодкі мы завяршым пабудову сацыялістычнай грамады, бо „сацыялізм ёсьць зьнішчэньне клясаў“ (Ленін).**

БССР, як неад'емная частка Савецкага саюзу, уступіла ў пэрыяд сацыялізму і гіганцкімі крокамі ідзе наперад да канчатковай пабудовы бясклясавай грамады ў другой пяцігодцы.

У той час, як у БССР узьнімаецца на нязьмерную вышыню эканомікі і дасягнула нябывалага росквіту нацыянальная па форме, а сацыялістычная па зьмесьцу культура, — там, па той бок граніцы, на Заходняй Беларусі пад белапольскай пятой фашызму—поўны гаспадарчы заняпад і сацыяльна-нацыянальнае прыгнечаньне.

У калісьці цёмнай, адсталай царскай правінцыі—сучаснай БССР,—дзякуючы цасьлядоўнаму правядзеньню правільнай ленінскай нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі, кожны год уступаюць у строй сацыялістычнай прамысловасьці новыя гіганты, фабрыкі, заводы. Валавая прадукцыя прамысловасьці БССР за адзін год даведзена да 1 мільярду рублёў.

Там, на Заходняй Беларусі, пад ботам Пілсудзкага—поўны развал усёй гаспадаркі. Эканамічны крызіс на Заходняй Беларусі паралізаваў усё гаспадарчае жыцьцё. Завод за заводам, фабрыка за фабрыкай пад ударамі крызісу спыняюць сваю работу—новыя тысячы рабочых папаўняюць армію беспрацоўных, армію галодных, армію бяздомных ахвяр панаваньня сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня. Беспрацоўе і голад сярод шырокіх працоўных мас бесьперапынна расьце. Яшчэ горшае становішча чымся ў горадзе—на вёсцы.

**„Хто хоча бачыць галечу ва ўсёй яе жудаснай нагаце,** — піша адзін з буржуазных публіцыстаў фашысцкай Польшчы **Сьвентахоўскі,—няхай прыгледзіцца да яе на вёсцы, тут большасьць насельніцтва ядуць усяго два або адзін раз у дзень, пераважна бульбу.**

**Я ведаю сем'і, якія ўжо месяцамі ня бачылі сапраўднага хлеба. Пякуць яго амаль выключна з прымешкаю бульбы. Над гэтай агалеўшай масай кружацца, як каршуны — судовыя выканаўцы для спагнаньня падаткаў, якіх сяляне ненавідзяць і баяцца больш чым сьмерці, пажару, граду, крадзежу і ўсякага іншага няшчасьця“.**

**„Сёньня няма ў Польшчы чалавека,** — пісаў у перадавым артыкуле сацыял фашысцкі „Работнік“,— **які-б ня спыніўся над выказанымі ў свой час** словамі пана Вітоса (лідэр польскай кулацкай партыі „Пяст“—*Рэд.*), **які сказаў: „Ёсьць дрэнна і будзе яшчэ горш“.**

**„... Амаль на ўсіх большых фабрыках рабочыя і работніцы працуюць толькі па 2—3 дні, а найбольш чатыры дні на тыдзень. Толькі ў адной нафтавай прамысловасьці работа працягваецца пяць дзён у тыдзень“.**

Прыведзеныя вытрымкі фашысцкай прэсы яскрава характарызуюць сучаснае становішча фашысцкай Польшчы і яе каленій — Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Польскі фашызм у тупіку крызісу, напярэдадні ваенных авантур.

Зьверскія крывавыя катаваньні палітзьняволеных, якія адбываюцца ў засьценках дэфэнзывы, аб якіх так шмат пісалася ў нашым і ў замежным друку, узаконены фашысцкім урадам,—зьяўляюцца сыстэмай заспакаеньня тылу ў мэтах падрыхтоўкі „крыжовага паходу“ на Савецкі саюз.

У агульным ланцугу мерапрыемстваў польскіх імпэрыялістаў па падрыхтоўцы краіны да ваеннай авантуры, ролю „апрацоўшчыкаў грамадзкай думкі“ на Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне выконваюць прыхвасьні польскіх імпэрыялістаў — беларускія і украінскія нацыянал-фашысты, абліваючы памыямі нячуваных паклёпніцкіх выдумак сацыялістычнае будаўніцтва БССР і УССР і сьпяваючы гімны генэралітэту пілсудчыкаў за разгул карных экспэдыцый, за дзікія катаваньні палітвязьняў у

фашысцкіх засьценках, за „ўціхаміраньне“ Заходняй Украіны, за разгром ўсіх нацыянальна-культурных установ на Заходняй Беларусі, што па сутнасьці зьяўляецца ачысткай будучай прыфрантовай паласы ад „непажаданых элемэнтаў“.

Азьвярэлы польскі фашызм у лютай нянавісьці да рэвалюцыйных рабочых і сялян Заходняй Беларусі накіраваў у апошні час удары на адзіную культурна-асьветную арганізацыю працоўных — Таварыства Беларускай Школы. Таварыства Беларускай Школы было арганізавана ў Вільні ў 1921 г. і з году у год пашырала сваю работу на ўсю Заходнюю Беларусь. Гэтай адзінай культурна-асьветнай арганізацыяй была разгорнута па ўсёй Заходняй Беларусі вялікая работа: чыталіся даклады ў гуртках, засноўваліся бібліатэкі-чытальні, сродкамі, атрыманымі ад фізычнай работы членаў гурткоў, будаваліся народныя дамы, ставіліся спэктаклі і г. д. і г. д. Зараз фашызм рашыў ліквідаваць гэту адзіную культурна-асьветную арганізацыю. Віленскі ваявода забараніў чарговы гадавы зьезд ТБШ, які павінен быў адбыцца ў Вільні ў красавіку бягучага году.

Гэты чарговы крок сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня дыктатурай Пілсудзкага працоўных Заходняй Беларусі зьяўляецца непасрэдным крокам падрыхтоўкі да ўзброенага нападу на Савецкі саюз. Развал гаспадарчай сыстэмы Польшчы яскрава выражаецца ў тым, што яна, як жандар загніваючай Эўропы, рыхтуе ўзброены напад на Савецкі саюз.

Адзін японскі дзеяч вельмі правільна сказаў, што „Японія толькі выражае напрамак міжнароднай думкі“.—Капіталісты шукаюць выхаду з тупіка эканамічнага крызісу ў вайне і інтэрвэнцыі супроць СССР. Вайна ўжо вядзецца ў дастаткова шырокім разьмеры, але яшчэ большы размах ваеннай падрыхтоўкі. Тая вайсковая гарачка, якая ўжо адчуваецца на капіталістычнай біржы, гаворыць аб тым, што капіталісты рыхтуюцца да вялікай вайны і што небясьпека новай сусьветнай імпэрыялістычнай бойні і контррэвалюцыйнай вайны супроць СССР зараз моцна як ніколі.

Небясьпека вайны грознай ценьню навісла над усім міжнародным пралетарыятам ня толькі на ўсходзе, але і на захадзе, ідзе ліхаманкавая падрыхтоўка да вайны. Польскія імпэрыялісты адкрыта пішуць аб тым, што „лёс Польшчы рашаецца на палёх Манчжурыі“. Ваенныя заводы Эўропы і Амэрыкі адпраўляюць адзін за другім эшалёны ўзбраеньняў на Далёкі Усход.

Уся гэта складанейшая абстаноўка вымагае ад нас яшчэ большай пільнасьці ў адносінах да нашага ўнутранага і вонкавага ворага. У дзень дванаццатай гадавіны вызваленьня БССР ад белапалякаў мы павінны правесьці агляд сваіх сіл пад лёзунгам— **„быць гатовым да працы і абароны!“**

**ПЯТРУСЬ БРОЎКА**

# Дванаццаты раз я вас праклінаю.

Мы ведаем ўсё.
Цану вашу знаем—
І крыўды вялікай
няма куды дзець...
Дванаццаты раз
я вас праклінаю
за зьдзекі,
за боль
і за сьмерць.
На сьцягах нясьлі вы
ману-апякунства,
а ладзілі бойку
з крывавых струн—
Вы дратавалі
вар'яцкім дзэікунствам
нашу вясновую
рунь.
Вы гэта несьлі—
шалёны мор
над нашым кідаючы
полем—
Сьлёз нашых матак
і нашых сясьцёр
ня вынесла-б Вісла
ніколі.
Хай в вашых частункаў
у нас знакі,
ы вам аддзякуем—
гэта...

Мы вырасьлі
моцныя бальшавікі
у вольнай краіне
Саветаў
І разьліліся
паводкай жывой.
У суладзьдзі расьце
калгас—
Мы ўзгадавалі
такое жніво,
якое ня сьніцца
для вас.
А там
вы няпрошана
селі за стол—
хаўтурны канчатак
ваш.
На косьцях нашых
заходніх братоў—
апошні вы граеце
марш.
Вы марш свой пачалі
ня тою актавай—
над вамі
падроблены золак
пагас...
Вы помніце нас—
тады,
пад Варшавай,
вы хутка
ўспомніце нас!..
Хай там па кафэ
і „танго“ і „джаз“
і прастытутак хоць роты
выстрай...
Пакутныя маткі
з пісягамі ад вас
гадуюць на бой
сыноў—камуністаў.
Іх ня стрымае
аніякі страх—
узьняцца ў баёх
бунтоўных,
каб горда пранесьці
чырвоны сьцяг
над вольнай
краінай працоўных.
А покуль над краем
нядоля гуляе
і ходзіць сьмяротны
час.
Дванаццаты раз
я вас праклінаю,
Вы хутка ўспомніце
нас!

# КОЖНЫ КАЛГАСЬНІК, КОЖНЫ БЯДНЯК І СЕРАДНЯК— АДНААСОБНІК ПАВІНЕН МЕЦЬ АБЛІГАЦЫЮ ПАЗЫКІ „4-Ы ЗАВЯРШАЮЧЫ ГОД ПЯЦІГОДКІ“

## Пераняць вопыт калгасу „Гігант“

*(Крупскі раён)*

Калгас „Гігант“, Халопеніцкага сельсавету, зьяўляецца адным з буйнейшых калгасаў раёну.

Калгас па-ўдарнаму правёў веснавую сяўбу з выкананьнем пляну на 108 проц. Зараз заканчваецца праполка і распачата сенаўборачная кампанія.

На адным з адказьнейшых вучасткаў работы— у рэалізацыі пазыкі імя „Чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“—прарыў. Заданьне выканана толькі на 44 проц. Насьценгазэта „Голас калгасьніка“ у спэцыяльным нумары, прысьвечаным рэалізацыі пазыкі, сыгналізуе аб прарыве, паказвае прычыны прарыву і робіць вывад, што заданьне па рэалізацыі новай пазыкі калгасам можа быць ня толькі выканана, але і перавыканана. Газэта паказвае перадавікоў і адстаючых.

— Прарыў патрэбна ліквідаваць. У перадавым калгасе не павінна быць прарыва. Нам сорамна быць адстаючымі. Мы занялі пяршынства ў сяўбе, у выкананьні другіх гаспадарча-палітычных кампаній і ў падпісцы на новую пазыку сваё пяршынство мы не павінны здаваць!

Па ініцыятыве насьценгазэты распачаўся лятучы мітынг па пытаньні ліквідацыі адставаньня ў падпісцы на новую пазыку. Слова ўзяў старшыня камісіі садзейнічаньня тав. **Мацкевіч**. Ён гаворыць коратка і выразна:

— Я сёньня быў у райкалгассаюзе, там мне сказалі, што наш калгас у падпісцы на пазыку адстае, гэтае адставаньне павінна быць ліквідавана. Пяршынство, якое мы занялі па сяўбе, пяршынство, якое было за намі ўвесь час па выкананьні фінансавага пляну,—не павінна быць здана і ў падпісцы на новую пазыку. Раней на пазыку „чацьвертага завяршаючага“ я падпісаўся на 100 руб., цяпер я падпісваюся яшчэ на 50 руб. і выклікаю на сацыялістычнае спаборніцтва ўсіх калгасьнікаў.

— Выклік Мацкевіча я прымаю, падпісваюся на 100 руб.,—заявіў калгасьнік **Буйвідовіч Антось.**

— Адстаючым я ня хочу быць. Лічбу падпіскі падвойваю—падпісваюся на 40 руб.,—гаворыць калгасьнік **Буйвідовіч Іван Рыгорау.**

Па прыкладу перадавых, разгортваючы індывідуальнае спаборніцтва, усе калгасьнікі падпісаліся на новую пазыку. Тут-жа падведзены вынікі. Падпіска складае 2 тыс. 800 руб. Заданьне выканана на 140 проц. Адстаючых брыгад па падпісцы на новую пазыку зараз няма.

Тут-жа на мітынгу было вырашана—зьвярнуцца з адкрытым лістом да ўсіх калгасьнікаў, беднякоў і серараднякоў—аднаасобнікаў БССР з заклікам аб заканчэньні рэалізацыі пазыкі да 12-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў. Насьценгазэтай была вынесена прапанова аб пасылцы буксірнай брыгады ў адстаючыя калгасы „Будаўнік культуры“ і „Пралетарскую перамогу“, Грыцкаўскага сельсавету, і ўзяцьці на грамадзкі буксір аднаасобнікаў— беднякоў і серараднякоў. Прапанова насьценгазэты была падхоплена.

Калгасьнікі абавязаліся датэрмінова ўнесьці першы ўзнос па пазыцы ў суме 700 рублёў і здаць 500 руб. сельскагаспадарчага падатку.

Вопыт масавай работы насьценгазэты і камсоду калгасу „Гігант“ лішні раз сьцьвярджае, што там, дзе праводзіцца шырокая палітычна-масавая работа,—заданьні па рэалізацыі пазыкі ня толькі выконваюцца, але і перавыконваюцца. **Вопыт гігантаўцаў павінен быць падхоплен усімі калгасамі, насьценгазэтамі і камсодамі.**

Насьценгазэта калгасу „Гігант“ першы кандыдат на сацыялістычнае пяршынство ў конкурсе на лепшую газэту па рэалізацыі пазыкі чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі.

**В. Феська.**



Калгасьнік падпісваецца на пазыку „4-ы завяршаючы год пяцігодкі“

# Да ўсіх калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў—аднаасобнікаў БССР

Тарарышы! 11 ліпеня спаўняецца 12 год са дня вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Шлях ад Кастрычніка 1917 году і ад 11 ліпеня 1920 г.—шлях барацьбы і перамог Савецкага Саюзу і яго неадлучнай часткі БССР на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва.

Пад выпрабаваным кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі і яе правадыра т. Сталіна рабочая кляса, калгасьнікі і ўсе працоўныя дасягнулі буйнейшых посьпехаў у барацьбе за пабудову сацыялізму.

Ужо зараз непазнаваемай стала наша краіна. Вырасьлі новыя буйнейшыя прамысловыя цэнтры, новыя гіганты мэталюргіі, машынабудаўніцтва, трактарабудаўніцтва, вырасьлі гіганцкія прадпрыемствы сусьветнага значэньня. Краіна пакрываецца сеткай магутных электрастанцый. З году ў год паляпшаецца матар'яльна-бытавое становішча шырокіх мас працоўных.

Вялізарнейшыя перамогі дасягнуты і ў сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі. На аснове сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі нашы калгасы і саўгасы занялі пануючую ролю ў сельскай гаспадарцы. Савецкі саюз з краіны дробнага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ва ўсім сьвеце земляробства. На аснове суцэльнай калектывізацыі праходзіць ліквідацыя кулацтва як клясы.

Выкананьне праграмы „трэцяга рашаючага году пяцігодкі“ забясьпечыла ў нашай краіне пабудову фундаманту сацыялістычнай экономікі. Ленінскае пытаньне „хто каго“ вырашана поўнасьцю і беспаваротна ў карысьць сацыялізму як у горадзе, так і ў вёсцы.

Адначасова ў краінах капіталізму абвастраецца і паглыбляецца жорсткі эканамічны крызіс. Для капіталізму апошнія гады—гады ўпадку ўсіх галін гаспадаркі: спыняюцца фабрыкі, заводы, тушацца домны, скарачаецца здабыча вугалю, падае вытворчасьць машын,—усё ўзмацняецца масавае разарэньне працоўнага сялянства. Жорсткае і ўсё растучае беспрацоўе выкідвае на вуліцы новыя тысячы беспрацоўных. Звыш 40 мільёнаў пралетараў выкінуты на вуліцу—на галодную сьмерць.

У завяршаючым годзе пяцігодкі мы павінны ўлажыць на капітальнае будаўніцтва, на пабудову новых фабрык і заводаў, МТС, саўгасаў звыш 21 мільярду руб. Гэтыя сродкі мы павінны адшукаць унутры нашай краіны.

Выпушчаная па патрабаваньні саміх жа працоўных пазыка імя „чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“ зьяўляецца магутным укладам у наша сацыялістычнае будаўніцтва. Рэалізацыя гэтай пазыкі павінна быць праведзена па-ўдарнаму. Па прыкладу перадавікоў рабочых фабрык і заводаў, калгасная вёска павінна не адставаць. Калгасьнікі павінны сваім уласным прыкладам зьявіцца застрэльшчыкамі рэалізацыі пазыкі сярод аднаасобнікаў—беднякоў і сераднякоў.

Няўхільны ўздым сельскае гаспадаркі Савецкага саюзу, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, рэалізацыя апошніх пастаноў партыі і ўраду аб збожжа-мясазагатоўках і разгортваньні калгаснага гандлю, рост на гэтай базе матар'яльнага і бытавога становішча калгасьнікаў і ўсяго працоўнага сялянства даюць магчымасьць ня толькі выканаць, але і перавыканаць плян рэалізацыі пазыкі на вёсцы.

Мы, калгасьнікі калгасу „Гігант“, Халопеніцкага сельсавету, Крупскага раёну, у пасеўную кампанію 1932 г. атрымалі новую перамогу,—занялі адно з першых месц у раёне, выканалі плян на 108 проц. Мы не здаем свайго пяршынства і ў рэалізацыі пазыкі імя „чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“.

На аснове разгортваньня шырокай палітычна-масавай работы, разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, разгортваючы новыя формы масавай работы (насьценгазэта, дошка тэмпаў, буксір і г. д.), мы дасягнулі выкананьня заданьня па падпісцы на новую пазыку на 140 проц. Падпіска складае 2 тыс. 800 руб. супроць заданьня ў 2 тыс. руб. Падпіскай ахоплены ўсе калгасьнікі. Мы датэрмінова ўносім першы ўзнос на пазыцы 700 руб. да 5 ліпеня. Адначасова мы ўносім датэрмінова 500 руб. сельскагаспадарчага падатку. Калгас цалкам датэрмінова пагасіў усе крэдыты ў суме 5 тыс. рублёў. Калгас ня мае ніякіх грашовых запазычанасьцяй перад дзяржавай.

З ліку лепшых ударнікаў—калгасьнікаў мы пасылаем нашу буксірную брыгаду ў калгас „Пралетарская перамога“, Грыцкаўскага сельсавету, і ў адстаючы калгас нашага сельсавету „Будаўнік культуры“. Адначасова мы бярэм на грамадзкі буксір аднаасобнікаў нашага сельсавету.

Таварышы калгасьнікі, беднякі і сераднякі—аднаасобнікі! Да дня вызваленьня Беларусі ад белапалякаў—11 ліпеня БССР павінна ня толькі выканаць, але і перавыканаць плян рэалізацыі пазыкі. Таварышы калгасьнікі! Сваім прыкладам вы павінны дапамагчы рэалізаваць пазыку сярод беднякоў і сераднякоў—аднаасобнікаў.

Наперад да новых перамог на подступах да другой пяцігодкі пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва!

# Дабіцца рэальных вынікаў у разгортваньні калгаснага гандлю

# ПРА САВЕЦКІ ГАНДАЛЬ

(*Артыкул старшыні ЦВК СССР* **М. І. Калініна**).

СНК Саюзу ССР і ЦК УсеКП(б) прынята 6 мая пастанова аб збожжазагатоўках і разгортваньні калгаснага гандлю збожжам, а 10 мая—аб плане жывёлазагатовак і аб мясным гандлі калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян. Гэтыя пастановы маюць выключнае значэньне для працоўнага сялянства і асабліва для калгасьнікаў.

Па-першае, значна скарочан плян збожжазагатовак у параўнаньні з мінулым годам. Значыць, выкананьне збожжазагатовак пры сярэднім ураджаі будзе куды больш лёгкай задачай, чым у мінулым годзе.

Па-другое, яшчэ да яравой сяўбы праведзена разьмеркаваньне пляну па вобласьцях. Гэта дало магчымасьць, прынамсі, у абласным маштабе, павялічыць плян яравога пасеву для большага ўласнага забесьпячэньня (клін азімых павялічан). Таму ёсьць поўная ўпэўненасьць у значным павялічэньні абласных збожжавых рэсурсаў.

Па-трэцяе, па скончэньні збожжазагатовак і стварэньні насенных фондаў, калгасы і калгасьнікі маюць права вольнага продажу збожжа, як на базарах, так і ва ўласных калгасных крамах.

Гэта пастанова ўраду арганічна выцякае, па-першае, з росту таварнай прамысловасьці; па-другое, з узбуйненьня (калектывізацыя) сельска-гаспадарчай вытворчасьці, паляпшэньня сельскагаспадарчых прылад і ўжываньня трактароў, што дае павышэньне выхаду таварнага збожжа ў вёсцы, па-трэцяе, з таго факту, што з кожным годам павялічваецца колькасьць таварнага збожжа, якое атрымліваецца дзяржавай ад саўгасаў.

Пастанова аб мясазагатоўках ідзе па тэй-жа лініі паляпшэньня гандлю паміж горадам і вёскай, разгортваньня тавараздвароту паміж калгасамі і фабрыкамі, стварэньня поўнай магчымасьці вольнага продажу сваіх лішкаў як калгасьнікамі, так і аднаасобнымі працоўнымі сялянамі. Для падштурхоўваньня такога тавараздвароту ўрад напалову скараціў плян мясазагатовак на астатнія тры кварталы.




Дастаўка пошты на поле ў брыгаду.

У даны момант як перад працоўнымі сялянамі, так і асабліва перад мясцовымі органамі ўлады стаіць задача—у поўнай меры асвоіць гэтыя пастановы ўраду і правесьці іх у жыцьцё. У пастанове проста гаворыцца: „Абавязаць мясцовыя органы ўлады аказваць у гэтым калгасам і калгасьнікам поўную садзейнасьць". Само сабой разумеецца, што ўрад, садзейнічаючы, дапамагаючы, падштурхоўваючы разьвіцьцё эканамічнай сувязі паміж горадам і вёскай шляхам вольнай куплі-продажу і ўнутрывясковага абмену, разам з тым катэгарычна ўказвае на неабходнасьць выкараненьня з гэтага тавараздвароту прыватнікаў і спэкулянтаў-перакупшчыкаў, якія захочуць выкарыстаць у сваіх карысьлівых інтарэсах такую магчымасьць.

Бясспрэчна гэтыя меры ўраду ўспрымуцца як калгасьнікамі, так і аднаасобнікамі з працоўных сялян вельмі станоўча, і на іх базе пойдзе разьвіцьцё савецкага гандлю.

Ня ў тым толькі справа, што ўрад дазваляе пасьля выкананьня дзяржаўных заданьняў па збожжазагатоўках і мясазагатоўках вольны продаж лішкаў, бо яшчэ ў *мінулым годзе* партыя ня раз *прымала* пастановы аб неабходнасьці разьвіцьця савецкага гандлю гароднінай і наогул прадметамі, якія не рэгулююцца дзяржавай. Асаблівасьць гэтых пастаноў ураду заключаецца ў тым, што абмяжоўваецца разьмер збожжазагатовак і мясазагатовак. Тым самым некаторая катэгорыя насельніцтва пяройдзе на рыначнае снабжэньне. Значыць базар зьяўляецца неабходным фактарам снабжэньня.

Лёзунг аб неабходнасьці разьвіцьця савецкага гандлю ўжо мае значную даўнасьць. Яшчэ ў маі мінулага году, па ініцыятыве тав. Сталіна, ЦК даў дырэктыву аб павялічэньні каапэрацыйных і дзяржаўных магазынаў. У адозьве СНК СССР, ЦК УсеКП(б) і Цэнтрасаюзу проста гаварылася, „што выцясьненьне прыватніка і прыватнага гандлю яшчэ не азначае зьнішчэньня ўсякага гандлю, што, наадварот, выцясьненьне прыватнага гандлю прадпалагае ўсямернае разьвіцьцё савецкага гандлю і разгортваньне сэткі каапэрацыйных і дзяржаўных арганізацый па ўсім СССР".

Кастрычніцкі пленум УсеКП(б) у мінулым годзе прыняў спэцыяльную пастанову аб разгортваньні савецкага гандлю, у якой гаворыцца: „бязупынны рост лёгкай прамысловасьці і ўзрастаючыя магчымасьці ў справе загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў забясьпечваюць больш шырокае разгортваньне савецкага гандлю і больш узмоцненае будаўніцтва новай сеткі магазынаў, чым гэта мае месца да гэтага часу...

Галоўнай прычынай, якая перашкаджае разгортваньню савецкага гандлю, зьяўляецца неразуменьне і няўменьне значнай праслойкі работнікаў каапэрацыйна-гадлёвага апарату перайсьці в рэек механічнага разьмеркаваньня тавараў на рэйкі разгортваньня савецкага гандлю".

Нарэшце, у дырэктывах да складаньня другога пяцігадовага пляну 17 партканфэрэнцыя асобна ўказала: „Толькі на аснове разгортваньня тавара

звароту магчыма забясьпечыць далейшае хуткае палепшаньне снабжэньня рабочых і працоўных вёскі прамысловымі таварамі і прадуктамі сельскай гаспадаркі, для чаго ў сваю чаргу неабходна ўсямернае пашырэньне сеткі магазынаў, крам і ўсёй гандлёвай сеткі, з правядзеньнем неабходнай тэхнічнай яе рэканструкцыі. Толькі на гэтай аснове можна падрыхтаваць скасаваньне нармаваньня водпуску тавараў і замяніць сыстэму цэнтралізаванага разьмеркаваньня разгорнутым савецкім гандлем“.

Бясспрэчна, усе гэтыя дырэктывы значна рушылі савецкі гандаль наперад. Асабліва каштоўна тое, што магазыны ня толькі каапэрацыі, але і прамысловых аб'яднаньняў і трэстаў спусьціліся да раёнаў.

У галіне гандлю прадуктамі харчаваньня асноўная работа падае на каапэрацыю. Не разважаючы аб аб'ектыўных прычынах, гэта работа пакуль-што нездавальняючая. У каапэрацыі пераважаюць тэндэнцыі голага разьмеркаваньня, у той час, як савецкі гандаль уключае ў сябе і ўменьне загатаўляць паміма дзяржаўных нарадаў.

Апошнія пастановы ЦК і СНК рубам паставілі перад каапэрацыяй пытаньне аб гандлі і, перш за ўсё, прадуктамі харчаваньня. База савецкага гандлю пашыраецца да яе натуральных межаў: на базар прыцягваюцца аднаасобнікі з працоўных сялян, калгасьнік і калгас, як вытворцы прадуктаў харчаваньня. Калі на першых парах на базары будзе пераважваць малочны тавараэварот, дзе прадавец прадае непасрэдна спажыўцу тавар, дык з узмацненьнем савецкага базару селянін павязе сьвіньню, цэлага барана, калгас можа накіраваць некалькі вазоў адразу сэзонных прадуктаў, якія патрабуюць хуткай рэалізацыі або асобнага хаваньня, што не па сілах калгасу. Калі асноўны попыт індывідуальных пакупцоў, якія абслугоўваюцца базарам—рабочых і працоўных будзе задаволен, хто зьявіцца пакупцом значных мас прадуктаў, якія застануцца? Ясна, што калі каапэрацыя ня будзе падрыхтавана, яны акажуцца ў руках спэкулянтаў. Хоча яна гэтага ці не, але савецкі базар будзе зьяўляцца экзамэнам мясцовай каапэрацыі. Зьяўленьне на базары спэкулянтаў будзе азначаць слабасьць каапэрацыі.

Мне прадстаўляецца падвойная роля каапэрацыі на базары. Па першае, яна павінна прыйсьці з тэхнічнай дапамогай да прадаўцоў прадуктаў. Напрыклад, паставіць стол і нават пры ім вопытнага чалавека, які-б мог расьсеч мяса і яго разважыць. Па-другое, яна павінна быць аптовым пакупцом. Калгасу вельмі часта можа быць выгадней здаць тавар з некаторай скідкай каапэрацыі, чым везьці яго на рынак. Адным словам, каапэрацыя павінна зьявіцца зручным, танным і выгодным абодвым бакам, г. зн. пакупцу і прадаўцу, пасярэднікам. У гэтым сутнасьць савецкага гандлю і, перш за ўсё, па гэтай лініі ідзе выкананьне каапэрацыйнымі работнікамі генэральнай лініі партыі. Але ні ў якім выпадку яе, каапэрацыі, закупкі не павінны садзейнічаць павышэньню цэн на рынку.

Між іншым, я чуў запытальныя рэплікі такога роду: а ці ня ёсьць усё гэта адступленьне ад генэральнай лініі партыі? Мне здаецца, што кожны, хто хоць чуць-чуць уважліва прачытае ня толькі пастановы ЦК і СНК, але і пастанову ЦВК і СНК аб парадку гандлю калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян, той зразумее, што ўсе гэтыя пастановы ідуць у разьвіцьцё пастановы ЦК і XVII партыйнай канфэрэнцыі аб савецкім гандлі, падкрэсьліваю—**савецкім гандлі.** Але зразумела, ўсякая справа, а тым больш базар, правільней базарны гандаль, з месца абмену паміж працоўнымі гораду і вёскі прадуктамі сваёй працы можа ператварыцца ў сваю процілегласьць—у месца, дзе спэкулянты-перакупшчыкі і прыватнікі будуць нажывацца за кошт рабочых і сялян. Вось чаму ў пастановах асобна і абгаворана неабходнасьць змагацца са спэкуляцыяй і прыватнікамі.

У нас былі таксама выпадкі, калі паасобныя каапэратывы замест таго, каб ехаць у вёску і загатаўляць прадукты, скуплівалі прадукты, якія прывозіліся на калгасныя рынкі, падымаючы цэны.

Трэба зразумець мясцовым работнікам, што гэтыя меры па сваім унутраным сэнсе нічога агульнага ня маюць з тым пэрыядам нэпу, калі дапускалася на пэўных умовах ажыўленьне прыватніка. Гэта стадыя даўно пройдзена. Сапраўды, выраб сельскагаспадарчых машын падняты на такую вышыню, калі можна абслужыць калектыўную буйную гаспадарку; дзяржава ўжо атрымлівае сотні мільёнаў пудоў таварнага збожжа ад саўгасаў; ня менш 70 проц. пасеўнай плошчы знаходзіцца ў руках калгасаў. Усё гэта дае такія арганізуючыя сілы дзяржаўным органам, што партыя і савецкая ўлада могуць зьмяняць напрамак іх работы з мэтай лепшага абслугоўваньня мас.

Практычная мэта пастаноў сёньня відна кожнаму: **падняць вытворчую актыўнасьць калгасьнікаў, пашырыць рынак сельскагаспадарчых прадуктаў, прыцягваючы на гэты рынак калгасьніка і працоўнага селяніна, які не знаходзіцца ў калгасе; лепш забясьпечыць рабочых, у асаблівасьці фабрычна-заводзкіх пасёлкаў, больш зьвязаных з базарам.** Але-ж апрача гэтых непасрэдных мэт трэба не выпускаць з-пад увагі і выцякаючых адсюль вынікаў. У кожным рабочым пасёлку ёсьць каапэратыў. Што-ж ён (каапэратыў), як пабочны глядач будзе бесстаронна наглядаць, як яго члены купляюць на рынку прадукты харчаваньня? Тады каапэрацыя ня выканае сваіх абавязацельстваў перад рабочымі і служачымі. Каб быць на вышыні свайго становішча, каапэрацыя павінна актыўна ўмяшацца ў гэты мясцовы тавараэварот.

У момант сэзону тых ці іншых сельскагаспадарчых прадуктаў рынак перапоўнены, але бываюць



На савецкім базары ў Менску.

перапынкі, ну, хоць-бы зімой, калі ўжо цяжка дастаць гародніну. Хто для мясцовага насельніцтва будзе замяняць базар?

У сэзон часамі на рынку зьяўляцца сотні вазоў з гуркамі, наўрад ці каапэрацыя ў гэты час зможа імі гандляваць, ды гэта і непатрэбна, гэта простая страта. А ў моманты танных цэн зьнімаць з рынку лішнія гуркі і загатаўляць іх для зімы—гэта ўжо абавязак каапэрацыі. Мала таго, яна павінна заключыць згоду з цэлым радам калгасаў аб дастаўцы імі зімой такіх прадуктаў, як бульба, морква, капуста і г. д. Зразумела, цана павінна быць адпаведна павышана, з улікам хаваньня і дастаўкі.

Вось калі каапэрацыя справіцца з гэтай цяжкай і складанай задачай, якая вымагае і веданьня справы і практычнай гібкасьці, значыць яны правільна зразумее задачы, пастаўленыя гэтымі пастановамі партыі і ўраду. Трэба яшчэ раз напомніць, што апрача ўсіх сельскагаспадарчых прадуктаў са студзеня, пасьля выкананьня збожжазагатовак, паступае на вольны продаж збожжа—адзін з найбольш манапольных і разам з тым неабходных прадуктаў. Хіба не абавязак каапэрацыі ў момант вялікага прывозу рабіць запасы, каб у часе недахвату забясьпечваць насельніцтва хлебам? Калі прадумаць усю зручнасьць новых умоў для каапэрацыі, то будзе ясна, што ўрад ва ўпор перад ёй (каапэрацыяй) паставіў задачу сапраўды навучыцца ня толькі разьмяркоўваць дзяржаўныя фонды, а іменна: арганізаваць сапраўдны савецкі гандаль. Хто ня бачыць гэтай мэты ў пастановах, той упускае іх соль.

Роля саветаў у разьвіцьці гандлю вялізарная.

Нельга-ж думаць, што даволі аднаго распараджэньня і ўсё пойдзе само сабой. Перш за ўсё трэба стварыць у горадзе або рабочым мястэчку хоць-бы колькі-небудзь спрыяючую абстаноўку, каб калгасьнік меў магчымасьць паставіць пад ахову каня, напіцца гарбаты, пры жаданьні пайсьці ў кіно, чытальню, навесьці спраўку па агранаміі, юрыдычных пытаньнях і г. д. Усё гэта павінна быць у базарны дзень да паслуг прыежджых сялян. Дарогі, якія вядуць у горад, пара прывесьці ў добры стан. Сам базарны пляц павінен быць зручным і па магчымасьці фурманкі разьмешчаны па роду тавараў, якія прадаюцца. Адным словам, горад павінен прыцягваць сам па сабе калгасьніка і аднаасобнікаў з працоўных сялян.

Зразумела, усе гэтыя дробязі маюць значэньне другараднае. Але асабіста, на што павінна быць зьвернута ўвага выканкома, дык гэта на разьвіцьцё вырабу прадметаў шырокага спажываньня. Галоўная труднасьць—не тэхнічныя або матар'яльныя перашкоды,—зразумела, яны ёсьць,—а настроі, якія стварыліся ў мясцовых людзей, быццам гэта работа ня мае вялікага значэньня. Вось тут, мне здаецца, трэба зрабіць рашучы пералом і паставіць у якасьці адной з важнейшых задач выканкомаў скарыстаньне наяўных і адшуканьне новых рэсурсаў для павялічэньня вырабу прадметаў шырокага спажываньня.

Ільготы, атрыманыя калгасьнікамі і аднаасобнікамі з працоўных сялян, вельмі значныя, але яны будуць тым большымі, чым лепш будзе апрацоўвацца зямля, бо галоўным паказчыкам збожжазагатовак усё-ж зьяўляецца колькасьць засеяных гектараў. Сельскагаспадарчыя вытворцы ў нас знаходзяцца ў выключна спрыяючых умовах: вялізарны рост прамысловасьці, а з ёй і гарадзкога насельніцтва, прад'яўляе вялізарныя патрабаваньні на сельскагаспадарчыя прадукты. Які-б прадукт ня быў, колькі-б яго не ўрадзіла, прамысловае насельніцтва ўсё закупіць, калі не на яду, дык на тэхнічныя патрэбы. Самая вытворчасьць абяцае добрыя рэзультаты, прымаючы пад увагу, што найбольш цяжкая першапачатковая ломка—пераход ад індывідуальнай гаспадаркі да калектыўнай—у асноўным канчаецца. Першая звалка зямлі зроблена. Барозны, межы, вузкія, дрэнна апрацаваныя і няўгноеныя палосы з палёў прапалі. Зьмяншаецца засьмечанасьць палёў. І, нарэшце, сельскагаспадарчая тэхніка—трактар з адпаведнымі прычэпнымі прыладамі,—усё гэта такія нова-набытыя сродкі, апіраючыся на якія было-б ня толькі недарэчна, але літаральна перад народам злачынна не падняць на вельмі значную вышыню ўраджай. Нават самы слабы вучастак—арганізаванасьць калгасаў—і тая значна вырасла. Цяпер, апіраючыся на накоплены вопыт, трэба ва што-б там ні стала дабіцца такіх рэзультатаў па вырошчваньні сельскагаспадарчых прадуктаў, якія-б адпавядалі сучаснай патрэбнасьці ў іх. Потым перад калгасам стаіць задача ня толькі вазіць тавар на базар, але і пры магчымасьці да гэтага будаваць свае крамы, ларкі.

У заключэньне павінен сказаць наступнае: само сабой зразумела, што ўся гэта складаная работа, распыленая па розных ведамствах і вытворчых каналах, павінна дырэктыўна яднацца і накіроўвацца ў адпаведнасьці з пастановамі ЦК УсеКП(б) і ўраду мясцовымі партыйнымі органамі. Зарука перамогі заключаецца ў тым, каб мясцовыя арганізацыі сур'ёзна ўспрынялі, што даны вучастак сацыялістычнага будаўніцтва—вельмі сур'ёзны вучастак з даволі складанымі формамі класавай барацьбы.



Брыгада па сіласаваньню ў калгасе „Бальшавік“.

# НА КАЛГАСНЫМ ГАНДЛІ Ў АСІПОВІЧАХ

Базарная плошча яшчэ амаль пустая. Сярод актыву па арганізацыі гандлю пачаліся хваляваньні,—няўжо праведзеная масава-растлумачальная работа ня дасьць належных вынікаў. Але не! Праз гадзіну-другую—хваляваньні пачынаюць расьсейвацца. Усё гусьцей і гусьцей пад'яжджалі фурманкі да плошчы. Пачалі прыяжджаць ня толькі аднаасобнікі, адзінкі-калгасьнікі, але і калгасы.

Цэны зранку старыя. Аднаасобнікі прасілі за фунт масла—9 руб., дзесятак яец—3 руб., пуд бульбы—10 руб., малако—1 р. 20 кап. літр і г. д. Але куплі ня было, усё хадзілі ды прыцэньваліся:

— Цётка! Колькі месяцаў парасяці?

— Пяць тыдняў. За тыдзень да вялікадня радзілася.

— А колькі каштуе?

— Восемдзесят рублёў.

— О-о-о! дорага, цётка,—сёньня базарны дзень, парасят шмат, ёсьць і сала.

Каму трэба і ня трэба—пыталі пра цэны.

Сёньня выехалі арганізаваным парадкам калгасы: „Бальшавік"' „Чырвоны Араты", „Камунар", „Чырвоны партызан", „Чырвоная Слабодка", „Слава" і інш. На рынку пачаўся ажыўлены гандаль сельскагаспадарчымі прадуктамі—малаком, маслам, сырам, мясам, бульбай, яйкамі і інш.

Цэны пачалі падаць.

Калгас „Чырвоны араты" адкрыў свой ларок, і масла прадае па 6 руб. фунт. Калгас „Камунар"— пуд бульбы па 6 руб. З „Славы" на дзьвёх фурманках прывезьлі малако, сьмятану, мяса. Рахункавод калгасу не ўпраўляецца. Цана малака—60 кап., сьмятаны—2 р. 50 кап. за літр.

Спэкулянту-перакупшчыку тут ужо ня месца. Яго выціскае арганізаваны савецкі базар, калгасныя цэны.

Да паўдня ўся базарная плошча была застаўлена вазамі. Рады вазоў, з узьнятымі ўгару аглоблямі, цягнуліся далёка за базар па вуліцах.

— Даўно ў Асіпавічах ня быў такі базар,—чутны разважаньні.

На вялікім вялёным дрэве, што стаіць на стыку Рэвалюцыйнайнай і Сацыялістычнай вуліц, прымацаваны два рэпрадуктары. Менская радыёстанцыя перадае пастанову ЦК КП(б)Б аб становішчы разгортваньня калгаснага гандлю.

Раённыя кааперацыйныя арганізацыі ўдала падрыхтаваліся да спатканьньня калгасьнікаў, якія ўдзельнічалі ў гандлі. Імі былі адкрыты 2 ларкі, дзе прадаваліся калгасьнікам тавары прамысловага вырабу.

„Калгасны ларок райпрамсаюзу" — заходзім. Старшыня калгасу „Камунар", прадаўшы бульбу, набірае для калгасьніц капоты і інш. рэчы.

Для абслугоўваньня ўдзельнікаў гандлю ў мястэчку была арганізавана шавецкая майстэрня.

У гэты базарны дзень удзельнічала 16 калгасаў і ввыш 200 калгасьнікаў-адзіночак. Вечар бліізіцца к канцу, а на базары яшчэ прадуктаў шмат. Цэны зьехалі ўніз. Бульба стала на 30 проц. таней, масла на 35 проц., малако больш, чым на 90 проц., сала на 40 проц.

Зрух зроблен. Здабываць вопыт і замацоўваць яго. Толькі арганізаваным парадкам мы зможам выцясьніць спэкулянта-перакупшчыка з нашага савецкага базара.

Калгасьнікі разьяжджаюцца з базару дамоў. У вясёлых перагукваньнях калгасьнікаў з едучых вазоў чутны словы сёнешніх перамог.

— Ну, брат, і зьбілі-ж мы сёньня спэкулянта.

— Другім базарам яшчэ ня гэта яму зробім.

**Сымон Жыліцкі.**



Рамонт уборачных машын у калгасе „Абуджаная праца" Менскага раёну.

**У дзень XII гадавіны вызваленьня БССР ад белапалякаў наша баявое прывітаньне пралетарам усіх нацыянальнасьцяй, прыгнечаных польскім фашызмам**

# Культмасавая работа ў брыгадзе—важнейшая палітычная задача партарганізацыі

Культмасавая работа адыгрывае аграмадную ролю ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Шляхам сыстэматычнага правядзеньня культмасавай работы вакол штодзенных задач калгаснай вытворчасьці, мы зможам дабіцца ўздыму ўраджайнасьці, зьніжэньня страт і падняць вытворчасьць калгаснай працы на вышэйшую ступень. Бяз шырокага разгортваньня культмасавай работы па сацыялістычным перавыхаваньні калгасьнікаў, на аснове іх актыўнага ўдзелу ў вытворчасьці, немагчыма падняць прадукцыйнасьць працы і даходнасьць калгаснай гаспадаркі.

Сталая вытворчая брыгада—асноўная ячэйка культмасавай работы. Уся культмасавая работа ў брыгадзе павінна быць падпарадкавана агульна-палітычным і вытворчым задачам калгаснай вытворчасьці. У выніку культмасавай работы павінна быць узорная працоўная дысцыпліна ў брыгадзе, поўнае ажыцьцяўленьне сацыялістычных мэтадаў працы, выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў у тэрмін і ўздым сьвядомасьці і культурнасьці калгасьніка.

Адной з асноўных форм культурна-масавай работы ў брыгадзе павінны стаць вытворчыя нарады. Работа вытворчых нарад у паляводчых брыгадах павінна быць падпарадкавана галоўным задачам брыгады—задачам барацьбы за павышэньне ураджаю, прымяненьня агратэхнічных мерапрыемстваў, за рацыяналізатарскія і вынаходніцкія мерапрыемствы па павышэньні вытворчасьці працы і задачам барацьбы з абязьлічкай,ураўнілаўкай і выхаваньню актыву з лепшых калгасьнікаў і ўдарнікаў. Таму ў круг пытаньняў, што падлягаюць вырашэньню на вытворчых нарадах брыгады павінна ўваходзіць: разгляд вытворчых заданьняў, расстаноўка рабочай сілы ў брыгадзе, нормы выпрацоўкі і якасныя паказчыкі работы, заключэньне сацумоў, праверка вынікаў работы брыгады і г. д. Абгаварваючы на вытворчых нарадах усе гэтыя пытаньні, калгасьнікі тым самым будуць авалодваць тэхнікай вытворчасьці, паляпшаць арганізацыю працы.

Зараз перад калгасамі, усімі паляводчымі брыгадамі стаіць баявая задача—пераключэньне з веснавой сяўбы на праполачныя і ўборачныя работы. На брыгадных вытворчых нарадах патрэбна будзе дэталёва абгаварыць плян гэтага пераключэньня, неабходна забясьпечыць выкананьне заданьня па праполцы і ўборцы ў належны тэрмін. Забясьпечыць такую расстаноўку сілы ў брыгадах, каб яна была найбольш раўнамерна і поўна скарыстана, каб складзеныя ў час веснавой сяўбы групы і зьвеньні ў асноўным былі захаваны, бо зработанасьць і дысцыплінаванасьць групы або зьвяна—зьяўляюцца важнейшай умовай пасьпяховага і добраякаснага выкананьня работ брыгадай. Сваячасовая распрацоўка на вытворчых нарадах усіх пытаньняў, зьвязаных з праполачнай і ўборачнай кампаніямі, шырокім уцягненьнем калгасьнікаў і правільнай расстаноўка рабочай сілы і сродкаў вытворчасьці, зьяўляецца залогам пасьпяховага выкананьня пляну праполачных і ўборачных работ.

Важнейшым рухавіком у разгортваньні культмасавай работы зьяўляецца трыкутнік брыгады. Нажаль, рэдка дзе можна сустрэць яго, між тым, арганізацыі яго павінна быць удзелена самая сур'ёзная ўвага. Трыкутнік складаецца з партарганізатара, сябра сельсавету і брыгадзіра. Трыкутнікі павінны існаваць у кожнай брыгадзе, а мясцовыя партячэйкі і сельсаветы павінны забясьпечыць належным кіраўніцтвам работу трыкутнікаў. Трыкутнікі павінны ўключаць у плян свае работы ўсю суму пытаньняў, зьвязаных з вытворчымі нарадамі брыгады і арганізацыяй культмасавай работы па сацыялістычным перавыхаваньні калгасьнікаў, мабілізацыі іх за якасьць работы, за павышэньне вытворчасьці працы, на барацьбу з абязьлічкай і ўраўнілаўкай і г. д.

Вельмі вялікая роля ў культмасавай рабоце падае на партарганізатара. Знаходзячыся штодзенна ў брыгадзе, апошні павінен прымаць усе захады да дэталёвай прапрацоўкі пастаноў партыі і ўраду аб мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, сельскагаспадарчым падатку, загатоўках і калгасным гандлі. Акрамя таго, партарганізатар павінен весьці сыстэматычныя гутаркі сярод калгасьнікаў брыгады па агульных і палітычных пытаньнях, увязваючы апошнія з непасрэднымі вытворчымі заданьнямі брыгады і калгасу. Гэта неабходна для таго, каб калгасныя масы выхоўваліся і выходзілі ў сваёй непасрэднай вытворчай працы з агульна-палітычных задач, якія ставіць партыя перад працоўнымі масамі нашай краіны.

Унядрэньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва ва ўсе віды работ у брыгадзе ў час падрыхтоўкі і правядзеньня праполачнай і ўборачнай кампаній адыгрывае рашаючую ролю, забясьпечвае бальшавіцкія тэмпы ў праполцы, уборцы і асеньняй сяўбе. Сацспаборніцтвам, ударніцтвам і сацбуксірам павінна быць ахоплена ўся работа калгасу і брыгады.

Кожная брыгада заключае сацумову з другой брыгадай на лепшае і хутчэйшае правядзеньне праполкі, уборкі і асеньняй сяўбы. Паміж паасобнымі групамі і калгасьнікамі таксама павінна быць заключана сацумова. У аснову сацумоў, як паміж брыгадамі, так і паміж паасобнымі групамі калгасьнікаў, павінны быць палажаны якасныя паказчыкі: тэрмін сканчэньня паасобных работ, якасьць работы, рацыяналізатарскія мерапрыемствы і зьнішчэньне страт пры ўборцы. Пры абгаварэньні сваіх заданьняў кожная брыгада высоўвае сустрэчны плян для найхутчэйшага тэрміну выкананьня. Шляхам сацбуксіра і ўзаемадапамогі, брыгады, заключыўшыя паміж сабою сацумову, павінны забясьпечыць перавыкананьне пляну па праполцы і ўборцы.

Неабходна шырока растлумачыць кожнаму калгасьніку, што назва ўдарніка—высокая назва. Калгасьнікі самі павінны весьці рашучую барацьбу з ілжэ-ўдарнікамі. Ударнікі, тыя, якія сапраўды не на паперы, а на справе сваім энтузіязмам і энэргіяй захапляюць астатніх калгасьнікаў і ўздымаюць узровень адсталага на больш вышэйшую ступень. У сацбуксіры ўдарнікі павінны адыгрываць кіруючую ролю.

Як практычна ажыцьцявіць сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў паляводчых брыгадах? Прывядзем наступны прыклад: калі брыгада атрымоўвае заданьне ўбраць у 10-дзённы тэрмін 120 га жыта. Яна склі-

кае вытворчую нараду брыгады, на якой абгаварвае як хутчэй і лепш выканаць гэтае заданьне і як дабіцца, каб менш было страт пры ўборцы. Пасьля ўліку ўсіх магчымасьцяй, нарада высоўвае сустрэчны плян на выкананьне адзначанага заданьня, напрыклад, у 9-дзённы тэрмін і выклікае на сацспаборніцтва другую брыгаду. У час праполкі і ўборкі трэба шырока практыкаваць у брыгадах сыстэму абгаварэньня паасобных заданьняў на вытворчых нарадах перад пачаткам работ і сыстэму высоўваньня сустрэчных плянаў па датэрміновым выкананьні і перавыкананьні адпаведных заданьняў.

У культмасавай рабоце ў брыгадзе павінна заняць месца і работа з жанчынамі. Кулацтва, вядучы барацьбу супроць зьдзельшчыны і наладжваньня працоўнай дысцыпліны, агітуе і супроць уцягненьня жанчын у працу брыгады. Гэта абавязвае нас весьці штодзенную барацьбу з кулацкай агітацыяй і вялікую выхаваўчую работу сярод жанчын, растлумачваючы ім, што яны таксама, як і мужчыны, займаюць адпаведнае месца ў калгаснай вытворчасьці.

Для правільнага выкарыстаньня жаночай працы ў брыгадах і падняцьця вытворчай ініцыятывы жанчын неабходна ўсямернае ўцягненьне апошніх у работу вытворчых нарад, гурткоў і спэцыяльная падрыхтоўка іх на курсах з мэтай павышэньня культурнага ўзроўня і кваліфікацыі.

У зьвязку з гэтым паўстае пытаньне аб арганізацыі культурна-бытавых устаноў, як-та: дзіцячыя яслі, пляцоўкі, грамадзкае харчаваньне і інш. Гэтыя мерапрыемствы даюць магчымасьць аслабаніць жанчыну ад хатніх абавязкаў і скарыстаць больш яе працу ў калгаснай вытворчасьці. Аднак на 1-е чэрвеня 1932 г. з усіх калгасаў БССР ёсьць толькі 18,1 проц. калгасаў, дзе арганізаваны дзіцячыя яслі, 6 проц. калгасаў маючых дзіцячыя сады і пляцоўкі і 9,2 проц. калгасаў з наладжаным грамадзкім харчаваньнем. Гэтыя лічбы гавораць аб нездавальняючым разгортваньні культурна-бытавога абслугоўваньня ў калгасах.

Недапушчальна нізкі ўдзел жанчын у кіруючай працы брыгад. Так, па зьвестках на 1-е чэрвеня 1932 г. у БССР ёсьць усяго толькі 3,3 проц. жанчын-брыгадзіраў у паляводчых брыгадах калгасаў. Гэтая нізкая лічба гаворыць аб тым, што на ўцягненьне жанчын ў кіраўніцтва брыгадай зьвяртаецца недастатковая ўвага. На гэта ўплывае і слабае вылучэньне жанчын на розныя курсы, уцягненьне ў гурткі і г. д.

Здольным і моцным змагаром у разгортваньні сацспаборніцтва і ўдарніцтва, уздыму працдысцыпліны зьяўляецца калгасны друк—лепшы сродак мабілізацыі вытворчай актыўнасьці мас. Задачай брыгадных насьценгазэт-штодзёнак зьяўляецца барацьба за высокія тэмпы выкананьня паасобных работ; за якасьць працы, за аўладаньне агратэхнікай, за ўжываньне сацмэтадаў працы, за зьніжэньне страт і г. д. Насьценгазэта павінна бязьлітасна ўскрываць усе вытворчыя недахопы ў брыгадзе, крытыкаваць усіх зрыўшчыкаў выкананьня пляну, безгаспадарчыя адносіны да калгаснай маемасьці, коннай і мэханічнай цягі.

Брыгадная штодзёнка павінна быць магутным барацьбітом за вытворчы плян, за сацыялістычнае перавыхаваньне калгасьнікаў. Усё гэта можа быць даказана на прыкладзе работы брыгады № 8 калгасу „Барацьба“, дзе штодзёнка шляхам зьмяшчэньня вынікаў выкананьня дзеннага заданьня мінулага дня, адзнакі хто і як яго выконваў, хто дрэнна і хто ўдарна працаваў, хто ня вышаў на працу і сарваў выкананьне вытворчых заданьняў, а таксама зьмяшчэньнем заданьня брыгадзе на сёнешні дзень, брыгада дабілася датэрміновага сканчэньня веснавой сяўбы, што дало ёй магчымасьць узяць на буксір адстаючыя брыгады.

**Як паставіць работу штодзёнкі ў брыгадзе?**

Прывядзем прыклад з вопыту насьценгазэты ў паляводчай брыгадзе № 8 калгасу „Барацьба“. У гэтай брыгадзе як пры арганізацыі, так і ў працэсе работ кіраўнікі насьценгазэты зьбіраюць актыў брыгады і тлумачаць ім, як трэба пісаць заметкі, па якіх недахопах у брыгадзе трэба перш за ўсё біць, якія дасягненьні калгасьнікаў трэба будзе размножыць і пакласьці іх ў аснову далейшай працы. На сходах калгаскораў абгаварваюцца пытаньні, якім шляхам зьнішчаць недахопы, як лепш расставіць рабочую сілу і сродкі вытворчасьці для выкананьня тэй або іншай работы. На сходы калгаскораў выклікаюцца і брыгадзіры. У брыгадзе № 8 вялікім аўтарытэтам карыстаецца чырвоная дошка. Маецца для зрыўшчыкаў і чорная дошка.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на выхаваньне кадраў праз брыгадныя вытворчыя нарады, сацыялістычныя мэтады працы і высоўваньне з лепшых калгасьнікаў-ударнікаў асоб, якія карыстаюцца аўтарытэтам сярод калгасьнікаў. „ЦК лічыць **важнейшай палітычнай задачай партыйных і калгасных арганізацый работу па высоўваньні і выхаваньні калгаснага актыву і калгасьнікаў-ударнікаў, удзельнікаў сацыялістычнага спаборніцтва, і брыгадзіра** і г. д.“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4-II—32 г.). Пытаньне работы з калгасным актывам у брыгадзе, на які яна павінна апірацца ў штодзеннай сваёй рабоце, набывае выключнае палітычнае значэньне.

Калгасным актывам у брыгадзе трэба лічыць брыгадзіраў, ударнікаў і ўдарніц, выконваючых і перавыконваючых прынятыя на сябе абавязкі калгасьніка, актыўна прымаючага ўдзел у вытворчых нарадах і высоўваючых каштоўныя прапановы па палепшаньні вытворчасьці калгасу, актыўных дэлегатак-калгасьніц, членаў рэдкалегіі насьценгазэт, штодзёнак і інш. Работу з актывам у брыгадзе неабходна разгарнуць, дабіўшыся сыстэматычных зьлётаў і нарад. Неабходна арганізаваць і культурнае абслугоўваньне актыву і пасылаць яго ў першую чаргу на розныя курсы і вучобу. Актыў брыгады павінен стаць першым застрэльшчыкам і барацьбітом за колькасныя і якасныя паказчыкі работы брыгады, за своечасовае выкананьне і перавыкананьне вытворчых заданьняў брыгад.

Зараз адбываецца пераключэньне сталых вытворчых брыгад з веснавой сяўбы на праполачна-ўборачную кампанію. Патрэбна праз вытворчыя нарады, праз друк і гутаркі шырока абгаварыць вопыт арганізацыі працы ў веснавую сяўбу.

Пры правядзеньні ўборкі, асеньняй сяўбы і здачы таварных лішкаў дзяржаве спажывецкім дробна-буржуазным тэндэнцыям адсталай часткі калгасьнікаў процістаўляючым свае асабістыя інтарэсы інтарэсам дзяржавы, неабходна будзе проціпаставіць масавую растлумачальную работу. З боку ўсіх сельскіх і раённых арганізацый павінен быць зроблен рэзкі пералом у пытаньнях пастаноўкі культурна-масавай работы калгасаў.

**Т. Броўкін.**

# ПРАПОЛАЧНУЮ І ЎБОРКУ ЎРАДЖАЮ—У ЦЭНТР УВАГІ

## СВАЯЧАСОВАЯ ПРАПОЛКА ЗЬНІШЧАЕ ПУСТАЗЕЛЬЛЕ

17 партканфэрэнцыя паставіла цэнтральнай задачай у сельскагаспадарчай вытворчасьці ў 1932 г. і ў другую пяцігодку рашучае павышэньне ўраджайнасьці і барацьбу за высокую вытворчасьць сельскай гаспадаркі. Пры гэтым задача арганізацыйна-гаспадарча ўмацаваньня калгасаў і сацыялістычнага перавыхоўваньня калгасных мас павінны стаяць у цэнтры ўвагі ў другой пяцігодцы.

У сувязі з гэтым павышэньне ўраджайнасьці ў нашых сацыялістычных гаспадарках, — барацьба з засьмечанасьцю палёў,—зьяўляецца аднэй з самых неадкладных задач. Бясспрэчна, што ў барацьбе з засьмечанасьцю палёў рашаючую ролю ў нас павінны адыграць буйныя гаспадаркі—саўгасы і калгасы, якія павінны паказаць, як трэба практычна ажыцьцяўляць барацьбу з пустазельлем. На вялікі жаль, арганізацыйны бок гэтай справы застаецца ў нас амаль неналаджаным.

Для таго, каб правільна арганізаваць барацьбу з пустазельлем, трэба асноўвацца на дэталёвым знаньні самога пустазельля, асабліва яго жыцьця.

Сьмяцьцёвыя расьліны бяруць з глебы тыя спажыўныя матэрыі, якія аднолькава патрэбны і для культурных расьлін. Палявая рэдзька, напрыклад, паглынае з глебы ў 2 разы больш азоту і фосфарнай кіслаты і ў 4 разы больш вапны, чым авёс, які яна засьмечвае.

Праблема барацьбы з пустазельлем мае вялікае гаспадарчае значэньне. Засьмечанасьць нашых пасеваў роўна ў сярэднім 25—30 проц. У выніку гэтай засьмечанасьці мы трацім да 200 мільёнаў цэнт. хлеба. У БССР штогодна страты ад пустазельля на ільняных пасевах складаюць каля 15 мільёнаў руб. Пустазельле выключна пладаносна. Напрыклад, адна расьліна кукалькі дае 2.500 сямян, а ёсьць такія, якія даюць 100.000 сямян, як горкі палын і нават да 730 000, як гуляўнік.

Тэхніка паляводзтва—галоўнае арудзьдзе ў барацьбе з пустазельлем. Дасканальная ачыстка пасеўнага матар'ялу да пасеву—гэта толькі пачатак барацьбы з пустазельлем, да некаторай ступені затрымліваючы распаўсюджаньне пустазельля. Аснова-ж барацьбы павінна заключацца ў тэхніцы паляводзтва і выдаленьні пустазельля з глебы, заражанай насеньнем і карнявішчамі пустазельля.

Адным з момантаў вельмі спрыяючым засьмечваньню палёў, зьяўляецца бязьзьменны пасеў культурных расьлін. Увядзеньне севазвароту з разьлікам падбору чаргуючых культур ёсьць асноўная гарантыя зьнішчэньня пустазельля. Але ў самым севазвароце патрэбна весьці правільную апрацоўку глебы. Трэба адразу-ж пасьля



Праполка абсыпных культур аўтаматам „Фрэза“ ў саўгасе Лошыца



Брыгада жанчын на праполцы ў саўгасе „Такарня“.

ўборкі ўраджаю (а к гэтаму часу паверхня глебы пакрыта вялікай колькасьцю пустазельля) вытвараць лушчэньне, або ўзьмёт. Лушчэньне ці ўзьмёт прыпыняе, або зусім спыняе разьвіцьцё шматгадовага пустазельля (пырнік), зьнішчае разэткі лістоў двухгадовых расьлін, спрыяе росту ўсяго пажніўнага пустазельля, не дапускаючы іх да абсеменьня, і зьнішчае ўсходы насеньня пустазельля.

### Апрацоўка поля папару

Пасьпяховая барацьба з пустазельлем звычайна бескарысна пры непрарыўнай культуры расьлін. Найлепшых вынікаў у барацьбе з пустазельлем можна дасягнуць пры апрацоўцы поля папару. Пры гэтым неабходна заўважыць, што насеньне розных відаў усходзіць не адначасова і нават насеньне аднаго віда прарастае ня ўсё адразу, а паступова. Увесь гэты запас насеньня падлягае пасьпяховай апрацоўцы ў папаравым полі, бо праз папар мы здолеем выклікаць да жыцьця—прымусіць прарасьці ў найбольшай колькасьці насеньне пустазельля і атрыманыя ўсходы зьнішчаць.

З прыладаў, пры дапамозе якіх вядзецца пасьпяховая барацьба з пустазельлем, зьяўляецца культыватар, гародныя праполачныя фрэзы. Але якой-бы прыладаю мы ня зьнішчалі пустазельле, трэба памятаць, што заўсёды трэба недапускаць поля да моцнага засьмечаньня. Такім парадкам павярхоўная апрацоўка робіцца прыблізна да паловы лета, а пасьля прыступаюць да дваеньня.

Пры дваеньні, дзякуючы больш глыбокаму рыхленьню глебы, чым пры папярэдняй павярхоўнай апрацоўцы, новая порцыя насеньня пустазельля ставіцца ва ўмовы прарастаньня—папар хутка зноў зелянее і пры гэтым зноў зьяўляецца патрэба ў павярхоўнай апрацоўцы для ўдаленьня пустазельля. Гэта паўторная павярхоўная апрацоўка папару вядзецца па меры патрэбы да пасеву азімых. У прапашным кліну палёў вытвараюцца больш-менш шырокія пасадкі ці пасевы, што дае магчымасьць паміжрадковую апрацоўку весьці на працягу ўсяго вэгетацыйнага перыяду і гэтым самым весьці барацьбу з пустазельлем.

К мерам барацьбы з пустазельлем трэба аднесьці і ўвядзеньне шырокарадных пасеваў хлебных злакаў. І ў гэтым выпадку, як і ў прапашным, прымяняецца паміжрадковая апрацоўка глебы, з матай

зьнішчэньня пустазельля і рыхленьня паміж радамі, што таксама спрыяюча адбіваецца на паскарэньні росту культурных расьлін. У пасевах проса гэта можна рабіць, бо проса зусім ня выносіць пустазельля, а ручная полка эканамічна нявыгадна. Пры шырокіх адлегласьцях паміж радамі можна выкарыстаць конную цягу або маторную. Чым раней матыжаньне, тым лепш затым, што тады лягчэй зьнішчаюцца ўсходы пустазельля.

Полка ёсьць лепшы сродак для ачысткі пасеваў ад большасьці пустазельля. Але-ж тут неабходна ўзважыць эканамічны бок гэтай справы і яе мэтазгоднасьць. Полку можна рабіць тады, калі гэта праца акупляецца. У палявой культуры полку прымяняюць сярод найбольш каштоўных культур (лён, гароды, бабовыя, проса, пшаніца).

Полку лепш рабіць тады, калі пустазельле яшчэ не ўкаранілася, тады яго лягчэй вырываць і наогул трэба імкнуцца вырываць яго з карэньнем, а ня зрываць толькі сьцябло. Лепш прыстасоўваць полку к таму часу, калі глеба больш вільготная—пасьля дажджу, тады пустазельле лёгка вырываецца.

Выпалатае пустазельле лепш усяго не пакідаць на полі, таму што насеньне, якое застаецца на полі ў сьцяблох, можа дасьпець і даць новыя расьліны, а карнявішча і карані могуць быць прытоптаны да зямлі і карыстаючыся яе вільготнасьцю могуць зноў пачаць расьці. Полка павышае ўраджайнасьць некаторых культур амаль на 100 проц. (лён). Полку часам замяняюць абкашваньнем вярхушак пустазельля, але абкашваньне трэба рабіць да красаваньня пустазельля. Гэтым дасягаецца эфэкт толькі часткова, бо пасьля скашваньня верхавін у іх застаюцца бакавыя галінкі, якія з посьпехам даюць насеньне.

Трэба таксама зьвярнуць увагу на хэмічныя меры барацьбы з пустазельлем і гэты спосаб можна мэханізаваць і скараціць гэтым патрабаваньне рабочай сілы. Пры прымяненьні хэмічных сродкаў барацьбы з пустазельлем, хэмічныя прэпараты можна падзяліць на дзьве групы: 1) калі матэрыі пранікаюць у глебу, атручваюць карані і забіваюць расьліны, 2) калі матэрыі зьнішчаюць паверхню расьлін і іх надземныя часткі.

**Вайцэховіч П.**

# ЗА ЛЕПШАЕ ПРАВЯДЗЕНЬНЕ ЎБОРКІ

Правільнае скарыстаньне ўборачных машын будзе залежыць ад ступені сьвядомых адносін працуючых на іх.

Неабходна своечасова падрыхтаваць як машыны, так і працуючых на іх.

Барацьба са стратамі ў час уборкі павінна стаць баявой задачай. Ні адно зерня не павінна прапасьці дарма.

Неабходна папярэдзіць усякія страты зерня, якія могуць быць пры ўборцы збожжа, асабліва сьпелага, жаткамі і снопавязалкамі. Каб зьнішчыць гэтыя страты зерня, неабходна прыстасаваць да жняярак і снапавязалак зерняўлавіцелі.

Зерняўлавіцелі, дзякуючы прастаце свае рэканструкцыі, могуць быць зроблены ў кожнай гаспадарцы.

Зерняўлавіцель, як паказана на малюнку, прадстаўляе драўляную скрынку зьбітую з дошчак. Шырыня скрынкі ўнутры робіцца ў 35 см, а глыбіня ў 12 см. Даўжыня скрынкі робіцца з такім разьлікам, каб яна поўнасьцю адпавядала па даўжыні боку пляцформы самаскідкі, з якой скідаюцца снапы.

Верх скрынкі ўздоўж на шырыню ў 15 см перакрываецца 2 см дошкай, а астатнія 20 см абцягваюцца драцянай сеткай з прасьветам каля 12 квадратных мм. Скрынкі робяцца з больш моцных і тоўстых, каля 2—3 см, дошчак і бакавыя дошкі бяруцца больш танейшыя і лягчэйшыя. Драцяную сетку можна браць ад сіт старых арф з адпавядаючымі прасьветамі.

У дне з таго боку, што ставіцца да грабельнай стойкі, прарэзваецца дзірка размерам 20×20 см, якую закрываюць бляшанай, або драўлянай засаўкай праз прарэз з боку барта скрынкі і якая служыць для апаражніваньня зерняўлавіцеля.

Для ўмацаваньня на месцы зерняўлавіцель падстаўляецца пад пляцформу з таго боку, з якога скідаюцца снапы, з такім разьлікам, каб дошка скрынкі хавалася пад пляцформай, і зьвінчваюць некалькімі пяцісантымэтровымі шурупамі, якія прапускаюцца праз дошкі пляцформы ў дошку крышкі зерняўлавіцеля.

Сетка такім чынам служыць працягам пляцформы і стаіць невялікім уступам ад канца яе і падаўжае пляцформу на 19—20 см.

Для прыстасаваньня снапавязалкі для ўказанай мэты, неабходна падвесіць зерняўлавіцель к вязальнаму сталу, да той часьці, па якой праходзяць каласы снапа.

Каб сноп, падаючы з снопавязальнага стала і праходзячы над зерняўлавіцелем, не чапляўся за



Агульны выгляд самаскідкі з зерняўлавіцелем.

сетку, неабходна зьверху зерняўлавіцеля папярок нахільна паставіць некалькі плянак, якія прымацоўваюцца да прадольных сьценак скрынкі зерняўлавіцеля. Плянкі можна зрабіць або з жалеза, або з тоўстага дроту.

Скрынка-зерняўлавіцель ахватваецца 2 хамутамі з паласавога жалеза ў 6×25 мм, прыклёпанымі да скрынкі.

Да вязальнага стала прымацоўваюцца 2 краштэйны з вуглавога жалеза 40×40×5 мм. Кожны двума балтамі. Пад галоўкі балтоў неабходна падкласьці падкладкі з ліставога жалеза 2×40 мм Да краштэйнаў падвешваецца зерняўлавіцель, для чаго краштэйны ў ніжняй сваёй частцы павінны мець па адным балту, галоўкі якіх уваходзяць у дзіркі хамутоў скрынкі.

Такім чынам скрынка можа быць лёгка падвешана і зьнята.

Увага: Разьмеры ўказаны для снапавязалкі Любярэцкага заводу.

Для збору цэлых каласоў, якія застаюцца ў полі, трэба выкарыстаць конныя грабл[і].

Максымум увагі справе барацьбы за стратамі зерня у час уборкі.

**Марон.**



Агульны выгляд жняяркі-снапавязалкі.

# ЯК КІРАВАЦЬ МАШЫНАЙ

## Актыўна змагацца са стратамі зернят

### Лобагрэйка

1. Перад работай праверце ўстаноўку нажа. Нож добра працуе і не пакідае ў полі непадрэзанай збажыны толькі пры наступнай устаноўцы:

а) пальцы нажавога бруса павінны быць разьмешчаны на аднолькавай адлегласьці адзін ад другога;

б) устаўкі пальцаў павінны ляжаць у аднэй плошчы. Правяраецца гэта нацяжэньнем ніці уздоўж пальцавага бруса. У выпадку адхіленьня пальцаў, іх трэба выправіць (адагнуць);

в) у крайнім стане нажа пласьцінкі яго павінны разьмяшчацца сымэтрычна адносна пальцаў, а не ляжаць паміж імі.

Няправільнае распалажэньне выпраўляецца вымярэньнем даўжыні шатуна;

г) нож павінен лёгка рухацца ў пальцавым брусе. Гэта дасягаецца рэгуліроўкай націскных лапак і пласьцінак церця, якія павінны прылягаць да нажа, не перашкаджаючы яго руху. Для гэтага неабходна лапкі і пласьцінкі прыціснуць да нажа і праверыць свабоду яго ходу пакручваньнем крывашыпа.

2. Пры ўборцы сырой ці засьмечанай збажыны ставіцца гладкі нож. Нажы з насечкамі ставяцца для работы на сухой, добра пасьпеўшай збажыне і ў сухое надвор'е.

3. Не працуйце з затупленымі нажамі і з нажамі, вельмі спрацаванымі. Чым вастрэй нож, тым лепш будзе працаваць лабагрэйка.

4. Пад'ём ці апусканьне пляцформы лабагрэйкі ўтвараецца пры дапамозе апусканьня ці пад'ёму абодвых колаў. Нахіл пляцформы зьмяняецца пры дапамозе рычага, разьмешчанага каля сядзеньня рабочага. Пляцформе надаецца тое ці іншае палажэньне ў залежнасьці ад якасьці ўбіраемай збажыны.

Пры рабоце на высокай непалёгшай збажыне пляцформа ставіцца вышэй, чым пры ўборцы нізкай збажыны. На палёгшай пляцформа ставіцца ніжэй і нахіляецца ўперад.

5. Істотнае значэньне для зьніжэньня страт хлеба мае правільная ўстаноўка матавіла.

Вось матавіла павінна быць паралельна пальцаваму брусу. Пры высокай і непалёгшай збажыне матавіла трэба ўстанавіць на накаторай вышыні з вынасам яго наперад машыны. Чым ніжэй стаячая збажына, тым ніжэй ставяць матавіла, набліжаючы яго да пальцавага бруса.

Для работы на палёгшай збажыне матавіла трэба высунуць магчыма больш наперад і спусьціць магчыма ніжэй.

6. Накопленая на пляцформе зжатая збажына звычайна віламі скідваецца рабочым. Для захаваньня рабочай сілы трэба зьняць насьціл пляцформы і сядзеньне для рабочага і прымацаваць да палявога канца пальцавага бруса дошку, якая-б ссоўвала зжатую збажыну ў суцэльны вал і гэтым вызваляла-б месца для другога праходу лабагрэйкі.

7. Паспрабуйце дабіцца ад машыны найлепшай работы шляхам праверкі і ўдасканаленьня ўстаноўкі.

8. Пры заезьдзе ў збажыну пускайце дачасна машыну.

9. Пры спыненьні сярод работы ня пускайце машыну адразу. Спачатку асадзіце машыну назад для таго, каб яна магла паступова разьвіць патрэбную хуткасьць.

10. Скідайце з машыны збажыну ў мясцох, у якіх яго не памнеш пры наступным праходзе.

11. Ня скідайце на вуглох (паваротах).

12. Накіроўвайце машыну па простых лініях.

13. Не забывайцеся сваячасова змазваць і падцягваць гайкі.

### Жатка-самаскідка

1. Рэжучы апарат і пляцформа жаткі-самаскідкі ўстанаўляецца таксама, як і ў лобагрэйкі.

2. У самаскідак грабельны апарат павінен прыгінаць сьцяблы да нажа і час-ад-часу скідаць з пляцформы зжатую збажыну. Рэгуляваць работу грабельнага апарату можна паваротам грабельнай калёнкі ці грабельнага кола (гледзячы па канструкцыі машыны), перастаноўкай грабель у прарэзах бракера і перастаноўкай рамкі па восі грабель.

3. Грабельны апарат трэба ўстанаўліваць па характары ўбіраемай збажыны.

4. Граблі павінны быць устаноўлены так, каб, скідаючы збажыну, яны не чаплялі і не скраблі па пляцформе. Для гэтага перастанаўліваюцца граблі ў прарэзах бракераў і рамкі грабель.

5. Пры рабоце на стаячай збажыне граблі павінны апускацца на лінію нажа.

6. Пры рабоце-ж на палегшай збажыне апусканьне грабель павінна быць напярэдзе лініі нажа. Выканаць гэтую рэгуліроўку можна паваротам грабельнай калёнкі ці паваротам грабельнага кола (гледзячы па канструкцыі машыны). Утвараць гэтую рэгуліроўку трэба так, каб не атрымалася расьцягнутых снапоў.

7. Гледзячы па гушчыні збажыны рэгуліруйце размер снапоў з дапамогаю рэгуліроўкі лічыльніка.

8. Не забывайцеся карыстацца ў рабоце пэдальлю да лічыльніка. Калі трэба затрымаць скідваньне збажыны, плаўна націскайце нагою пэдаль. Калі трэба зрабіць унечарговае скідваньне збажыны, акуратна ўдарце нагой па пэдалі.

9. Утварайце сваячасовую і дастатковую змазку машыны.

10. Пры сырой збажыне скідайце снапы радзей, чым пры рабоце на сухой збажыне.

У астатнім карыстайцеся ўказаньнямі для работы лобагрэйкі пункту 7, 8, 9, 10, 11).

### Снопавязалка

1. Перад работай праверце ўстаноўку рэжучага апарату і, калі знойдзеце няправільнасьці, выпраўце іх.

Пальцы павінны знаходзіцца адзін ад аднаго на аднолькавай адлегласьці. Укладышы пальцаў павінны ляжаць у адной роўніцы. Правяраецца гэта нацяжэньнем ніці ўздоўж пальцаў. Нож павінен быць востры, просты і шчыльна прылягаць да ўкладыша пальцаў. Дасягаецца гэта ўстаноўкай пласьцін цэрця і націскных лапак. У крайніх палажэньнях сэгмэнты нажа павінны займаць адносна пальцаў сымэтрычнае палажэньне, г. зн. восі іх павінны праходзіць праз восі пальцаў. Рэгуліроўка выконваецца зьмяненьнем даўжыні шатуна.

2. Для работы, гледзячы па якасьці збажыны, выберыце падыходзячую ўстаноўку пляцформы. Пляцформа можа быць паднята, апушчана і нахілена. Пад'ём і апусканьне ўтвараюцца перастаноўкай ходавага і палявога колаў. Нахіл рэгулюецца спэцыяльным рычагом. Пры ўборцы высокай стаячай збажыны пляцформа ставіцца вышэй, чым пры ўборцы нізкай збажыны. Пры ўборцы палёгшага хлеба пляцформа апускаецца магчыма ніжэй і нахіляецца наперад па ходзе машыны. Пры ўсіх устаноўках абодва канцы пальцаў бруса павінны разьмяшчацца на аднолькавай вышыні ад зямлі.

3. Матавіла снапавязалкі можа набліжацца і аддаляцца ад пальцавага бруса як па вышыні, так і наперад і назад. Устанаўляецца яно ў залежнасьці ад характара прыбіраемай збажыны.

Пры нізкай, палёгшай і блытанай збажыне матавіла высоўваецца наперад і апускаецца. Пры высокай збажыне матавіла паднімаюць і набліжаюць да пальцавага бруса. Устаноўка ўтвараецца адпаведнымі рычагамі. Неабходна ўвесь час сачыць за работай матавіла, і пры перамене збажыны зьмяніць яго ўстаноўку.

4. Устаноўку ветравага шчыта, які можа перасоўвацца па пляцформе, рабеце на вышыні збажыны.

5. Праверце ўстаноўку валікаў транспарцёраў, якія павінны быць строга паралельны. Палотны надзявайце з раўнамернай з абодвых бакоў нацяжкай, каб ухіліцца перакосу палатна.

Калі няма паласы і нельга атрымаць пляцформеннага палатна з перакосам, выпраўляйце палажэньне транспарцёраў перасоўваньнем жалезнай паласы, паложанай упоперак пляцформы.

Калі няма паласы, і нельга атрымаць паралельнасьці ў падачы збажыны, нацягнеце зьверху пляцформы вяроўку з вузламі.

6. Зрабеце ўстаноўку пâдоўжанага шчыта такой, пры якой атрымліваецца найлепшае разьдзяленьне зжынаемай ад няжжынаемай збажыны.

7. Для атрыманьня роўнага тарца снапа адрэгулюйце работу падбойкі і пастаўце шчыток, затрымліваючы сьцяблы на неабходнай адлегласьці.

Становішча снапа вызначаецца даўжынёй зжатай збажыны. Пры кароткай збажыне сноп рухаецца да падбойкі, пры доўгай—сноп рухаецца ад падбойкі.

8. Для забесьпячэньня добрай вязкі снапоў, правільна запраўляйце снапавязалку шпагатам. Шпагат з клубка выцягваецца з пэўнага боку. Для вызначэньня боку выцягніце шпагат з клубка ўверх і паслабце нацяжэньне. Калі шпагат не закручваецца, значыць ён выцягнут з правільнага боку.

9. Адрэгулюйце падачу шпагату іглой да клюва і зажыма. Гэта выконваецца зьмяненьнем даўжыні шатуна мэханізму, іглы і зьмяненьнем становішча вузлавязацеля адносна руху іглы з дапамогаю падцягваньня цяг.

10. У рабоце вузлавязацеля істотную ролю адыгрывае ступень націсканьня шпагата клювам, зажыма вузлавязацеля і прыборы для нацягваньня шпагата.

Устаноўка зажыму дасягаецца нацяжэньнем адпаведных спружынак—пласьцінчатых ці цыліндрычных.

Нажычак вузлавязацеля павінен быць вострым.

11. Па стану збажыны ўстанавеце патрэбную велічыню і шчыльнасьць снапа. Велічыня снапа рэгулюецца перастаноўкай упорнага рычажка, да якога сноп прыціскаецца пад дзеяньнем кампрэсараў.

Аддаляючы ці набліжаючы рычаг, атрымаеце снапы рознай велічыні. Шчыльнасьць снапа рэгулюйце нацяжэньнем спружыны пэдалі вязальнага апарата.

12. Калі ёсьць снопанос, пастаўце яго на снопавязалку. Працуючы са снопаносам, памяншаеце выбіваньне зерня пры падзеньні снопа на зямлю. Акрамя таго будзеце атрымліваць кучкі снапоў, а не раскіданыя па ўсім полі асобныя снапы.

13. Не забывайцеся сваячасова змазваць машыну і правярайце нацяжэньне ланцугоў. У выпадку моцнага паслабленьня ланцугу—пры немагчымасьці нацяжэньня іх перастаноўкай націскных ролікаў—выкіньце адно зьвяно ланцуга.

**Усесаюзны Інстытут мэханізацыі сельскай гаспадаркі.**

# Мэханізацыя сенаўборачных работ

Яшчэ да матарызацыі сельскай гаспадаркі сенаўборачныя работы былі добра мэханізаваны. Сапраўды, конная касілка павышае вытворчасьць працы рабочага ў 10—12 раз; простаграбучыя граблі, пры адным рабочым (і адным кані) замяняюць 30 рабочых, а пры рабоце сенагрузчыка, які падае сена з скірдаў на вазы, на 1 **га** (50 цэнт. сена) патрэбна ўсяго 0,5 працадня замест 3-х, пры ручной укладцы сена на вазы.

Да апошняга часу мы абмяжоўваліся гатовымі прыёмамі ўборкі траў і сена, распаўсюджанымі за граніцай, але ў сувязі з арганізацыяй буйных саўгасаў і калгасаў, в плошчай сенаўборкі ў кожным выпадку ў тысячы і дзесяткі тысяч **га**—нам прышлося заняцца распрацоўкай канструкцый машын і прыёмаў, якія даюць большы эфэкт.

Пачнем з сенаўборкі. Звычайныя конныя касілкі, счапляемыя адна з аднэй (гуськом), да трох у адным агрэгаце для абслугоўваньня іх трактарам — не разьвязалі задачу паскарэньня сенаўборкі, бо: у трактара атрымалася баковая цяга, з прычыны чаго кіраваньне ім ускладнялася; на паваротах увесь паезд аказаўся ня зусім прыстасаваным, а самае галоўнае—касілкі, што ідуць уперадзе, працуюць з большым намаганьнем, бо яны павінны выносіць цягу задніх машын, з прычыны чаго атрымоўваліся частыя паломкі пярэдніх касілак. У выніку—удзельная вытворчасьць паезда з трох касілак бывае, як агульнае правіла, ніжэй (0,2 **га** ў 1 гадзіну, на 1 мэтр захопу), чым пры рабоце ў адзіночку (0,4 **га**) [1].

Лепш і з большай удзельнай вытворчасьцю ідзе работа пры ўжываньні ў счэпцы спэцыяльна трактарных касілак, якія адрозьніваюцца ад конных большай масыўнасьцю, больш салідной пабудовай адказных дэталяў і большай даўжынёй нажа—у 2,1 мэтры (замест 1,4 мтр.); гэтыя касілкі ўжо выпушчаны нашай прамысловасьцю, і ў сенаўборачны сэзон гэтага года яны будуць працаваць у нашых саўгасах і МТС і, трэба думаць, што іх удзельная вытворчасьць будзе не ніжэй 0,4 **га**, а вытворчасьць рабочых, у параўнаньні з ручной уборкай сена, павялічыцца ў 25—30 раз (большая скорасьць і большы захоп, чым у конных машын).

Для адхіленьня бакавой цягі і спрашчэньня манэўраў з паездам касілак у нас былі прапанованы (у мінулым годзе) дзьве канструкцыі агрэгатаў: 1) счэпка 7-конных касілак (Ерамічава) ня гуськом адна за адну (як вышэй сказана), а да счэпнага роўнаплечнага трыкутніка, з прычэпкай трактара да верхавіны трыкутніка і з напрамкам яго ў няскошаную траву і 2) шыроказахватная касілка з некалькі асобнымі нажамі, прывадзімымі ў рух ад аднаго прыводнага мэханізму. У гэтай апошняй машыне (Гербштэйна) з захопам у 9,65 мэтр. маецца пяць рэжучых апаратаў, разьмешчаных па баках трыкутнай рамы (і, значыцца, з рухам трактара па няскошанай траве).

Першы агрэгат (Ерамічава) абслугоўваецца двума рабочымі і можа ўбраць у гадзіну да 4,3 **га**, а ў сярэднім ў 10-гадзінны рабочы дзень да 30 **га**, г. зн. у дзень на чалавека (1 трактарыст і 2-е рабочых) прыходзіцца каля 10 **га** пакосу; тая-ж самая вытворчасьць атрымоўваецца і пры скарыстаньні касілкі Гербштэйна.

Абодва гэтыя агрэгаты былі дасьледваны ў мінулым годзе і будуць скарыстаны на нашых палёх у сенакосны сэзон бягучага году, чым вельмі зручна будзе разьвязана праблема поўнай загрузкі трактара на сенакосе пры значным паніжэньні сабекошту пакосу ў параўнаньні з работай адзіночна працуючых касілак (у два разы танней); трэба памятаць таксама і тое, што ўсе высокай вытворчасьці рабочыя машыны памяншаюць лік трактароў, іх абслугоўваньне і паскараюць работу, а пры сенаўборцы гэта мае вялікае значэньне.

Агульнавядомыя простаграбучыя граблі з коннай вупражку зьяўляюцца машынай высокага эканамічнага эфэкту; яны павышаюць вытворчасць працы рабочага ў 30—60 раз у параўнаньні з ручным зграбаньнем сена, але пры карыстаньні імі далёка не заўсёды ўдаецца атрымаць просталінейны і наогул, нават, непарыўны валок сена, чым ускладняецца ўжываньне сенагрузчыкаў і сенапрасавальных камбайнаў; апрача таго граблі, якія працуюць у адзіночку, даюць няпоўную нагрузку каню (60 **кг**, а на 1 **м**—20 **кг**).

Таму мэтазгодней скарыстаньне ў адным агрэгаце трох грабель, у счэпцы Гербштэйна, у парнай вупражцы і пры абслугоўваньні ўсяго агрэгата адным рабочым; пры некаторым навыку абыходжаньня з агрэгатам можна дабіцца стварэньня просталінейнага валка, прымушаючы двое грабель, што ідуць наперадзе, скідаць сена некалькі раней задніх, трэціх.

Трое простраграбучых грабель у счэпцы Гербштэйна патрабуюць у сярэднім цягавага намаганьня каля 180 **кг** і значыцца ўвесь агрэгат можа свабодна абслугоўвацца парай коняй і таму сеназграбаньне трэба праводзіць коньмі, а не трактарамі, бо самы маламагутны з іх, Фардзон, і той будзе загружан у даным выпадку толькі на адну чвэрць, што бязумоўна недапусьціма.

Вядомы выпадкі скарыстаньня пры трактарнай цязе двухграбельных агрэгатаў Гербштэйна (вытворчасьць у 1 гадзіну каля 15 **га**), але і гэта камбінацыя не разьвязвае, вядома, пытаньня ў трактарызацыі сеназграбаньня, а счэпкі большага ліку агрэгатаў будуць складаныя і няэручныя на паваротах; словам, сеназграбаньне прыдзецца выконваць коннай цягай.

Пры карыстаньні простаграбучымі граблямі напрамак іх руху павінен быць простастаўным да пакосаў (ходу касілкі), што памяншае страты ў два разы. Але гэтыя даныя адносяцца да сенакосаў з нізкай ураджайнасьцю; магчыма, ва ўмовах большай ураджайнасьці страты ня так будуць залежаць ад напрамку руху грабель.

Вышэй было сказана, што просталінейныя валкі з сена цяжка атрымоўваюцца пры рабоце простаграбучых грабель; але іх лёгка можна атрымаць з дапамогаю так званых баковых грабель, якія пакідаюць валок управа і ўлева ад машыны ўздоўж яе ходу (ёсьць граблі „правыя“ і „левыя“). Акрамя таго, па амэрыканскім даным, гэты спосаб утварэньня валкоў з сырой травы, непасрэдна зараз-жа за праходам касілкі, спрыяе як-бы значнаму па

---

[1] Аб навесных да трактара касілках і змантаваных на трактары пальцавых брусках касілак я ўжо не гавару, як аб тэхнічных памылках (у нас гэтыя канструкцыі ня ўжываюцца).

мяншэньню страт пры ўборцы матылёвых расьлін, якія адбываюцца пры варушэньні сена ўручную і тым больш сенаварушылкамі; вал травы, створаны бакавымі граблямі, пасьля некаторай прасушкі яго, тымі-ж бакавымі граблямі, пры невялікай пераробцы іх, паварочваецца вакол.

Баковыя граблі з захопам у 2,0—2,5 м робяцца, як сказана вышэй, для правага і левага вала ўтварэньня, што дае магчымасьць узяць у счэпку двое грабель—улева правыя, а ўправа левыя, якія будуць ствараць агульны вал паміж сабою, у сярэдзіне рабочага захопу ўсяго агрэгата. Так як цягавае супраціўленьне баковых грабель большае чым простаграбучых, а іменна каля 60—70 **кг** на 1 **м** захопу, дык двое грабель загрузяць Фардзон прыкладна на палову яго цягі пры другой скорасьці. Ня выключана магчымасьць пастаноўкі ў счэпку і чатырох (двух пар) баковых грабель, што яшчэ зручней разьвязвала-б пытаньне аб трактарызацыі сенаэграбаньня.

Бакавыя граблі з посьпехам ужываюцца на ўраджайных сенакосах, на малаўраджайных плошчах (у засушлівых мясцох) валок сена з паласы шырынёю ў 2,5—5,0 **м** атрымліваецца настолькі нязначным, што няма сэнсу яго рабіць; простаграбучыя-ж граблі можна падняць і значыць скінуць валок у любы момант, вызначаемы колькасьцю набраўшагася ў граблях сена, таму ў засушлівых мясцох ужываюцца толькі простаграбучыя граблі.

Счэпка чатырох баковых грабель, пры рабочым захопе ў 10—12 **м** пры адным толькі трактарысьце (патрэбнасьць у рабочым для асьлугоўваньня простаграбучых грабель тут адпадае, бо валок сена робіцца бесьперапынна, у працэсе кручэньня барабана грабель і іх перамяшчэньня) і пры ўдзельнай вытворчасьці 0,4 **га**, дае магчымасьць згрэбці ў валок у гадзіну сена на плошчы 4—5 **га**, пры павышэньні вытворчасьці рабочага 120—130 раз параўнаўча з ручной работай; апрача таго, пры рабоце бакавых грабель страты атрымліваюцца менш, чым пры зграбаньні ў валок простаграбучымі граблямі.

Раней было сказана, што баковыя граблі даюць магчымасьць зрабіць строга просталінейныя валкі сена, што зусім немагчыма пры рабоце простаграбучых грабель, а гэта вельмі важна пры рабоце сенанагрузчыкаў, машын, якія толькі цяпер пачынаюць уваходзіць у жыцьцё нашай сельскай гаспадаркі.

З двух тыпаў сенанагрузчыкаў — барабанных і вільчатых—надзейней дзейнічае першы: ён і прыняты ў праграме нашай сельскай гаспадаркі машынабудаўніцтва. Сенанагрузчык прымацоўваецца ззаду воза (плошчаю пляцформы каля 8 м$^2$, гэта значыць даўжынёй каля 4 **м** і шырынёю ў 2 **м**), якая рухаецца над валком сена, сена паднятае барабанам падаецца плянчатым транспартэрам звычайнай пабудовы ўверх (на вышыню каля 3 **м**) і затым спадае на пляцформу, дзе адным або двума рабочымі (гледзячы, вядома, па ўраджайнасьці) разьмяркоўваецца па ёй.

Пры рабоце ў счэпцы двух сенанагрузчыкаў вельмі важна, каб абодвы валкі былі аднолькавай шчыльнасьці (магутнасьці), г. зн., каб яны былі зроблены з палос зусім аднолькавай шырыні, а гэта значыць трэба, каб усе бакавыя граблі, працуючыя ў счэпцы, былі аднолькавага захопу і, наогул, каб яны працавалі з аднолькавым захопам. Калі валкі, падбіраемыя двума аднолькава працуючымі сенанагрузчыкамі, акажуцца рознай магутнасьці, то тады вазы будуць напаўняцца з рознай хуткасьцю, а гэта парушыць работу ўсяго агрэгату.

У параўнаньні з ручной укладкай сена на вазы і папярэдняй укладкай у кучы—сенанагрузчыкі павялічваюць вытворчасьць працы рабочых па меншай меры ў 80—100 раз.

У апошні час у Злучаных Штатах Амэрыкі зьявіўся сенапрасавальны камбайн, які падбірае сена з валкоў і на-хаду яго прасуе. Машына гэтага тыпу была спрабавана ў нас у мінулым годзе, і на аснове гэтых спроб мы ўжо спраэктавалі і будуем свой сенапрасавальны камбайн. Уся машына рухаецца пры дапамозе трактара (з аддачай на круку каля 15 HP) і мэханізм яе прыводзіцца ў рух ад карданнай перадачы трактара.

У выпадку ўкладкі сена ў стагі на мясцох сенакоса ці, наогул, паблізу іх (адлегласьць ня больш 0,5—0,6 **км**), сена падвозіцца да стагоў валакушамі, якія прадстаўляюць сабой планчатую рашотку, што рухаецца на двух калёсах (бываюць і чатырохкалёсныя) параю коняй, штурхаючым рухам (валакуша зьмяшчаецца сьпераду коняй ці коні збоку валакушы); пры рабочым ходзе валакушы рашотка апушчаецца пярэднімі канцамі планак да зямлі, а пры транспарце сена — рашотка падымаецца на нязначную вышыню простым мэханізмам, які прыводзіцца ў рух ці ад рычага ці ад пэдалі, а то і ад рычага і ад пэдалі і апрача таго цягаю коняй.

Валакушы, па даных спроб іх у Арскім саўгасе (у стэпу) даюць страту сена ў колькасьці 100 **гр** на 1 **м** шляху і сярэднюю вагу падабранай і перасоўваемай партыі сена складае 1,8 **цнт.**

Для руху валакушы з сенам патрабуецца пара даволі моцных коняй; кіраўніцтва валакушай на паваротах ня зусім зручна, бо трэба аднаго каня асаджваць, а другога прымушаць ісьці хутчэй (пры бакавой вупражы). Шырыня захопу валакуш складае ў сярэднім 3,5—4,3 **м.**

У Амэрыцы ёсьць трактарныя валакушы, што зьбіраюць у адзін прыём сена да 1 **т** і за 1 гадзіну перавозяць да 4,5 **т** на адлегласьць у 0,7 **км.**

Валакуша зьмяшчаецца наперадзе трактара (Фардзона), але прымацоўваецца да задняй часткі, так што перадок трактара астаецца свабодным і манэўраваньне ім не ўскладняецца; пад'ём і апусканьне рашоткі валакушы робіцца аўтаматычна.

Звычайна валакушы апісанага тыпу працуюць сумесна з перакіднымі стогамятацелямі, рашотка якіх пры прыёмцы сена ляжыць на зямлі і на якую наяжджае рашотка валакушы з сена, пасьля чаго рашотка скірдамятацеля падымаецца і здымае сваімі планкамі (зубамі) сена з рашоткі валакушы. Але можна валакушу скарыстаць і як самастойны транспартны сродак, падвозячы ёю сена да месца ўкладкі яго ў стог, пабудаваны і іншым спосабам, напр. пнэўматычным (плыні паветра ў трубе).

Пнэўматычная перадача матар'ялаў, наогул, зьяўляецца не навіной і, напр., даўно ўжываецца пры нагрузцы і выгрузцы зерня ў партовых гарадох, або пры вывядзеньні саломы з амэрыканскіх малацілак, але толькі параўнаўча нядаўна сталі ўжываць гэты спосаб пры транспарце лёгкаважнапульхных сельскагаспадарчых матар'ялаў, на больш або менш працяжныя адлегласьці (напр., да 200 м). Пнэўматычны спосаб падачы сена на стагі (або саломы і снапоў у стагі) мэтазгодзен у тых адносінах, што дае магчымасьць трактарызаваць працэс кладкі

стог, тады як усе да гэтага часу вядомыя скірдамятацелі з зваротна паступальным або хістальным рухам транспартуючых частак — вельмі ўскладнялі ўжываньне матораў, а апрача таго, у моц невялікай вытворчасьці іх—прывядзеньне іх у рух трактарам было нямэтазгодна.

Пнэўматычны транспарцёр мае вельмі простую пабудову; ён прадстаўляе спалучэньне цэнтрабежнай прылады для дзьмуханьня паветра і з наборам зьвеньнявых труб (хутка зьядзнаемых і разьядзнаемых), па якіх накіроўваецца струмень паветра з хуткасьцю 20—30 м у сэкунду і ў які, каля вэнтылятара, праз прыёмную варонку, уводзіцца транспартуемы матар'ял. Гледзячы па магутнасьці паветрадзьмухаўкі дыямэтру труб (да 65 см), далёкай адлегласьці транспарта (да 200 м) і вышыні пад'ёму (10—15 мт і больш) — пнэўматычны транспарцёр затрачвае да 40 HP пры падачы ў 1 гадзіну да 25 т сена або саломы (снапоў у 1 мінуту да 50 шт.).

Падача матар'ялаў паветрадзьмухаўкай дае магчымасьць скласьці стагі больш значнай вышыні, чым гэта магчыма пры рабоце стогамятацеляй, а апрача таго трубчаты транспарцёр можа быць лёгка прапушчан паміж брускамі кроквенных фэрм (пры ўкладцы матар'ялаў на падстрэшшах або пад дахам), што немагчыма або ўскладняецца пры транспарцёры іншых пабудоў.

Нягледзячы на малы каэфіцыент карыснага дзеяньня пнэўматычнага транспарцёра (п=0,2—0,3), дзякуючы бесьперапыннасьці яго дзеяньня, ён вельмі павялічвае вытворчасьць рабочых у параўнаньні з іншымі спосабамі ўкладкі сена і значна патаняе каштоўнасьць работы. Параўнаўчыя даныя аб вытворчасьці рабочых пры ўкладцы сена ў стагі рознымі спосабамі і кашоўнасьць укладкі 1 т сена (за адзінку кашоўнасьці прынята кашоўнасьць укладкі 1 т сена перакідным столамятацелем) паказана ў наступнай табліцы:

| Спосабы ўкладкі сена | Вытворч. рабоч. у 1 гадз. у *т.* | Каштоўн. укладкі 1 *т.* |
|---|---|---|
| 1. Ручная | 0,2 | 2,0 |
| 2. Кранавым стогамётам | 0,3 | 1,2 |
| 3. Перакідны стогамёт | 0,4 | 1,0 |
| 4. Пнэўматычны транспарцёр да | 4,0 | 0,2 |

Такім чынам, у параўнаньні з работай перакіднога стогамёту, вытворчасьць рабочых пры пнэўматычным транспарцёры павялічваецца ў 10 раз, а каштоўнасьць работы паменшаецца ў 5 раз.

Пнэўматычныя транспарцёры ў нас ужо пабудаваны, і ў гэтым годзе яны будуць пушчаны ў работу.

У заключэньне трэба сказаць некалькі слоў аб штучнай сушцы сена мэханізаваным спосабам.

У раёнах, дзе выпадае шмат асадкаў у час касьбы (у нас у БССР другі, а часам і першы ўкос) скарыстаньне скошанай масы магчыма толькі ў якасьці сілосу, а між тым у радзе выпадкаў бывае патрэбна высушаная зялёная маса.

У такім выпадку адзіным спосабам кансэрваваньня скошанай масы зьяўляецца яе штучная сушка.

Апрача таго (па амэрыканскім даным) пры штучнай сушцы сена валавы збор спажыўных матэрый павялічваецца на 25 проц. і колькасьць пратэіна (у матылёвых) на 50 проц. у параўнаньні з натуральнай сушкай.

За граніцай вядомы два спосабы штучнай сушкі сена пры дапамозе спэцыяльных установак, напр. у Амэрыцы—Мэзон і Ардрыер, з мэханізаванай падачай у сушыльную камеру прадукта і наступным нават яго размолам, і больш спрашчоным спосабам, у стагу, укладзеным на конічнай форме сетчаты барабан (вышынёю да 3 м і дыямэтрам асновы да 2 м), унутр якога нагнятаецца нагрэтае паветра; здаецца гэта другі спосаб эканамічна выгадней за першы.

Справа з штучнай сушкай сена зусім новая і мала вывучаная і таму навукова-абаснаваных, канчатковых вывадаў і палажэньняў, якімі трэба кіравацца, няма. Вопыты штучнай сушкі сена вядуцца нашым Усесаюзным Інстытутам Электрыфікацыі сельскай гаспадаркі ў досыць значным маштабе.

У выніку, калі супроцьпаставіць колькасьць чалавека-гадзін, патрэбных для атрыманьня 1 т прасаванага сена, пры ручным выкананьні гэтых работ (пры ўраджаі 5 т сена з 1 га) з матарызаванай работай, то акажацца, што ў першым выпадку для атрыманьня 1 т прасаванага сена трэба затраціць 40 чалавека-гадзін, а ў другім выпадку ўсяго толькі 1 гадзіна, г. зн. матарызацыя сенаўборачных работ павялічвае вытворчасьць рабочых у 40 раз, не гаворачы ўжо аб тым, што пры маторным абслугоўваньні машын работа праходзіць шмат хутчэй і ў непамерна больш лёгкіх умовах, чым пры ручным яе выкананьні, і зьвязана яна з меншымі стратамі.



Сенаўборка ў калгасе „Зялёны луг", Лагойскага раёну.

**Праф. Ю. А. Вэйс.**

# ЗА МІЛЬЁН ДЗЬВЕСЬЦІ ТЫСЯЧ ТОН СІЛОСУ!

## ДА ПЫТАНЬНЯ МЭХАНІЗАЦЫІ ЎБОРКІ СІЛАСНЫХ КУЛЬТУР І СІЛАСАВАНЬНЕ

Вопыт папярэдніх гадоў яскрава паказаў, што колькасьць нарыхтаванага сіласу залежыць ня толькі ад таго, колькі пасеяна сіласных культур і які іх ураджай, а ў значнай ступені ад таго, як гэты сілас прыгатаван і ў якім выглядзе ён страўліваецца жывёлай.

Сацыяльны заказ партыі і ўраду на 1932 год— нарыхтаваць сіласу 1.200.000 тон на Беларусі, патрабуе асаблівай увагі з боку саўгасаў і калгасаў, а таксама і іншых гаспадарчых установаў да справы сіласаваньня. Пасьпяховае выращэньне гэтага заказу будзе залежыць ад таго, наколькі добра будзе праведзена кампанія сіласаваньня.

Асноўную масу сіласу (70 проц. ад усёй колькасьці) патрэбна прыгатаваць з спэцыяльных сіласных расьлін (сланэчнік, кукуруза) і толькі 30 проц. прыпадае на іншыя расьліны і адкіды гаспадаркі.

Пасьпяваюць для сіласу сланечнік і кукуруза ў жніўні, верасьні месяцы. У гэты час у гаспадарцы ідзе ўборка збожжа, падрыхтоўка да пасеву азімых і шмат іншых работ, якія патрабуюць вялікай колькасьці рабочых рук.

Дзякуючы вялікай перагружанасьці працай у гэты пэрыод і часткова недаацэнкі ролі сіласу ў вырашэньні кармовай праблемы, некаторымі калгасамі і саўгасамі ўборка сіласных культур расьцягваецца на доўгі тэрмін і гэтым самым зьніжаецца якасьць корму. Пераросьлыя расьліны даюць больш грубы корм і меншай каштоўнасьці.

Расьцягваецца тэрмін сіласаваньня часта не таму, што не хапае машын (галоўным чынам сіласарэзак), якія значна скарачаюць затраты рабочага часу, а часта і ад таго, што наяўныя машыны недастаткова скарыстоўваюцца для правядзеньня гэтых работ. Бываюць выпадкі, калі ў гаспадарцы ёсьць сіласарэзка, а сілас рэжуць ручнымі сячкарнямі, ці яшчэ горш—сякуць секачамі.

Вядома, пры такіх мэтадах працы выкананьне пляну сіласаваньня расьцягнецца на яшчэ большы тэрмін, што значна можа зьнізіць якасьць корму. Каб гэта папярэдзіць і перавыканаць плян сіласаваньня, а да гэтага мы павінны імкнуцца, каб больш поўна забясьпечыць сакавітымі кармамі сацыялістычнае стада і павялічыць яго прадукцыю, неабходна правільна арганізаваць уборку сіласу і сіласаваньне шляхам правільнай расстаноўкі рабочай сілы ў час сіласаваньня, поўнага скарыстаньня маючыхся машын для ўборкі сіласных культур (касаркі, граблі), шляхам поўнага скарыстаньня сіласарэзак, арганізаваўшы работу іх у тры зьмены.

Больш поўнага выкарыстоўваньня кожнай сіласарэзкі вымагае і тая ўмова, што для нарыхтоўкі 1.200.000 тон сіласу патрабуецца 120 000 гадзін працы сіласарэзак. Трэба памятаць, што лічба 1.200.000 тон зьяўляецца кантрольнай толькі на 1932 г., якая з кожным годам будзе ўзрастаць у некалькі разоў па павялічэньня стада і ўнядрэньня сіласу ў гаспадарку.

У 1931 годзе заданьне было 10 мільёнаў тон, якое выканана па СССР на 118,4 проц., а ў 1932 г. заданьне па Саюзе 20 мільёнаў тон, або 3, 5—4,5 тон на карову. Для нарыхтоўкі такой масы корму патрабуецца і шмат рабочых рук. Сіласарэзкі значна павялічваюць вытворчасьць працы рабочага параўнаўча з ручнымі, коннымі і нават маторнымі сячкарнямі. Гомельская сіласарэзка дае ў гадзіну тону на 1 рабочага, а Омская—1,5—2,0 тоны, тады калі маторная сячкарня „Голіаф“ можа даць 0,3—0,4 тоны на рабочага. Усе сіласарэзкі, акрамя таго, непасрэдна транспартуюць рэзку ў вежу, або траншэю і не патрабуюць дадаткова рабочых для загрузкі вежы.

Лепшай сіласарэзкай нашай савецкай вытворчасьці зьяўляецца сіласарэзка Омскага заводу, таму, што яна больш вытворча і больш трывала, чым Гомельскага заводу. Пры большай прадукцыйнасьці амаль зусім не забіваюцца трубы, менш непрадукцыйных простояў, Гомельская ж часта забіваецца, што выклікае астаноўкі і зьніжае эканамічны эфэкт. Улічваючы лепшую якасьць сіласарэзак Омскага заводу, Гомельскі завод пачынае рабіць сіласарэзкі па тыпу Омскай і толькі завод „Гудок Кастрычніка“ ў Ніжнім-Ноўгарадзе пакуль што будзе вырабляць малыя сіласарэзкі, якія знойдуць прымяненьне ў больш дробных калгасах.

Усе гэтыя сіласарэзкі разьлічаны на трактар 10/20 HP і ўжо ня могуць даць поўнай нагрузкі трактарам СТЗ і ХТЗ магутнасьцю 15/30 HP.

Каб больш скараціць тэрмін нарыхтоўкі сіласу і даць належнай якасьці корм, а таксама даць нагрузку трактару СТЗ у час працы па сіласаваньні, сацыялістычнай сельскай гаспадарцы патрэбна сіла-



Стада калгасу „Бальшавік“, Менскага раёну

сарэзка вытворчасьцю мінімум 20 тон у гадзіну, г. зн. у чатыры разы больш, чым гомельскія. Рухавікі для такіх сіласарэзак даюць нашы заводы СТЗ і ХТЗ.

Каб больш поўна мэханізаваць работу па сіласаваньні, наша машынабудаўніцтва ідзе па лініі камбайніраваньня. Па заказу НКЗ ВИМЭ сканструяван Ленінградзкім аддзяленьнем ВИМЭ сіласаўборачны камбайн вытворчасьцю 20 тон у гадзіну, які адначасова жне і тут-жа на полі ў адзін прыём рэжа масу на рэзку пры мінімуме затрат рабочай сілы. У сэзон 1932 году будуць працаваць пробныя экзэмпляры. Камбайн разьлічан на паміжрадзьдзе ў 60 см і вызначаецца для ўборкі шырокарадных пасеваў. За адзін праход будзе ўбіраць два радкі расьлін.

Каб забясьпечыць мэханізацыю ўборкі на сілас такіх культур як віка, лубін, доньнік і іншыя, а таксама зьмешаныя пасевы (сланечнік плюс віка, кукуруза плюс віка), даючых большы ўраджай зялёнай масы ў параўнаньні з чыстымі пасевамі, Горацкім філіалам ВІМЭ сканструяван унівэрсальны сіласаўборачны камбайн для ўборкі суцэльных і шырокарадных пасеваў.

Ад моманту зразаньня расьлін з кораня да моманту загрузкі ў вежу пры аўтатранспарце пройдзе ня больш 15-20 мінут і захаваньне вільгаці і соку ў рэзцы будзе значна большае, чым пры звычайным спосабе ўборкі. Каб папярэдзіць высыханьне скошаных расьлін пры звычайным спосабе ўборкі, трэба кожны дзень скашваць масу ў колькасьці патрэбнай для сіласарэзкі, выходзячы з вытворчасьці апошняй.

Нарыхтоўка сіласу з бульбянай і бураковай батвы таксама значна ўпросьціцца пры рабоце бульбаўборачнага і буракаўборачнага камбайнаў. Як першы, так і другі зразаюць чыстую батву і порцыямі застаўляюць каля сябе. Кучы гэтыя адвозяцца к сіласарэзцы. Да зямлі датыкаецца нязначная частка батвы і якасьць сіласу амаль не зьніжаецца, затраты-ж на ўборку зьніжаюцца ў некалькі разоў, таму што зразаньне батвы ідзе адначасова з уборкай бульбы і буракоў і дастатковая рабочая сіла патрэбна толькі для адвозкі батвы да вежы.

Якасьць сіласу залежыць яшчэ і ад таго, як добра будзе маса ўтрамбавана ў вежы, ці траншэі. На трамбоўку ў вежы затрачваецца шмат рабочай сілы і не дасягаецца належных вынікаў таму, што дабіцца належнай шчыльнасьці ад ручных трамбовак вельмі цяжка, а скарыстаць коняй немагчыма. У траншэях і ямах справа абстаіць лепш, таму што рабочая сіла замяняецца канём, або валом.

Для трамбоўкі рэзкі ў вежы і траншэі Горацкім філіалам ВІМЭ сканструявана сіласатрамбоўка, якая будзе працаваць ад электраматора. Трамбоўкай кіраваць можа адзін работнік і заменіць 5-6 чалавек, якія звычайна бываюць заняты на гэтай рабоце.

**К. Ф. Скрабнёў.**

# Даць належны догляд сіласным культурам

## Забясьпечыць кармовую базу для сацжывёлагадоўлі

Ударным вучасткам работы пасьля сканчэньня вясеньняга севу зьяўляецца праца па догляду за пасевамі. Догляд за пасевам—праполка, прарыўка, акучваньне і прапашка асобных відаў культур, зьяўляецца неабходнейшым мерапрыемствам, ад належнага правядзеньня якога залежыць ураджайнасьць сельскагаспадарчых культур.

Для кожнага калгасьніка, рабочага саўгасу і МТС зьяўляецца бясспрэчным, што праполка лёну, пшаніцы, пшана, прапашка і акучваньне бульбы складаюць мінімальныя меры догляду за гэтымі культурамі, штогодняя практыка нам паказвае, што сарніна, калі яе ня зьнішчыць своечасова, зьядае шмат ураджаю надзвычай каштоўных культур і засьмечвае поле на наступны год. Толькі чыстае поле ад сарніны дае вялікі і добрай якасьці ўраджай. Нажаль, гэтае палажэньне ў практыцы шмат якіх калгасаў не распаўсюджваецца на новыя культуры, якім штогод на калгасных палёх адводзіцца ўсё большае і большае месца. Гэта—на сіласныя культуры—кукурузу і сланечнік, значэньне якіх для стварэньня кармавой базы для сацжывёлагадоўлі бясспрэчна вялікае. Яшчэ да гэтага часу можна сустрэць такі погляд, што „сіласныя культуры палоць ня трэба, бо сарніна таксама дае матар'ял, прыгодны для сіласаваньня і выкідаць яе з поля не патрэбна“.

Гэта вельмі памылковы і шкодны погляд, бо сіласныя культуры, як позьнясьпелыя, спачатку разьвіваюцца вельмі памалу і, калі ў першы перыяд росту іх ня вызваліць ад вельмі шпарка растучай сарніны (лебяды, гарчаку, курынага пшана, сурэпкі, пырнiку і г. д.), яна іх прыдушае і амаль канчаткова спыняе рост культур.

У выніку, калі яшчэ далёка да моманту ўборкі сіласных,—сьмяцьцёвыя травы высьпяваюць, засьмечваюць сваім насеньнем поле і атрымоўваецца невялікая колькасьць недобраякаснай сіласнай масы, якая складаецца з перастаяўшай сарніны і недаразьвітых сіласных расьлін.

Напрыклад, у калгасах: „Пераможац“ і „13-годзьдзе Кастрычніка“, Рагачоўскага раёну, пасевы сіласных не атрымалі ніякага догляду і амаль цалкам прапалі. Прычым, па заяве старшыні калгасу „13-годзьдзе Кастрычніка“, калі калгас прыступіў да полкі сіласных, гэтую апэрацыю забараніў рабіць афіцыйны прадстаўнік Рагачоўскага райкалгассаюзу, таксама падкрэсьліўшы прыгоднасьць сарніны на сілас. Гэтая агранапісьменнасьць асобных работнікаў калгаснай сыстэмы бясспрэчна садзейнічае захаваньню яе сярод радавых калгасьнікаў.

У калгасе „Новы сьвет“ кукуруза бяз догляду зусім прапала, а сланечнік даў толькі 100-120 **цнт** сырой масы з **га**, дзе пры поўным доглядзе можна было чакаць 250-300 **цнт** з **га** добраякаснага ўраджаю.

Гэтыя прыклады не выпадковыя. На сёнешні дзень іх яшчэ шмат.

Для таго, каб забясьпечыць досыць высокі ўраджай сіласных культур, кожны калгас і саўгас, акрамя ўсіх іншых агратэхнічных правіл, павінен абавязкова і бяз ніякіх адхіленьняў забясьпечыць правядзеньне наступных правіл догляду за пасевамі сілосных культур:

1. Пасьля таго, як зьявіліся ўсходы і не пазьней заснаваньня 2-й пары лісточкаў кукурузу і сланечнік трэба прабаранаваць звычайнымі жалезнымі баронамі ў 1-2 сьляды ўдоўж радкоў, ці ляпей—упоперак. Гэтая апэрацыя зьнішчае ў значнай ступені першыя ўсходы сарніны і часткова прарэджвае ўсходы сіласных, калі яны пасеяны густа.

2. Калі сіласныя культуры пасеяны на досыць засьмечаным полі і разам з усходамі сіласу зьяўляецца шмат сарніны, якая шпарка расьце і абганяе рост сіласных, пасьля баранаваньня яе трэба падрэзаць у міжрадзьдзях ручнымі палольнікамі „Планэт“ ручным спосабам, ці прыстасаваўшы па 3-4 палольнікі да коннай цягі.

3. Пасьля таго, як заснавалася другая пара лісточкаў, трэба зрабіць полку ў радох, а пры густым пасеве і адначасовую прарыўку, пакінуўшы расьліну ад расьліны ў радку на 15-20 см.

У буйных калгасах і саўгасах на вялікіх плошчах сіласных пасеваў прарыўку можна паскорыць, ужываючы той-жа ручны палольнік, ці прыстасаваўшы конную сашніковую сеялку, замяніўшы ў ёй сашнік спэцыяльна зробленымі трохкутнымі лапкамі з вострымі бакамі. Пры прарыўцы неабходна пускаць ручны палольнік ці прыстасаваную сеялку з адпаведнай расстаноўкай лапак, упоперак радкоў сіласных пасеваў з такім разьлікам, каб нажы „Планэта“ ці лапкі прыстасаванай сеялкі разразалі радкі пасеваў, пакідаючы асобныя расьліны, ці невялікія групкі расьлін—на адлегласьці 20 см адзін ад аднаго. Пры рэдкіх пасевах прарыўка зьяўляецца непатрэбнай.

4. Калі ўсходы сіласных дасягнулі вышыні 10-15 см і ня будуць засыпацца зямлёю пры коннай прапашцы, патрэбна зрабіць 1-ю прапашку міжрадзьдзяў конным палольнікам. Гэтай апэрацыяй дасягаецца рыхленьне глебы і зьнішчэньне сарнякоў у міжрадзьдзях.

Прарыўку сіласных пасеваў і 1-ю прапашку ня трэба вельмі расьцягваць, а зрабіць іх у найкарацейшы тэрмін—5-7 дзён.

Тыдні праз два пасьля 1-й прапашкі неабходна зрабіць 2-ю прапашку, а на засьмечаных палёх нават 3-ю і 4-ю прапашку. Чым больш засьмечаная і ўплатнёная глеба і чым больш бывае ў гэты час дажджоў, тым больш трэба рабіць прапашак. З таго моманту, калі самі расьліны пачынаюць зьмыкаць радкі (пры росьце 50-60 см) і добра забіваюць сарніну, якая зьяўляецца ў гэты час у міжрадзьдзях, прапашку больш рабіць не патрэбна.

Як уплываюць пералічаныя меры догляду на ураджаі сіласных відаць з ніжэйпрыведзеных лічбаў, атрыманых досьледамі Турскай Дасьледчай станцыі ў 1931 годзе.

**Ураджай сырой масы кукурузы:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Без прарыўкі | 148,7 | цнт з га |
| 2. Прарыўка на 20 см | 213,5 | „ „ |
| 3. Рэдкі пасеў | 169,0 | „ „ |

Увага. Густы пасеў зроблен з разьліку 60 кг, а рэдкі—20 кг насеньня з га.

Як бачым, прарыўка кукурузы павялічвае ўраджай у 1,5 разы і нават рэдкі пасеў дае большы ўраджай, чым густы без прарыўкі, пры значна лепшай яго якасьці. Аднак, норма высеву 20 кг на га дае няпоўны ўраджай сіласнай масы, бо зьяўляецца занадта нізкай нормай і трэба лічыць, што павялічэньне яе да 30-35 кг на га пры нармальнай усходжасьці насеньня—85 проц. дасьць нармальны ўраджай сіласнай масы і без прарыўкі.

Сарніна на полі—вораг культурных пасеваў, якая зьядае шмат ураджаю. З ёю неабходна павесьці рашучую барацьбу.

Праполку сіласных—на ўдарныя рэйкі—баявы лёзунг сёнешняга дня.

**Забелла З. А.**

# Агразаатэхнічны паход—паход мільёнаў

## ЗА АЎЛАДАНЬНЕ ТЭХНІКАЙ, ЗА ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ, ЗА ВЫСОКУЮ ПРАДУКЦЫЙНАСЬЦЬ ЖЫВЕЛАГАДОЎЛІ

**„Цэнтральнай задачай другой пяцігодкі павінна стаць рашучае павышэньне ўраджайнасьці саўгасных і калгасных палёў“** (*З пастановы XVII партканфэрэнцыі*)

Пастановай сакратарыяту ЦК КП(б)Б з 1-га чэрвеня абвешчан усебеларускі агразаатэхнічны паход. Галоўнымі задачамі паходу зьяўляецца шырокае разгортваньне работы за масавае аўладаньне і укараненьне агразаатэхнікі, за шырокае разгортваньне агразаатэхнічнай вучобы пад лёзунгам: „Кожная вытворчая брыгада—гурток агра, або заатэхнікі“, за шырокі абмен вытворчым вопытам саўгасаў, МТС і калгасаў, а таксама паасобных брыгад і лепшых ударнікаў сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасьці, за ўкараненьне ў рабоце ўсіх саўгасаў, МТС і калгасаў патрабаваньня аграномічнай навукі і агра-заатэхнікі, за павышэньне ўраджайнасьці палёў і прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі.

За час агразаатэхнічнага паходу ва ўсіх брыгадах саўгасаў, МТС і калгасаў павінны быць арганізаваны агразаатэхнічныя гурткі ў адпаведнасьці са спэцыялізацыяй данай гаспадаркі. Трэба цяпер-жа папярэдзіць арганізацыю гурткоў з унівэрсальным ахопам усіх відаў сельскагаспадарчых работ. Такія гурткі не дадуць значных вынікаў, паколькі яны ня змогуць цесна ўвязаць тэарэтычную падрыхтоўку з іх практычнай работай у вытворчасьці.

Агразаатэхнічныя гурткі арганізуюцца ў брыгадах у залежнасьці ад напрамку спэцыялізацыі кожнай брыгады. Такім чынам, брыгада даярак павінна адначасова зьяўляцца і заатэхнічным гуртком па вывучэньні тэхнікі сваёй справы, тэхнікі

догляду за каровамі. Брыгада на сьвінарніку ўяўляе сабой гурток, які займаецца вывучэньнем тэхнікі сьвінагадоўлі, шляхоў і мэтадаў павышэньня прадукцыйнасьці сьвінагадоўлі, зьнішчэньня адыходу і г. д. Брыгада па догляду за агародам вывучае тэхніку і часы пасадкі абслугоўваемых культур, лепшыя сарты для данай глебы, часы і тэхніку праполкі і ўборкі. Брыгада палявых рабочых вывучае тэхніку, часы і глыбіню ворыва на розных глебах, сарты насеньня, догляд, тэхніку ўборкі і г. д.

Па меры вывучэньня таго ці іншага пытаньня неабходна атрымліваемыя веды адразу-ж прымяняць на практыцы, сумяшчаючы тэарэтычную вучобу ў гуртку з практычнай работай ў брыгадзе.

Брыгады-гурткі закладваюць вопытныя вучасткі, дзе правяраюць мэтазгоднасьць прымяненьня таго ці іншага дасканальна яшчэ не праверанага агратэхнічнага прыёму, ставяць вопыты з вывядзеньнем новых парод, дамагаюцца поўнай мэтызацыі ўсяго пагалоўя, зноў-такі вядучы штодзенны ўлік становішча аб'ектаў, над якімі рабіліся вопыты.

Для кіраўніцтва гурткамі прыцягваюцца аграномы, таварышы, скончыўшыя адпаведныя сельскагаспадарчыя курсы, настаўнікі, заг. хат-чытальнь і лепшыя, больш вопытныя брыгадзіры.

Кожная брыгада-гурток выдае сваю насьценгазэту, дзе разам з асьвятленьнем вытворчай дзейнасьці дае і разгорнуты паказ дасягненьняў і недахопаў у сваёй вучобе.

Час-ад-часу склікаюцца аб'яднаныя, або кустывыя вучэбна-вытворчыя нарады гурткоў аднаго напрамку двух або некалькіх блізка ляжачых саўгасаў ці калгасаў, дзе вытвараецца абмен вопытам вытворчай і вучэбнай работы гэтых брыгад-гурткоў.

Можна практыкаваць экскурсіі з аднаго калгаса ці саўгаса—у другі, таксама для абмену вопытам і перанясеньня лепшых мэтадаў работы з аднэй гаспадаркі ў другую. Наогул, у гэтай справе няма ніякіх абмежаваньняў да выбара мэтадаў работы. Каштоўная ініцыятыва, якую праявяць асобныя саўгасы, МТС і калгасы, ці асобныя брыгады будзе шырока прымяняцца ў рабоце другіх гаспадарак.

На мясцох трэба разгарнуць работу за стварэньне гэтых гурткоў агразаатэхнікі, трэба ўжо заняцца падборам кіраўнікоў для гэтых гурткоў, трэба ўжо падрыхтаваць памяшканьні для заняткаў і пачаць прапрапрацоўку агразаатэхнічных мерапрыемстваў, якія трэба прымяняць да бягучых сельскагаспадарчых работ (у паляводзтве і гародніцтве—праполка, акучка, догляд за пасевамі; у жывёлагадоўлі—злучная кампанія, пытаньне захаваньня маладняка, зялёныя выпасы і г. д.).

Усяго ў БССР за час паходу павінна быць арганізавана, па папярэдніх намётках, звыш 13 з паловай тысяч такіх спэцыялізаваных гурткоў з ахопам больш 400 тысяч чалавек.

Гэта вялізарнейшая праграма патрабуе для свайго выкананьня напружанай работы ўсіх партыйных, савецкіх органаў і грамадзкіх арганізацый. Вакол гэтай праграмы трэба мабілізаваць шырокія масы саўгаснага і калгаснага актыву. Асабліва вялікая задача ў ператварэньні ў жыцьцё гэтай баявой праграмы належыць шэфскім таварыствам і шэфкамісіям пры прадпрыемствах. У раёнах неабходна шырока разгарнуць каротка-тэрміновыя курсы для падрыхтоўкі кадраў кіраўнікоў гурткоў агразаатэхнікі.

У час правядзеньня гэтай работы неабходна даваць рашучы адпор „левым“ апартуністам, якія спрабуюць скарыстаць шырока разгорнутую тэхнічную вучобу ў брыгадах для паслабленьня ролі брыгады, ад работы якіх залежыць посьпех работы ўсяго саўгасу, МТС ці калгасу.

Аднак, адным наладжваньнем масавай агра-тэхнічнай вучобы задачы паходу ня вычэрпваюцца. У пастанове сакратарыяту ЦК КП(б)Б, адзначана, што трэба **„агразаатэхнічны паход праводзіць вакол канкрэтных задач па лепшым доглядзе за ўраджаем, жывёлай і маладняком, падрыхтоўкі і правядзеньня асеньняй сяўбы і пасьпяховага правядзеньня праполачнай і ўборачнай кампаніі“.**

Гэта значыць, што да кожнага рабочага саўгасу, МТС, да кожнага калгасьніка трэба давесьці плян работы яго брыгады ў часе праполкі, уборкі і асеньняй сяўбы.

Усе гэтыя пытаньні трэба даводзіць да рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў—дыфэрэнцыявана, у залежнасьці ад работы, якую выконвае кожны рабочы ці калгасьнік. Лягчэй за ўсё, бязумоўна, правесьці ўсю гэту работу праз агразаатэхнічныя гурткі, якімі павінны быць ахоплены ўсе занятыя ў сельскагаспадарчай вытворчасьці рабочыя і калгасьнікі.

Уся работа па агразаатэхнічным паходзе нямысьліма без арганічнай увязкі яе з правядзеньнем у жыцьцё апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб збожжа і мясазагатоўках, калгасным гандлі, аб захаваньні конскага пагалоўя і г. д. Аднačасова трэба ўвязаць правядзеньне агра-заатэхнічнага паходу з конкурсамі на лепшага старшага сьвінара і на лепшае скарыстаньне і захаваньне трактарнага парку.

Неабходна найшырэйшым чынам арганізаваць масы на правядзеньне гэтага паходу, які зьяўляецца важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніяй. Пастановай сакратарыяту ЦК КП(б)Б усім гаркомам, райкомам і ячэйкам КП(б)Б прапануецца **„ўключыцца ў правядзеньне агразаатэхнічнага паходу, праводзячы яго як найважнейшае гаспадарча-палітычнае мерапрыемства, разгарнуўшы сапспаборніцтва і ўдарніцтва паміж раёнамі, саўгасамі, МТС, калгасамі і брыгадамі на лепшае правядзеньне агразаатэхнічнага паходу“.**

Ленінскі камсамол, які заўсёды займае перадавыя пазіцыі ў штурмаваньні баявых задач, пакажа і на гэты раз сваю здольнасьць і ўменьне сапраўды, па-ленінску змагацца за разгортваньне і посьпех паходу.

А выніхі агразаатэхнічнага паходу будуць вымярацца ня толькі колькасьцю арганізаваных гурткоў, праведзеных зьлётаў і экскурсій, а ў першую чаргу лічбамі аб павышэньні ўраджайнасьці, галовамі прыросту стада і літрамі павялічанага ўдою.

Усе матар'ялы аб ходзе паходу на мясцох трэба накіроўваць у цэнтральны штаб паходу (Менск, Савецкая 71, Наркамзем БССР, Тэхпроп).

**А. Турэцкі.**

# Аб плаце за завочнае навучаньне

Паўгадовы вопыт працы сэктара завочнага навучаньня пры інстытуце кармовых культур і аграхэміі ў Горках дазваляе зрабіць некаторыя заўвагі адносна платы за завочнае навучаньне завочнікамі вольнага набору.

Пытаньне, на мой погляд, тым больш актуальна, што значны процант адсеву завочнікаў выклікаецца немагчымасьцю з іх боку сваячасова (штомесячна) уносіць плату за навучаньне.

Як абстаіць справа зараз?

Абстаіць так, што кожны завочнік—студэнт ВНУ павінен уносіць штомесячна па 10 р. 50 к., а завочнік—студэнт тэхнікуму 6 р. 70 к. Нельга сказаць, што гэтая плата надта высокая, асабліва для завочнікаў-студэнтаў са складу спэцыялістаў з высокімі стаўкамі. Аднак, калі прыняць пад увагу, што асноўны контынгент студэнтаў-завочнікаў прыпадае на катэгорыю работнікаў з нізкімі стаўкамі, што завочная падрыхтоўка павінна ахапіць шырокія колы рабочых саўгасаў і калгасьнікаў, дык стане зразумелым, чаму існуючая плата за навучаньне павінна быць перагледжана.

Ня можам мы падыходзіць з адной меркаю да завочніка, атрымліваючага 250 руб. у месяц і да раённага работніка, атрымліваючага 70 руб. Гэта, па мойму, бясспрэчна.

Мне здаецца, што лепш за ўсё ўвесьці дыфэрэнцыяльную плату за завочнае навучаньне. Дыфэрэнцыяцыя павінна ўстанаўлівацца непасрэдна сэктарам завочнага навучаньня, выходзячы з матар'яльнага і сацыяльнага становішча завочніка.

Прыкладна я думаю можна было-б пабудаваць аплату наступным чынам:

| Разьмер атрымліваемай пэнсіі | Плата за навуч. у процантах да пэнсіі | |
|---|---|---|
| | За навуч. у аб'ёме ВНУ | У аб'ёме тэхнікуму |
| Ад 50—70 руб. . . | 2 проц. | 2 проц. |
| „ 75—100 „ . . | 5 „ | 3 „ |
| „ 105—150 . . . | 8 „ | 5 „ |
| „ 160—200 . . . | 10 „ | 7 „ |
| „ 210—250 „ . . | 15 „ | 9 „ |

Вядома, што прыведзеная мною градацыя павінна быць абгаворана і можа быць зьменена.

Гаворачы аб дыфэрэнцыяльнай аплаце я маю на ўвазе зьнішчаньне платы ў тым выпадку, калі завочнік акуратна і добрасумленна прапрацоўвае матар'ял, які яму пасылаецца завочным сэктарам, што гарантуе ў строга вызначаны час папаўненьне арміі спэцыялістаў.

Значна лепш абстаіць справа з платай за навучаньне студэнтаў-завочнікаў, якія камандыраваны арганізацыямі. Аднак і тут трэба зрабіць пару заўваг.

Першае: камандыруючыя арганізацыі надзвычай зацягваюць справу высылкі грошай за сваіх завочнікаў і гэтым ставяць пад пагрозу бесьперабойнае забесьпячэньне завочніка вучэбнымі матар'яламі з боку сэктароў. А такія арганізацыі, як скажам, Сьвінаводтраст „ухітрыўся“ на працягу паўгода ня толькі ня выслаць плату за сваіх завочнікаў, а нават не адказаць на шматразовыя запытаньні з боку сэктара.

Другое: камандыруючыя арганізацыі павінны ўносіць плату за сваіх завочнікаў ня звыш як за тры месяцы ўперад. Гэта палегчыць разьлікі паміж сэктарам і арганізацыямі з аднаго боку і з арганізацыямі і завочнікамі — з другога. Справа ў тым, што ў некаторых выпадках камандыраваны завочнік звальняецца з працы, кідае вучобу ці ўносіць плату за навучаньне сам.

Для камандыраваных трэба павысіць запатрабаваньні з тым, каб праз квартал арганізацыя атрымлівала ад сэктара весткі аб посьпехах камандыраваных, каб такім чынам выявіць тых завочнікаў, якія ня могуць або ня хочуць працаваць над вучэбным матар'ялам.

Таксама рэспубліканскі інстытут завочнага навучаньня павінен устанавіць такі парадак, пры якім-бы завочнік уносіў поўную суму грошай у сэктар за вывучэньне замежных моў. Гэта дасьць магчымасьць кантраляваць завочніка па вывучэньні ім замежных моў.

Завочная падрыхтоўка сельскагаспадарчых кадраў у СССР новая. Калектыўная думка па пытаньнях вучэбнага і арганізацыйнага парадку павінна найхутчэй надаць гэтай справе належныя тэмпы і росквіт.

Заг. завочнага сэктара Інстытуту кармовых культур і аграхэміі **М. Ляўкевіч.**

**Ад рэдакцыі.** Зьмяшчаючы артыкул т. Ляўкевіча—рэдакцыя часопісі чакае на гэты артыкул заўваг ад саміх завочнікаў і адпаведных арганізацый.

Рэдакцыя згодна з тав. Ляўкевічам у тым, што плата за навучаньне не павінна быць аднолькавай для завочнікаў, атрымліваючых розную зарплату. Аднак, рэдакцыя ня згодна з праектам аўтара аб процантных адлічэньнях. Пры ажыцьцяўленьні праекту тав. Ляўкевіча выходзіла-б, што завочнік, які атрымлівае, напр. 250 руб. у месяц павінен быў-бы плаціць за навучаньне 450 руб. у год, у той час, як гадавая плата за навучаньне вызначана ў аб'ёме тэхнікуму 80 руб. і ў аб'ёме ВНУ—130—150 руб. (гл. праспэкт рэспубліканскага інстытуту завочнага навучаньня).

Дыфэрэнцыяцыя платы за навучаньне павінна ісьці па лініі прадстаўленьня ільгот пэўным катэгорыям завочнікаў, выходзячы з іх сацыяльнага паходжаньня, матар'яльнага становішча і яго працы на вытворчасьці (ударніцтва, рацыяналізатарства і г. д.).

Па зьвестках, якія ёсьць у рэдакцыі, недаўкамплектаваньне завочных сэктароў і адсеў, аб якім піша аўтар, тлумачацца не высатой платы за навучаньне (бо, як правіла, завочнікі павінны навучацца за рахунак гаспадарчых арганізацый), а галоўным чынам недаацэнкай завочнага навучаньня з боку рада гаспадарчых арганізацый (хаця-б Сьвінаводаб'яднаньня, аб якім паведамляе тав. Ляўкевіч), недастатковай папулярызацыяй завочнага навучаньня сярод шырокіх мас працоўных і часта нездавальняючай працай саміх завочных сэктароў.

Рэдакцыя просіць завочнікаў выказацца на старонках часопісі „Шляхі калектывізацыі“ па пытаньнях завочнага навучаньня.

# Дырэктывы і матар'ялы аб завочнай падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў

**(Бібліяграфія)**

Зьвесткі, паступаючыя з месц, сьведчаць аб тым, што на мясцох ня ўсюды яшчэ праведзена належная праца па папулярызацыі ідэі завочнага навучаньня, што дырэктывы партыі і ўлады аб завочным навучаньні ня ўсюды давевдзены яшчэ да шырокіх мас працоўнага насельніцтва.

Аб завочным навучаньні часам ня ведаюць ня толькі радавыя калгасьнікі і рабочыя саўгасаў, але-ж і кіраўнікі гэтых гаспадарак. Ёсьць выпадкі, калі нават паасобныя райземчасткі і Райкалгассаюзы не даюць поўных адказаў на запытаньні аб умовах прыёму ў завочныя сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы, а адсылаюць за даведкамі ў цэнтр, у той час, калі ў кожнай райземчастцы, у кожным райкалгассаюзе маюцца ўсе патрэбныя па гэтаму пытаньню матар'ялы (праспэкт, анкеты і інш.).

Такое становішча, вядома, нельга прызнаць нармальным. Яшчэ больш ненармальнае зьявішча— гэта адсеў завочнікаў, які тлумачыцца галоўным чынам, нестваранынем на мясцох, ня гледзячы на дырэктывы, належных умоў для вучобы—(адсутнасьць кансультацыйных пунктаў, адсутнасьць радыё-прыёмнікаў, значная загрузка грамадзкай працай і г. д.).

Ніжэй зьмяшчаюцца пастановы і іншыя матар'ялы, якімі неабходна кіравацца пры правядзеньні працы па завочнай падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў. Амаль усе гэтыя пастановы і матар'ялы маюцца на мясцох. Большасьць іх (праспэктаў—140 экз., плякатаў—140 экз. і інш.) накіравана непасрэдна рэспубліканскім завочным Інстытутам Райземчасткам для распаўсюджваньня па саўгасах, калгасах, МТС і раённых установах.

1. Палажэньне НКЗ СССР ад 3/І-31 г. пра сыстэму завочнага сельскагаспадарчага навучаньня ў СССР.

2. Пастанова дырэктарата Цэнтральнага Інстытуту Завочнага навучаньня НКЗ СССР і РСФСР і Маладзежнага Інстытуту ЦК УсеЛКСМ ад 28/ІІ-31 г. аб мерапрыемствах па ажыцьцяўленьні лёзунга т. Сталіна аб аўладаньні тэхнікай.

3. Пастанова СНК БССР ад 23/V-31 г. пра сыстэму завочнага навучаньня.



Дзіцячыя яслі ў калгасе.

4. Пастанова Калегіі НКЗ БССР ад 30/IV-31 г. аб арганізацыі ў БССР Інстытуту па завочнай падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў.

5. Пастанова Сакратарыяту ЦК ЛКСМБ ад 28/VIII-31 г. аб рэспубліканскім завочным Інстытуце і стварэньні пры ім Маладзежнага Інстытуту.

6. Цыркуляр НКЗ СССР ад 2/IX-31 г. усім сельскагаспадарчым ВНУ СССР аб падрыхтоўцы сельскагаспадарчымі ВНУ, тэхнікумамі кадраў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі і майстраў-брыгадзіраў завочным шляхам.

7. Пастанова Калегіі НКЗБ ад 30/VIII-31 г. аб устанаўленьні ільгот завочнікам.

8. Загад Наркома Земляробства БССР ад 22/IX-31 г. аб правядзеньні месячніка па завочнаму навучаньню.

9. Пастанова Калегіі НКЗ СССР ад 26/IX-31 г. аб мерапрыемствах па разгортваньні завочнага навучаньня.

10. Пастанова Калегіі НКЗБ ад 8/І-32 г. аб ходзе выкананьня пастаноў па завочнаму навучаньню.

11. Пастанова СНК БССР аб кантрольных лічбах і фінансаваньні завочнага навучаньня ў 1932 г.

12. Пастанова СНК БССР ад 9/V-32 г. пра дадатковы водпуск студэнтам-завочнікам.

13. Пастанова № 317 СНК БССР ад 7/VI-32 г. пра вытворчую практыку навучаючыхся па сыстэме завочнага навучаньня.

14. Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб культурным будаўніцтве БССР. (Пра завочнае навучаньне—разьдзел 2, п. „д").

15. Праспэкт Беларускага Рэспубліканскага Інстытуту завочнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі сельскагаспадарчых кадраў НКЗ БССР і Маладзежнага Інстытуту ЦК ЛКСМБ. Менск, 1931 г. Тыраж 12 000 экз.

16. Плякат „Вучыся завочна"—Белар. Рэспублік. Інстытуту і Маладзежнага Інстытуту ЦК ЛКСМБ. Менск, 1931 г. Тыраж 12.000 экз.

17. Вучыся завочна. Брашура. БДВ. 1931 г. Тыраж 20.000 экз.

18. Зборнік № 1 „За заочную подготовку сельско-хозяйственных кадров". Выд. Цэнтральнага Інстытуту завочнага навучаньня НКЗ СССР. Масква 1931 г. Тыраж 5 000 экз.

19. Праспэкт Цэнтральнага Інстытуту завочнага навучаньня НКЗ СССР і Маладзежнага Інстытуту ЦК УсеЛКСМ. Масква, 1931 г. Тыраж 80.000 экз.

20. Матар'ялы 1-й Усесаюзнай нарады па завочнай падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў. Стэнаграфічная справаздача. Выд. Цэнтральнага Інстытуту Завочнага Навучаньня—Масква, 1931 г. Тыраж 1.500 экз.

21. Артыкулы аб завочнай падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў, зьмешчаныя ў часопісі „Шляхі Калектывізацыі" за 1932 г. №№ 2, 3, 4, 6, 7, 8, 9, 10.

В. К.




Дарога, што істужка, уплеценая ў доўгую русую касу дзеўчыны, уецца ўзгоркамі, нізінамі, ускраінамі лесу, а паабапал мільгаюць слупы, старыя і маладыя прысады; зелянее маладая збажына ўсё па тых-жа ўзгорках, нізінах, ускраінах лесу; красуе маладое, у рост чалавека, зялёнае жыта, пшаніца; лёгкім туманам уздымаецца шэры пылок з гібкіх каласкоў ад павеву ветра па шырокіх загонах бяз меж. Яравыя пасевы сваімі зялёненькімі пялёсткамі пакручваюцца за сьвятлом, шукаюць і ловяць спажыву ў паветры, пераганяюць першы пэрыяд росту.

Яшчэ лепшы малюнак прыгажосьці становіць сабою ва ўсёй шырыні, калі сонца, вынырнуўшы з-за ўзгорка, залівае сваім сьвятлом і бляскам усю раўніну вялікага прастору, які хаваецца ў зялёным пакрове расьліннасьці. Недалёка ад вёскі блішчаць будынкі, што разьлегліся на неабсяжна шырокім палатне з зялёнымі ўзорамі, пад схілам гульлівых пасеваў з голымі, пералівамі золата, верхавінамі — каласкамі.

Дзіўная пыха наўкольнае расьліннасьці: бляск мора, зелені і сьвятла, пераліваў то пяшчотных, то яркіх фарбаў, што мільгаюць пад промнямі сонца, ціха ўздымаючагася ў бязьмежную вышыню,—усё гэта нагадвае сабою як-бы нешта штучна разьмешчанае чалавекам, дэкарацыя. Але гэта толькі павярхоўнасьць. Глыбокі сэнс шырачэзных загонаў прастору ў своеасаблівых законах разьвіцьця, падпарадкаваных агульным законам прыроды пры актыўна-непасрэдным узьдзеяньні чалавека на яе. Веліч прастору неабсяжна. Ад яго нясецца пах нязбыткаванасьці.

Чалавек дасягнуў вышэйшай формы ўзьдзеяньня на прыроду...—на калектывам занузданую зямлю ён садзіцца верхам і кіруе ёю як сам хоча; прымушае вырошчваць высокай якасьці, дагэтуль нябачаныя нашай глебай, культуры, даваць добры ўраджай.

Але барацьба чалавека з зямлёй за аўладаньне над ёю ня скончана.

Раскрываецца грандыёзная панарама барацьбы людзей у сутычцы з зямлёй і за зямлю.

* * *

Быў прыгожы чэрвеньскі дзень. Сонца нізілася да захаду, абліваючы сваімі промнямі верхавіны дрэў і будынкаў. Наўкол панавала глухая цішыня. Толькі з-за вузкай палоскі сада, што аддзяляў панскія будынкі ад ракі, ціхім хрыпам зьнямогі, недзе з другога боку сядзібы, даносіліся да ракі гукі аркэстра з павольна адміраючай песьняй; цяжкім туманам расьсьціліліся па ёй, па сенажаці. А з панскіх пакояў з грудзей зьнямоганых людзей—парабкоў разносілася песьня нядолі:

...Эх, ты доля, мая доля!
Чаму ты не такая,
Як твая, людзкая?..

Праз песьню нядолі і гвалту над парабкамі і з гэтай урачыстасьці заходзячага сонца, раптам з заміраючай цішыні вынырнуў вокрык панскага прыганятага—аканома. Усьлед затым з гульліва ціхага сада рыўкамі разьнесьліся энэргетычна-нэрвовыя прывітаньні па адрасе маладога афіцэра і гасьцей,—напамінаючы нам, што мы знаходзімся ад дваццатага стагодзьдзя ў аддаленьні бяздоннай нетры дзікага стану чалавецтва, дзе ўсякае гуляньне суправаджалася дзікімі вывёртамі—скокамі і раптоўнымі ўзрывамі сьмеху і пахлопваньня ў ладкі.—Мы на беразе выспы абшарніка Ярашэвіча—цывілізатара польскай панскай культуры, у той самы момант, калі пачалося генэральнае прыбіраньне пакояў,—рыхтавалі для гульбішча.

Гэта—ня звычайнае, штодзеннае прыбіраньне, некалькі нагадваючае мыцьцё семяжоўскіх хат, а нешта яшчэ больш сур'ёзнае. Гэта—тое ўрачыстае хвіліннага ўздыму сытага парадку і мадаранцы ў пашану чыстаты і харatства, якое парабкі называлі „катаржным парадкам пана Ярашэвіча". Гэта больш таго. Гэта—інквізыцыя, катаваньне і закабаленьне волі і свабоды чалавека, маючага поўнае права на сваё ўласнае існаваньне, здабыцьцё якога—у ім самім.

— Прыбіраньне кончыць да васьмі гадзін...

— Ёсьць, яснавяльможны пане,—яшчэ раней будзе прыбрана...

Пад гарачымі промнямі летняга сонца, абмытая і растаўленая па двары мэбля высыхае хутка, і тады пачынаецца націраньне сухой анучкай—шліфоўка—да млосьці ў руках.

Работа кіпіць. Усюды наводзіцца глянцоўка. Людзям няма калі разагнуць сьпіны. Яны толькі схованкамі ад аканомскага вока адскоквалі за кусты, каб льга было выкурыць папяросу, і выпрастаўшыся ўскінуць адным вокам на зьзяючы пералівам ад сонца зялёны бераг і перашапнуцца заўвагамі наконт наўкольнага хараства прыроды. Чутна лаянка аканома.

Такая-ж адчайная шліфоўка ідзе, вядома, і на другім баку сада: сымфонія звону кілішак, глуха разносіцца па садзе і тане ў рацэ, няміласэрдна зьнішчаюцца цэлыя горы розных ежы, відаць, сытасьці і разгулу аддаецца апошняя пашана—спраўляецца баль.

— Ужо і есьці захацелася,—прахрыпеў нечый голас з сярэдзіны парабкоў.

— Ты-ж нядаўна абедаў...

Ужо восьмая гадзіна падыходзіла к канцу. Работа скончана, і толькі асіплы голас аканома не даваў спакою парабкам пазбыцца ад стомы і работы.

— Яшчэ трэба стайню прыбраць, вычысьціць абору...,—голасам Юды крычаў аканом.

— Ох, як сьпіна баліць, не разагнуцца,—хрыпам вырвалася з сярэдзіны грудзей у Сяргея.

Усё падрыхтавана да салюту ў пашану чэсьці і славы дачкі пана Ярашэвіча. Маёнтак прыведзен да парадку, пакоі зіхацяць,—усё прыняло свой бліскучы, сьвяточны, прыбраны выгляд.

... Усё!

Госьці ў зьнямозе ад стомы ўжо бяз такту адбіваюць у віхурным коле мазурку...

... Але!

Сьцены душных муроў цяжкай асадкай цаглін лажацца і душаць сэрца афіцэра і яго ўчарайшай каханкі—сёнешняй жонкі. Яны шукаюць адзіноты, аддзяляюцца ад гулу вясельнага і забіраюцца далёка, далёка ў сад—у куток, пад старую ліпу.

Хваляваньне падпірае к горлу, ён ня можа прагаварыць ні слова і стаіць перад ёю, як пень. Стаіць і яна. Але радасьць чалавека, здабыўшага сабе кавалак сытага шчасьця, разьвязала ёй мову і яна моцна абвіла сваімі белымі рукамі яго шыю і ціха прашаптала:

— Я да бяскраю шчасьліва, што ты афіцэр.., служыш...

— Што служба... служба ня ўсё,—яму ўсёроўна цяжка было гаварыць, нешта смактала пад грудзямі.—Чалавеку другога, больш поўнага жыцьця хочацца...—ужо як-бы сьмялей і разьвязьней прагаварыў ён і, аберуч абвіўшы стан яе, моцна пацалаваў...

— Тут вельмі добра, мой любы! Я люблю гэты сад, прыроду...—і яна павісла ў яго на руках.

— Мы ня так яшчэ будзем любавацца пышнасьцю прыроды... да замілаваньня, да забыцьця...

— Я люблю гэтую ліпу, пах кветак яе і цябе, мой любы, дарагі...

У гэтыя дні цьвіла ліпа. Краіна задыхалася ад яе паху. Калі цьвіце ліпа людзі становяцца мяккімі і пяшчотнымі. Калі цьвіла ліпа, рука камэнданта Дрылеўскага, ня гледзячы на разьмякшае сэрца, выводзіла словы прымусу і гвалту, і ў прывабную сымфонію лета і ліпавага цьвету ўрываўся чорны дождж знарадаў і куль. Быў адданы загад—пачаць адыход войска па ўсяму фронту. Дрылеўскі множыў гэты загад, спэцыяльнымі пасланцамі ў сакрэтным парадку рассылаў па сваіх вучастках.

* * *

Дарога, што істужка, уплеценая ў доўгую русую касу дзеўчыны, уецца ўсё тымі-ж узгоркамі, нізінамі, ускраінамі лесу, а паабапал мільгаюць слупы, старыя і маладыя прысады; маладая збажына хіліцца долу, затойвае дыханьне, вусікі каласкоў шчыльна прыціскаюцца адзін да аднаго. Малады жаўнер не заўважаў, што робіцца наўкол. Яму як найхутчэй хацелася пазбыць гэты пакет з сваіх рук.

Пакоі мільгалі сотнямі сьвечак, музыка з зацяжным хрыпам канчала мэлёдыю вальса „Обрыв счастья". Ноч даходзіла да трох гадзін і ніхто з прысутных на вясельлі не заўважаў тэй чорнай хмары, якая зьвісала над маёнткам пана Ярашэвіча, і разьвясельваліся. Толькі афіцэр нідзе не знаходзіў сабе прыпынку, хадзіў з месца на месца апусьціўшы галаву, угледаўся ў твары: шукаў сваіх і ворагаў. Прыпыніўшыся каля выходных дзьвярэй, ён абвёў наўкол вачыма,—яго вочы стрэліся з вачыма Сяргея, што вартаваў ля дзьвярэй панскае гульбішча і, не аддаўшы гэтаму ніякай увагі, разьвярнуў паперку і пачаў, мо ў дзесяты раз, чытаць яе. Вочы прагна бегалі па паперцы, зрэнкі пашыраліся, а літары здаваліся вялізарнымі, страшнымі, крывянымі. Ён ня то ад страху, ня то ад злосьці аж плячамі сьцепануў.

**Ściśle poufnie**

Гэта-ж: Dowódcy 4-go odcinka
28 czerwca 1920 r.

Armja zaczyna odwrót. Zwijać się bez paniki. Odwrót rozpocząć jutro. Przy cofaniu się wszystko co stawia opór—niszczyc ogniem i mieczem. Po drodze ruchu żywić się za rachunek ludności.

Dowódca komendantury **Drylewski.**

... Гэтыя словы ніяк ня месьціліся ў галаве чалавека, які сваю сучаснасьць угрунтоўваў з рэчаіснасьцю наогул.

Яму і страшна, і злосна, і ў галаве пачынае нешта гусьці, шумець, вочы сплюшчваюцца, а з вуснаў зрываецца двухсэнсавае:—„Армія... адступаць... ах, не..." і ён чуць трымаючыся на нагах падняў правую руку і павольна рукавом выцер на ілбе халодны пот.

— Мо вам дурна?—Сяргей хацеў папярэдзіць надыходзячы прыпадак афіцэра.

— Не!.. Я тут даўно?

— Не, нядаўна.

— Я гаварыў што, ці не?

— Тут нічога я ня чуў.

— Маш гасьцінец.

— Дзякую,—і ўзяўшы марку з рук афіцэра, Сяргей разарнаў яе на кавалкі і кінуў пад ногі. Афіцэр не заўважыў, адвярнуўся і пашоў, схіліўшы галаву, па калідору,

Сяргей зразумеў афіцэравы словы: „Армія пачынае адступаць" і вараз-жа ня стала яго ў маёнтку...

Польша Пілсудзкага і Ярашэвічаў узьнесла свой Пантэон, пад скляпеньнем якога знайшлі сабе прытулак людзі, што так ганарылася яна імі. Там ня было беднякоў і хворых мацярок з галоднымі дзецьмі. Іх гэта не датычылася.

Рушылася скляпеньне Пантэона, развальваліся сьцены, правальваўся ў зямлю падмурак,—а ў паветры насіўся пах перапаленай вапны і гарачай крыві.

Музыку вальсаў і мазурак зьмянілі кулямёты і гарматы: расстрэльвалі вялікіх герояў грамадзянскай вайны—партызан, дымам і пажарам ахоплен увесь край: нішчылі гарады і сёлы.

Гэта:—баль спраўляе польскі штых.

Гэта—ён—невядомы герой камуны, хістаючыся ад стомы мазольнай рукой, зрывае павязку з вачэй і моцна, верачы ў няўміручасьць свае справы, крычыць:

— Страляйце, каты вы! Я зрабіў-бы тое-ж з вамі. Я буду жыць...

І той хмуры, згорблены афіцэр раскроіў яму чэрап шабляю напал. Другі—выстраліў яму ў вуха. І потым...

— Прыгожа разадзетыя морды ў кампаніі афіцэраў гнусна калупаліся кончыкамі парасончыкаў у мазгох забітых...

А к вечару, прышоўшы да сябе, паўжывы Сяргей, чапляючыся за халодныя трупы, выбіраўся з-пад гэтага месца „пашаны, славы і справядлівасьці Пілсудзкага".

Змрок атульваў сабою будынкі, лясы і людзей. Сяргей зноў прабіраўся да гаю, каб там сустрэцца

з сваімі хлопцамі, зьяднаць раскіданыя сілы партызан і адпомсьціць арганізаванай сілай сіле за зьдзекі і гвалт над працоўнымі.

Лес прытуліў да сябе нявычарпальную сілу разьбітага партызанскага атраду. Іх разагналі. Першая сустрэча няўдалая.

— Ці-ж варта было выходзіць нам... У іх сіла...

— Кінь, Паўлюк, так убівацца. Эх, от Сяргея толькі шкода што злавілі. Расстраляюць, гады...

— Што-ж цяпер будзе? Спаляць усю вёску,— Паўлюк апусьціў галаву на калені і ціха заплакаў.— От табе і маеш. Працаваў... Гараваў...

— А чаго-ж ішоў сюды ў лес? Ідзі назад.

— От шчасьце тут.

— Ня выпраўляй.

— Стойкі знайшоўся.

— Прыпрэ гайку і табе.

— Яму няма чаго траціць.

— Цішэй вы... Лес, чуваць далёка.

— А што нам.

— Ой, ай,—панеслася з усіх канцоў ад раненых партызан.

— Хлопцы, трэба перавязку зрабіць,—пачуўся нечый голас.

— Ах, ліха яго бяры. Мо заўтра гэта і з намі будзе.

— Пойдам, хлопцы, перавяжам,—і ўтрох адлучыліся.

— Усяроўна ўсё дабро пранала,—цяжка нехта ўздыхнуў.

— Таму і памагаць трэба адзін аднаму.

— Чорт яму ўсяму надапамагаецца.

— От сядзем і ўсё, а ня то што хадзіць усюды...

— Таварышы! Дык што-ж,—Піліп ужо нэрвова пачаў гаварыць,—мы павінны пакорна схіліць долу галовы і спакойна пераносіць зьдзекі і гвалт над намі? Даволі ўжоназьдзекаваліся!..

Захрусьцела ў лесе гальлё, застагналі цяжкія крокі, і пранеслася ціхае сярод партызан:

— Ці-шэ й... Ці-ха.

— Двое—выведаць.

Як ні былі ў дрэнным настроі, як не здавалася цяжкай барацьба і як ня былі стомлены,—усё-ж вінтоўка моцна сьціснута ў руцэ, вока зорка сочыць за ворагам. І тыя, што хісталіся, пакідаць хацелі, яшчэ шчыльней прытуліліся да зямлі, прылеглі. Разам:—і страшна, і адважна.

У Паўлюка кроў прыліла да галавы і ў страшнай пакуце пранеслася мысьль: „Перабыць толькі гэта суталочча і ісьці дахаты... там жонка, дзеці“. А ў Піліпа глыбокім раўчуком прарэзваецца думка аб шчыльнейшай арганізацыі атраду і аб глыбейшым, руйнуючым удары ворагу.

Сіла важыцца на шальках. Сіла рухаецца на сілу. Знутры, з сярэдзіны, з асновы выбухам вырываецца сьветаўспрыманьне; у працэсе сацыяльнага фармаваньня мысьлі пры супярэчнасьцях у адно цэлае: за ўладу саветаў—выкрышталізоўвалася воля партызан.

Сяргей ад стомы чуць дайшоў да месца збору партызанскага атраду,—яму дапамаглі. Прышоў і з цяжкім стогнам апусьціўся на зямлю. Сьпіною прытуліўся да елкі, а нагамі ўпёрся ў кругляк дрэва.

— Дайце яму вады,—заўважыў адзін.

— Сяргей, браток родны, ты жыў?—З радасьцю падбег да яго Піліп.

— Як бачыш! А вады дайце крыху.

Мужчыны і хлопцы пааднаму, кучкамі пачалі падыходзіць да Сяргея, а ён, упёршыся шырока адкрытымі вачыма ў твар аднаго з партызан, моўчкі сядзеў і рысаваў плян. Яго любілі і шкадавалі. Ён маўчаў, а яго яны разумелі.

— Ужо больш ня пойдам!?—парушыў цішыню дрыжачы голас Паўлюка.

Сяргей моўчкі падняўся з месца, ня даў ніякага адказу Паўлюку, а толькі сурова зьвёўшы бровы над вачыма, абвёў яго поглядам з ног да галавы і зьвярнуўся да ўсіх:

— Што, хлопцы, аддыхнулі крыху?

— Ат, з большага.

— Ты толькі вось стаміўся... Ранены, аддыхні,—запрапанаваў адзін з партызан.

— Няма калі аддыхаць. Час гарачы. А з вамі нішто ня страшна. Эх!—і ён разьвёў рукамі.

Радасная ўсьмешка прабегла па тварах і недзе зьнікла ў гушчары ўтульнага леса.

— Яно то так, браток, але-ж...

Язык пажару доўгай пасмай полымя і патокам сьмярдзючага дыму глыбока лізнуў па сэрцу партызан, так і засталася чорная пляма запечанай крыві.

— Ай... вёска наша гарыць,—праенчыў голас.

Вочы кроўю набягаюць, рука моцна прыціскае да грудзей вінтоўку. Пажар унёс маленькае замяшаньне зьверху і даў зразумець глыбокі сэнс жыцьця знутры. Паапушчалі галовы і моўчкі стаяць. Сяргей яшчэ з большай энэргіяй, намагаючы апошнія сілы, пачаў кратаць балючыя раны мужчын.

— Ну, здаецца, нам няма чаго шкадаваць? Пойдзем!

І ў кожнага ў вушох шумяць стогны і енкі мацярок і дзяцей.

— Пойдзем!

— Вёску ратаваць?

— Мы там нічога не дапаможам. У вёсцы шмат белапалякаў. У нас ёсьць больш адказнейшая задача—руйнуюча ўдарыць у адзін з галоўных нэрваў польскай арміі. Мы гэту задачу павінны выканаць.— Словы Сяргея накіроўвалі іх на актыўнае выступленьне супроць ворагаў.—Я вамі-ж вылучан для кіраваньня атрадам і вы павінны мяне слухаць. Сярод нас не павінна быць здраднікаў Чырвонай арміі, мы—яе актыўныя дапаможнікі. Хто супроць дапамогі Чырвонай арміі,—і ён кінуў погляд на Паўлюка,—хай лепей цяпер выходзіць.

Ніхто не крануўся з месца, чакалі загаду.

— Усе са мной ў апошні бой?

— Ды мы ніколі ня былі супроць цябе,—і пачалося ажыўленьне сярод партызан.

— Так, таварышы! Словы загаду павінны канаць разам з жыцьцём кожнага з нас. Вось гэты таварыш з гораду нагнаў мяне па дарозе, дапамог сюды прысьці, і перадаў загад начальніка штабу.

— А ты яго ведаеш?—зьвярнуў увагу Піліп.

— Ведаю. Разам гнулі шыю ў пана.

— Заўтра чуць золак ва што-б ня стала ўзарваць мост на раманаўскім шляху і кулямётным агнём стрымліваць рух да трох гадзін дня. К гэтаму часу насьпяваюць чырвоныя. Маімі намесьнікамі—Піліп і Анупрэй—рабочы завода. Усё ёсьць, толькі падрыхтаваць.

І ў кожнага віхураю пранеслася ў мысьлях:— сьмерць. Але яе ніхто не баяўся, бо яна лепш чым няволя. Ліпеньская ноч, што крок вераб'я—хутка праскочыла. З расьсьветам, чорнай плямай, абходзячы

горад наўкол, рухалася бронячасьць польскай арміі. Вуліцы гораду поўны куль і знарадаў. Горад пад гераічным напорам чырвоных здаецца. З громам „ура" уваходзяць яны ў яго, пераступаючы вулічныя трупы—ахвяры бойні. І пад радасным пералівам сонца ў ліпеньскую раніцу, ляціць у бяздоньне мост і першы танк, і тут-жа гіне адзін малады герой.

Паліўся алюміневы дождж. Град куль шукаў вінаватых. Танкі, аўтамабілі спаўзалі на абочыны дарогі, там і заставаліся. А атрад выконваў сваю задачу—не даваў правіць моста.

І ў гадзіну дня яны:

— Смуглыя, закуралыя, абшарпаныя, кроўю аблітыя, без кавалкаў цела—героі вялікай грамадзянскай вайны—крочаць у ногу з песьняй перамогі. А яна гулкім рэхам далёка разносіцца па радох, калёнах, ротах, палкох і далей, і далей, і так без канца.

Слава вялікім героям будзенных грамадзянскіх дзён! Схілім галовы і рушым наперад—адбудоўваць краіну.

Усё горшае спрабавана, пачынаецца лепшае—будоўля сацыялізму.

А ці-ж горшае?!

У гэтым горшым закладзена самае лепшае для чалавецтва:—вызваленьне.

* * *

І сёньня на прасторах пана Ярашэвіча гаспадаром Сяргей. Змоўкла песьня пакуты. Ня чутна плачу галодных дзяцей,—людзі адвáявалі права на існаваньне цаною крыві і галавы.

Сёньня Сяргей выходзіць на працу бадзёрым, з вясёлай усьмешкай на твары. Ідзе расстаўляць сваю брыгаду для работы, і нічуць не баіцца, што ў яго брыгадзе амаль адны жанчыны. Ён іх змог зарганізаваць, змог задаволіць усіх работай, а хто часам ня выходзіў—растлумачваў, не хацелі разумець—ганьбіла брыгада. А ў самога ў мысьлях заўсёды праносілася: „зразумеюць" і ішоў далей па пульхнаму полю, вырываючы па дарозе заўважаную сарніну і разьбіваючы нагамі вялікія грудкі, што часам страчаліся на полі. Гаспадарлівае вока Сяргея не дазволіць насьміхацца ворагу калгаснага будаўніцтва.

Яму:

— арганізатару раскіданага партызанскага атраду, які гераічна абараняў Слуцак, аднаму з вялікіх герояў анзор—партызан Сівашскай дывізіі пад Перакопам, чэкісту па ліквідацыі бандытызму на Украіне і старшаму брыгадзіру першай ударнай брыгады ў калгасе—ня страшны цяжкасьці арганізацыі калгаснай вытворчасьці. Гэта толькі цяжкасьці росту, што страчаюцца пакуль што на нашым шляху.

Ён даўно асудзіў тых, што лажыліся пад трактар у першую калгасную сяўбу. Ён даўно пераканаўся ў:

— калектыўным фармаваньні новага чалавека, чалавека бясклясавага грамадзтва.—

Бо з ім поплеч ідзе маладая дзеўчына Оля—загадчыца сьвінафэрмы калгасу, ды ці толькі Оля? Мільёны!

Яна ня прымала ўдзелу ў суровай барацьбе за ўладу саветаў, але за тое яскрава ўявіла сабе як і чым яе трэба ўмацоўваць. Яна ведае, што:

— Каб усе сьвінаматкі ў злучную кампанію былі пакрыты,—голасна вядзе гутарку Оля па тэлефону з райкалгассаюзам, трэба, каб было ў дастатковай колькасьці канцэнтраваных кармоў. А вы... што за бюракратызм... Што? Дык вы-ж вінны нам за эдаиую прадукцыю. Добра. Чакаю, а то ў нас ня больш як на дзён два.

У канцэлярыю калгасу ўваходзіць Сяргей і, ссоўваючы шапку на патыліцу, зварочваецца да Уласа:

— Нешта трэба рабіць, таварыш старшыня.

— У чым справа?

— Віку зараз усю вырвуць.

— Хто?

— Аднаасобнікі, жанкі некаторых калгасьнікаў—сьвіней кормяць.

— Трэба пратакол скласьці і ў сельсавет перадаць. Хай штрафануць.—І ўжо з сьмехам паказаў пальцам на Олю.—У яе таксама прарыў, сьвіньні спадніцы чуць не абарвалі.

— Нічога, таварыш старшыня. Я свой прарыў хутка ліквідую,—і залілася звонкім галаскам, пераліва трэлі салаўя,—і адвярнулася да рымара, што сядзіць на канапе і ладзіць хамуты.—Таварыш Каленчыч, ты ня сьпі за работай,—і штурхануўшы другую дзеўчыну, што стаяла побач з ёю, залілася закацістым сьмехам.

— Не мяшайце, дзеўкі, ідзеце адсюль,—са злосьцю, не падымаючы галавы, прабурчаў сабе пад нос Каленчыц.

— То мы й пойдам,—і ў адчыненыя дзьверы з шумам пабеглі дзяўчаты.

— Ну і вясёлая дзеўка,—зазначыў старшыня.

— Гэта тут, у гэтым пакоі, дзе калісь ад стомы віхурнай мазуркі афіцэр з дачкой пана Ярашэвіча, дапіваючы апошнюю шклянку віна, захлёбваліся ад паху ліпавых кветак; адкідваючы доўгія пасмы валасоў, паны любаваліся ў вялікім люстэрку сваімі тлустымі станамі—крывёю і потам парабкоў здабытыя.

А сёньня гэтае люстэрка стаіць у канцэлярыі калгасу, якое было сьведкай зьдзеку афіцэра над Сяргеем. Сяргей ня зводзіць вачэй з Олі і ў мысьлях стройнымі радамі праходзяць думкі адна за аднэй.

„Калгас, маючы такіх энтузіястаў,—а іх шмат у калгасе,—павінен стаць у перадавыя рады і стане. А як цяжка было здабыць гэтае права, каб льга вольна тут, у гэтым доме, сядзець. Колькі крыві праліта за яго, колькі лепшых барацьбітоў загінула ў сутычцы за права на фабрыкі, заводы, зямлю для працоўных. Як цяжка было арганізаваць людзей на бой з цемрай, някультурнасьцю, драпежніцкай апрацоўкай зямлі. І ўсё-ж яшчэ бой ня скончан. Яшчэ па несьвядомасьці сваёй некаторыя бедпякі і ў калгас ня ідуць. Сэрца крывёю абліваецца, калі чуеш, як іншы раз бядняк плача за кулакоў:

— Нашто гэта ў іх дабро, люстры ды сталы забіраем?—А сам прытуліцца да чаго ня мае. А шкадуе! Несьвядомасьць!"

І цэлы паток думак выносіць Сяргей з канцэлярыі калгасу на поле. Праходзіць усё па тых-жа ўзгорках, нізінах, ускраінах лесу, мінаючы роўныя, квадратовыя плошчы пасеваў бяз меж. І збажына выпроствае свае галоўкі—каласкі, як бы дзякуючы яму, што ён дапамог і ім вызваліцца ад сьмецьця, трохпалкі; бачаць у ім свайго сапраўднага гаспадара.

Так ідуць поплеч Сяргей Барысавіч з камсамолкаю Оляй далей, сьціраючы з свайго шляху межы і сьмецьце палёў—для ўзьвядзеньня мура заўтраму.

А імя яму:

— Сацыялізм.

Менск, 1932 г.

# Абкружыць пчалу штодзеннымі клопатамі

У мэтах рацыяналізацыі пчалярнай гаспадаркі і павышэньня выхаду пчалапрадукцыі ў калгасах, дзе маецца дастатковая колькасьць рамачных вульляў, усе сем'і пчол з калод трэба перагнаць у рамачныя вульлі.

Для большай пасьпяховасьці перагону пчол, за 2—3 дні да перагону, да пярэдняга боку калоднага вульля прымацоўваецца маскіроўка—шчыт з шчылінай супроць лятка калоднага вульля.

Найлепшым часам для перагону пчол, зьяўляецца раёвая пара, а менавіта: пасьля 21 дня выхаду з калоды прыроднага, альбо выгану штучнага роя—пяршака.

Веснавыя перагоны пчол, якія раяцца старымі падручнікамі зьяўляюцца шкоднымі, асабліва ва ўмовах БССР з нізкай веснавой тэмпературай, таму што гняздо пры перагоне вясной ахалоджваецца і матка скарачае кладку яек, чым надоўга затрымліваецца разьвіцьцё сям'і і паніжаецца прыбытковасьць пчол. Апрача гэтага перагнаныя вясной сем'і, з прычыны адсутнасьці ў прыродзе ўзятку, зачастую падлягаюць рабаваньню пчол-зладзеек і часам бываюць імі зусім разрабаваны.

На кожнай калгаснай пасецы павінен быць намечан канчатковы тэрмін, да якога могуць выходзіць прыродныя раі з калодных вульляў. Калі да намечанага часу ня выйдзе з калоднага вульля прыродны рой, то неабходна зрабіць штучны, але без спазьненьня, з такім разьлікам, каб і рой пяршак і перагнаная асноўная сям'я, забясьпечвалі сябе дастатковымі запасамі мёду на зіму. Лепшым часам для перагону будзе час—за адзін—два тыдні да пачатку галоўнага ўзятку мёду.

Штучным рой можна зрабіць наступным чынам: да калоднага вульля паднясьці парожны рамачны вулей, з падрыхтаваным у ім гняздом з рамак і штучнай вашчынай (у сярэдзіну гнязда паставіць 1 рамку з яйкамі). Зьняўшы калодны вулей, на якім раней была прымацавана маскіроўка, паставіць на яе месца рамачны вулей, з такім разьлікам, каб лятск рамачнага вульля прышоўся на тэй-жа вышыні, на якой быў лятак калоднага вульля. Праз круглую шчыліну ў галаве калоднага вульля (калі гэтакая маецца), альбо праз ніз вульля, павярнуўшы калоду ўніз галавой і даўшы ў вулей струмень дыма, пастукваньнем палкай зьнізу, гоняць пчол у раёўню датуль, пакуль ня выйдзе матка; яе асьцярожна заключаюць у сетку і зьмяшчаюць у рамачны вулей. Да маткі ў рамачны вулей дадаць жменьку пчол для шуму; астатніх пчол зьвярнуць назад у калодны вулей. Пасьля гэтага калоду аднесьці крокаў на 20 у бок на новае месца.

Работа праводзіцца днём у добрую пагоду, калі лётная пчала знаходзіцца ў полі. Праз дзень, або 2, калі пчолы ў рамачным вульлі ўціхаміруцца, матку выпусьціць з клеткі.

Праз 21 дзень пасьля адборкі штучнага рою да калоднага вульля, які стаіць на новым месцы, паднясьці другі рамачны вулей, з падрыхтаваным гняздом і перагнаць з калоды ўсіх пчол, з вылупіўшайся там маладой маткай. Калодны вулей ліквідаваць, выразаўшы з яго ўвесь мёд.

Бываюць выпадкі, калі аднесеная пасьля адборкі штучнага рою пяршака, сем'я пчол у калодным вульлі на 15—16 дзень дае другі рой. У такім выпадку другі рой неабходна пасадзіць у рамачны вулей і паставіць яго на месца калоды, а калодны вулей аднесьці на трэцяе месца, дзе пасьля паказанага вышэй тэрміну (21 дзень пасьля роя-пяршака), перагнаць у трэці рамачны вулей.

Перагон пчол з калоды ў рамачны вулей можна рабіць і ўвосень, калі вылупіцца апошняя чарва. У гэтакім выпадку перагнанай сям'і неабходна даць гатовыя запасы крытага мёду ў рамках (ня менш 16 кг на сям'ю) ад іншых сямей пчол у рамачных вульлёх. Мёд з калоднага вульля выразаецца і паступае ў даход.

Можна пры перагонах ня ўжываць маскіроўкі. У такім выпадку трэба ўзяць парожнюю калоду, сьпіліць у яе галаву да пустаты, паднясьці яе да моцнай калоды, з якой мяркуюць узяць штучны налётны рой, альбо зусім перагнаць, зьняць моцную сям'ю і аднесьці ў бок, на яе месца паставіць зрэзаную пустую калоду. Наверх пустой калоды паставіць парожны рамачны вулей, з падрыхтаваным гняздом і аднятым дном. Лётная пчала праз шчыліву ўверсе пустой калоды, пойдзе ў рамачны вулей. Тым часам можна выгнаць пчол і матку з калоднага вульля, аднесенага ў бок.

Калі ў калгасе да пачатку раёвай кампаніі ня будзе дастатковай колькасьці парожніх рамачных вульляў, каб забясьпечыць і пасадку раёў і перагон з калод, то неабходна ад перагону адказацца, а ў абавязковым парадку ўзяць з кожнай калоды па аднаму прыроднаму альбо штучнаму рою ў рамачныя вульлі, па спосабу налёту, заставіўшы асноўныя сем'і пчол зімаваць у калодах да наступнага сэзону з тым, каб перагнаць іх у рамачныя ў наступным годзе, падрыхтаваўшы за зімовы час неабходную колькасьць рамачных вульляў.



Агульны выгляд пасекі камуны „Маяк Камунізма", Мацьвееўска-Курганскага раёну (Паўночны Каўказ).

Каб прымусіць сям'ю пчол адраіцца, неабходна добра ўцяпліць з вясны, абмазаўшы ўсе лішнія шчыліны глінай, а таксама даваць корм як углеводзістыя (мёд, цукровы сыроп), так і бялковы (малако, яйца, мучны адвар).

Скарачэньне гнязда летам прымушае пчол раіцца раней звычайнага.

Усе работы па перагону пчол утвараюцца асьцярожна, не сьпяшаючыся, каб не расьцерці матку і не паламаць сотаў.

Спэцыяліст па пчалярству **Дамарацкі**



Пасека камуны „Праца" Ельскага раёну

# Догляд за капустай і таматамі

Партыя і ўрад зараз паставілі сур'ёзныя і адказныя задачы перад гароднымі гаспадаркамі па забясьпечаньні гароднінай прамысловых цэнтраў.

Ад усёй плошчы пад гароднымі культурамі сацыялістычны сэктар займае больш паловы і задача па забесьпячэньні прамысловых цэнтраў гароднінай будзе выканана толькі пры скарыстаньні лепшых мэтадаў работы, пры ўжываньні мэханізацыі, пры ўжываньні агратэхнікі і правільнай арганізацыі працы.

Догляд за капустай складаецца з наступнага: праз некалькі дзён пасьля пасадкі расады робіцца перасадка яе. Усе вялыя, пасінеўшыя і хворыя (чорнай ножкай, або заражаныя лічынкай капуснай мухі) расьліны вырываюцца. Новая расада садзіцца не ў старыя лункі, а крыху адступіўшы (8—10 см) ад старых месц, бо хваробныя лічынкі застаюцца ў глебе і могуць папсаваць новую расаду.

Калі глеба пад капусту ўгноена слаба, то вельмі карысна паліць яе вадкім угнаеньнем. Рашчыны рабіць лепш слабыя: 20—40 грам азоцістага ўгнаеньня на 2—3 літра вады. Паліўка ўтвараецца толькі тады, калі расьліна добра прымецца. На кожную расьліну ідзе ½ літра рашчыны.

Для барацьбы з пустазельлем, ушчыльненьнем глебы і для зьнішчэньня коркі, якая ствараецца на паверхні глебы, пасьля ўкараненьня расады, робіцца рыхленьне глебы. Рыхленьне робіцца ў двух напрамках: уздоўж і ўпоперак. Рыхленьне вытвараецца конным планетам з зубчатымі рабочымі органамі. Калі органы лапчатыя, то некаторыя расьліны могуць быць засыпаны, а па гэтаму патрабуецца папраўка іх рукамі. Пры буйных пасевах ужываюцца шматрадовыя конныя матыгі, якія могуць прыстасоўвацца для спэцыяльных трактароў з прыпаднятымі рамамі (Сталінградзкі трактар з асобным прыстасаваньнем, якое перарабляе яго ў прапашны трактар).

У залежнасьці ад пустазельля і коркі патрабуецца паўторнае рыхленьне яшчэ раз або два.

Асноўным у доглядзе за капустай зьяўляецца акучваньне. Акучваньне робіцца для стварэньня дабавачных карэньняў, лепшага ўмацаваньня расьліны, пасьля чаго расьліна лепш разьвіваецца. Першае акучваньне ўтвараецца прыблізна праз 10 дзён пасьля першага рыхленьня; утвараецца акучваньне коннымі акучнікамі (напрыклад, акучнік Сакка, эккерта або конным кульціватарам „планэт" з адвалам для акучваньня).

Пасьля акучваньня патрэбна вымаць засыпаныя расьліны. Акучваньне можа ўтварацца спэцыяльнымі трактарамі як і пры рыхленьні (пры трактарным акучваньні шырыня міжрадзьдзяў павінна адпавядаць шырыні ходу трактара). Другое акучваньне і полка робіцца праз 20—25 дзён пасьля першага.

За раньнімі гатункамі капусты догляд на гэтым канчаецца. Позьнія гатункі маюць качарыгі больш доўгія і няўстойлівыя, а таму патрабуюць трэцяга акучваньня, якое павінна вытварацца не пазьней пачатку змыканьня лісьцяў паміж суседнімі радамі, бо інакш лісты пры акучваньні будуць абломаны і расьліны пашкоджаны.

Акучваньне робіцца такім чынам, каб зямля насыпалася на аснову ніжніх знадворных лісьцяў.

**Барацьба са шкоднікамі і хваробамі.** З моманту высадкі расады на капусту нападаюць шкоднікі і грыбныя захворваньні, з імі патрэбна весьці барацьбу яшчэ з рассаднікаў.

Барацьба з вусьнем капуснай бялянкі вядзецца шляхам зьнішчэньня пустазельля вясною, каб першае пакаленьне бабачак не адклала на іх яек, апырскваньнем расьлін парыскай зеленьню (250 грам на 100 л вады з вапнай 500 г) або хлорным барыем (2—5 кілё барыя і 1—2 кілё мучнога клейсьцера на 100 л вады).

З капуснай соўкай змагаюцца таксама як з капуснай бялянкай. З капуснай мухай змагаюцца шляхам зьнішчэньня пустазельля, паліўкай рашчыны сулімы (адна частка на 200 частак вады), падсыпка пры высадцы расады пад кожную расьліну роўных частак тытунёвага пылу і вапны.

Капусная тля зьяўляецца, калі капуста зьвівае

качан. Тля вельмі хутка распаўсюджваецца і шкодзіць яна тым, што высмоктвае сокі з лісьцяў. Для зьнішчэньня тлі робіцца апырскваньне тытунёвым экстрактам (100 г 8—10-проц. экстракта на 40 г мыла, на 100 л вады),

З грыбных хвароб найбольш распаўсюджана ў капусьце кіла. Вызываецца яна зьяўленьнем на карнях капусты грыбка, які выклікае набракласьць рознай велічыні. Ад гэтага качан не разьвіваецца, або зусім дрэнна разьвіваецца. Качан трациць свой стан.

Захварэўшыя расьліны кілой неабходна спаліць. На заражанае месца непатрэбна садзіць капусты ў наступным годзе, бо споры грыбка зімуюць у глебе, захоўваючы жыцьцяздольнасьць да 2 гадоў.

Непасрэднай барацьбой з кілой зьяўляецца вапнаваньне глебы.

**Таматы** займаюць значную плошчу сярод гародных культур. У 1932 г. па БССР павінна быць пасеяна больш 4000 гэктар таматаў. Тамат вельмі каштоўны прадукт, у ім шмат каштоўных матэрый-вельмі важных і патрэбных для спажываньня, як напрыклад, вітаміны, салей і г. д. Асаблівая яго каштоўнасьць у тым, што яго ўжываюць у сырым выглядзе. Тамат таксама ідзе для прыгатаўленьня кансэрваў, для таматнага пюрэ, солку, марынаваньне і г. д.

Ад догляду за таматамі залежыць у вялікай ступені колькасьць і якасьць ураджаю. Каб сабраць высокі ўраджай і дабіцца добрай якасьці таматаў, патрэбна правесьці належны догляд за ім.

Галоўным у доглядзе за таматамі зьяўляецца абрэзка. Ва ўмовах Беларусі, дзе шмат вільгаці, таматы вельмі разрастаюцца, плады могуць палегчы на зямлю і загнісьці, бо глеба пад кустом вельмі сырая і слаба праграецца. Таму пачатак плоданашэньня зацягваецца, а агульная вага пладоў атрымліваецца невялікая.

У залежнасьці ад мясцовасьці і ўмоў росту, кожная расьліна таматаў можа даць зусім разьвіўшыхся пладоў толькі на першых 3—6 кісьцях. Астатнія кісьці павінны быць прыбраны бо пазьней—кветкаваньне дае недаразьвітыя плады, што ідзе ва ўшчэрб якасьці і колькасьці іх на першых кісьцях.

Бакавыя пабегі—пасынкі, якія ў большасьці не пладаносяць, але бяруць шмат спажыўных матэрый, зацямняюць плады ў кусьце і глебу, павінны таксама прыбірацца.

Часта галоўнае сьцябло расьце церазьмеру, што перашкаджае плоданашэньню.

Пры падрэзцы патрэбна кіравацца наступным правілам: падрэзка вытвараецца з мэтай адхіленьня непатрэбных пабегаў. Пры гэтым павінна застацца такая колькасьць кісьцяў, якая можа да замаразкаў даць дастатковую велічыню пладоў.

Абрэзка ў адно сьцябло робіцца так: прыбіраюцца ўсе бакавыя пабегі—пасынкі, як толькі яны паяўляюцца; калі разаўюцца 3—5 кісьцяў на галоўным сьцябле і потым над апошняй кісьцю і двума лісьцямі над ёю—робіцца прышчэпка галоўнага сьцябла.

Першае пасынкаваньне робіцца тады, калі пасынкі дасягаюць 3—6 **см** даўжыні.

Усе бакавыя пасынкі выломваюцца рукою, а ня вырэзваюцца нажом, бо ў пазусе ліста, дзе зьмяшчаецца пасынак, маецца яшчэ некалькі почак і пры вырэзваньні нажом, без папсаваньня ліста або сьцябла нельга выкінуць почкі разам з пасынкамі. Пры выламліваньні, лёгкім нажымам на пасынак у бок выкідаюцца часткова почкі, астатнія почкі магчыма зьнішчыць пальцам—патрэбна абцерці.

Калі першае пасынкаваньне запазьнілася і пасынкі ўжо досыць буйныя і грубыя, то лепш іх абрэзваць нажом, каб не папсаваць сьцябла.

Пры паяўленьні новых пабегаў—пасынкаў робіцца другое пасынкаваньне і яшчэ праз некалькі дзён (18—20) трэцяе.

Пры спрыяючых умовах росту, калі расьліна разьвіваецца добра, пры адпаведных мэтэоролёгічных умовах, даюць разьвівацца 4—6 кісьцям, пры няспрыяючых умовах—менш.

Абрэзваньне ў адно сьцябло дае добрае разьвіцьцё, буйныя плады.

Пры падрэзваньні ў адно сьцябло з адвятленьнем бліжэйшы зьнізу, да першай кветкавай кісьці, пасынак застаўляецца і яшчэ на ім ствараюцца 2—3 кісьці.

Лепш вырошчваць таматы на 2—4 сьцяблах застаўляючы дадаткова да галоўнага—3, лепш самых ніжэйшых—як найбольш разьвітых пасынкаў. Тады расада вырашчваецца звычайна, пасынкаваньне ўтвараецца пасьля высадкі.

Разам з першым абрэзваньнем утвараецца падвязваньне кустоў і акучваньне.

Потым праз 15—20 дзён патрэбна прапалоць і зрабіць матыжэньне. Пасьля поўнага сфарміраваньня пладоў на ўсіх кустах робіцца абрэзваньне лісьцяў, каб даць вольны доступ асьвятленьню і добрае абцяканьне паветрам.

Звычайна ўдаляюцца толькі тыя лісьці, якія пачалі адміраць і знаходзяцца ніжэй першай кісьці, бо абрэзваньнем лісьцяў расьліна пазбаўляецца асімілірующчага апарата, пасьля чаго затрымліваецца рост плада.

У буйных гародных гаспадарках, пры вялікіх плошчах пад таматамі можна абыйсьціся бяз кольлеў, толькі патрэбна рабіць раньняе акучваньне расьлін „крыж-на-крыж“.

**Н. Байко.**

# ПАВЫСІЦЬ ТЭМПЫ ТОРФАЗДАБЫЧЫ!

## Узорныя прыклады бальшавіцкай барацьбы за торф брыгады Грачова зрабіць здабыткам усіх рабочых торфазаводу

За торфасэзон 1932 г. торфазавод „Чырвоны сьцяг“, Смалявіцкага раёну, павінен даць дзяржаве 65.000 тон торфу: 23.000 тон машынафармовачнага, 30.000 тон фрэзэрнага, 12.000 тон ручнога.

Судзячы па тых зьвестках, якія маюцца на сёньнешні дзень, прыходзіцца яшчэ раз біць трывогу. На 25 чэрвеня г. г. заданьне па здабычы фрэзэрнага торфу выканана ўсяго толькі на 2,75 проц. ад гадавога пляну; гадавы плян па здабычы ручнога торфу выкананы ўсяго на 5 проц. Таксама чарапашшымі тэмпамі ідзе здабыча і машына-фармовачнага торфу. Амаль кожны дзень дзённыя заданьні па здабычы машынафармовачнага торфа выконваюцца на 50 проц. Калі, скажам, кожны дзень патрэбна здабыць 242.000 цаглін, дык здабываецца 121.000 цаглін.

Такое ганебнае недавыкананьне пляну тлумачыцца, перш за ўсё, апартуністычнай недаацэнкай з боку дырэкцыі своечасовай падрыхтоўкі да торфасэзону. Ня было зьвернута амаль ніякай увагі на якасную падрыхтоўку машын, у выніку чаго машыны выходзяць з строю. На прастоі машын трацяцца дзесяткі працоўных гадзін. Напрыклад, 25 чэрвеня машына № 3 прастаяла 2 гадзіны таму, што лопнулі падшыпнікі, а ў запасе іх ня было.

Неабходна адзначыць і тое, што ў забесьпячэньні машын запаснымі часткамі, Белторф таксама праявіў бязьдзейнасьць. Некалькі разоў Белторфу пасылаліся спэцыяльныя адносіны на запасныя часткі; некалькі разоў нават самі мэханікі езьдзілі, але ўсяроўна нічога не памагло.

Ня менш важнай прычынай у прарыве торфпляну зьяўляецца і тое, што да апошняга часу як з боку дырэкцыі, так і з боку партыйна-камсамольскай і прафэсыйнай арганізацый ня зьвернута належнай увагі на паляпшэньне бытавых умоў рабочых, на паляпшэньне грамадзкага харчаваньня. У рабочых бараках адсутнічаюць нават элемэнтарна санітарныя правілы. Вельмі часта рабочыя кладуцца спаць у спэцвопратках, сяньнікі, простыні і навалачкі ня мыюцца. У бараках няма перагатаванай вады, а там, дзе яна і ёсьць, дык стаіць па 4—5 дзён—не мяняецца. На заводзе маюцца два мэдычных работнікі, але растлумачальнай работы аб санітарыі ніякай не праводзяць.

**З грамадзкім харчаваньнем справа зусім дрэнная.**

Торфрабкоп яшчэ і зараз не павярнуўся тварам да рабочых, да выкананьня торфапляну.

Старшыня торфрабкопу т. Дзехцяроў па-ляваццкі адносіцца да забесьпячэньня сем'яў рабочых. Такім адносінам з боку загадчыка цэху грамадзкага харчаваньня трэба даць руйнуючы адпор, палажыць канец апартуністычным адносінам да сустаўнога цэху вытворчасьці—грамадзкага харчаваньня.

На заводзе маюцца брыгады, якія даюць узорныя прыклады бальшавіцкай барацьбы за торф. Напрыклад, брыгада тав. **Грачова** дае 35—40 тысяч цаглін у дзень, а дзённае заданьне 32 тысячы цаглін. На перасоўку машыны ў брыгадзе Грачова ідзе ня больш 30 хвілін, у той час, як, напрыклад, брыгада Дзянісевіча пры заданьні 30.000 цаглін у дзень дае 8—10 тысяч цаглін. На перасоўку машыны ў брыгадзе Дзянісевіча ідзе 2 гадзіны.

Аднак прыходзіцца канстатаваць, што арганізацыі заводу не паклапаціліся і па сёнешні дзень, каб узорныя мэтады і вопыт брыгады Грачова, узорныя прыклады паасобных ударнікаў зрабіць здабыткам усіх брыгад, якія адстаюць па торфаздабычы, зрабіць здабыткам кожнага рабочага.

Ня лепш стаіць справа і з культмасавай працай. Уся культмасавая праца сярод рабочых заключаецца ў тым, што па выходных днёх прыяжджае кіно. Іншай культмасавай працы на заводзе вы ня знойдзеце.

Камсамольская арганізацыя торфазаводу пляцецца ў хвасьце. Камсамольская арганізацыя нават ня імкнецца забясьпечыць выхад насьценгазэты, ня гледзячы на тое, што на заводзе пераважная большасьць рабочых з моладзі, дзе можна было б па баявому разгарнуць работу і па выпуску насьценгазэты і ўсю іншую масавую работу.

Усё разам узятае выразна паказвае на тое, што каб выканаць праграму торфаздабычы, неабходна зараз-жа зрабіць каранны пералом ва ўсёй рабоце торфазаводу ў барацьбе за торф. Неабходна мабілізаваць усю грамадзкую думку навакол праграмы завода, падпарадкаваць усе вытворчыя магчымасьці.

Заводакіраўніцтва павінна зрабіць усё магчымае для таго, каб узорныя прыклады бальшавіцкай барацьбы за торф лепшых брыгад і паасобных ударнікаў завода сталі здабыткам усіх рабочых торфазаводу „Чырвоны сьцяг“.

У аснову ўсяе барацьбы павінны быць пакладзены 6 гістарычных умоў тав. Сталіна, павінна быць самым шырокім чынам разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Завод павінен зьняць з сябе ганебную пляму—сыйсьці з чорнай дошкі, каб да канца сэзону 1932 г. даць дзяржаве 65.000 тон торфу.

За бальшавіцкую барацьбу ў выкананьні плянаў торфаздабычы!

Брыгада часопісі **„Шляхі Калектывізацыі“ ЦК ЛКСМБ** і насьценгазэты торфазаводу **„Чырвоны Сьцяг“: Т. Алесін, Д. Шмэрлін, М. Лугаўцоў, М. Палякоў.**

## КОЙДАНАВА, ЗАСЛАЎЕ, КРЫЧАЎ! ПРЫМАЙЦЕ ВЫКЛІК СМАЛЯВІЧ! ВЫКЛІК ОРШЫ ПРЫМАЕМ

## Смалявіцкі РКС і райаддзяленьне Саюздруку ўключыліся ў конкурс. Завербавана 87 паўгадавых падпісчыкаў

Смалявіцкі райкалгассаюз і райаддзяленьне Саюздруку вітаюць конкурс, аб'яўлены час. „Шляхі Калектывізацыі" на лепшае правядзеньне работы па пашырэньню часопісі, бо часопісь „Шляхі Калектывізацыі" зьяўляецца найлепшым дапаможнікам у пабудове сельскай гаспадаркі на сацыялістычных пачатках.

Смалявіцкі райкалгассаюз і райаддзяленьне Саюздруку па выкліку Оршы ўключыліся ў конкурс і ўзялі на сябе абавязацельствы: дабіцца, каб з 1-га ліпеня г. г. часопісь „Шляхі Калектывізацыі" выпісвалася ў кожным калгасе Смалявіцкага раёну. На сёнешні дзень ужо завербавана 87 паўгадавых падпісчыкаў.

Выклікаем пасьледваць нашаму прыкладу наступныя райкалгассаюзы і райаддзяленьні Саюздруку: КОЙДАНАВА, ЗАСЛАЎЕ і КРЫЧАЎ.

Просьба апублікаваць вашу згоду ў часопісі „Шляхі Калектывізацыі", даслаўшы копію нашаму райкалгассаюзу.

Старшыня Смалявіцкага райкалгассаюсу СКУРАТОВІЧ.

Загадчык Смалявіцкага аддзяленьня сувязі МАЛАШКА.

Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1555. 2125 экз.. Уп. Галоўлітбелу № А—2.

